№4 (979) 4 красавіка 2018 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

16+

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду



## І ўсё ж такі Ён уваскрос



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Гэты нумар «НН» выходзіць паміж каталіцкім і праваслаўным Вялікаднямі. Віншуем нашых чытачоў з гэтым светлым святам, святам надзеі на несмяротнасць дабра і добрых людзей.

## На Дзень Волі сабралася 50 тысяч чалавек



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Кульмінацыяй святкавання 100-годдзя незалежнасці стаў канцэрт ля Оперы.

Улады дазволілі свята і нават узялі на сябе некаторыя выдаткі. Не абышлося і без лыжкі дзёгцю: быў заблакаваны хуткасны інтэрнэт, і не ўсе СМІ здолелі весці анлайн-трансляцыю. Аднак «Белсат» усё ж змясціў запіс свята ў Ютубе.

Моцна крытыкавалі ўлады і за затрыманні прыхільнікаў Статкевіча, якія спрабавалі арганізаваць шэсце па цэнтры горада. У выніку 62 чалавекі апынуліся ў пастарунках, некаторых арыштавалі.

Тым не менш, калі гаварыць пра канцэрт, першы раз за шмат гадоў грамадства правяло святкаванне разняволена і з дазволу ўлад.

Варта сказаць, што па-рознаму да свята паставіліся музыкі і вядомыя людзі.

Святлана Алексіевіч не асмелілася выступіць, толькі перадала тэкст прамовы, бо баялася прамаўляць на холадзе – у яе праблемы з горлам. Затое на сцэну выйшлі гісторык Валянцін Голубеў, бізнэсовец Юрый Зісер, прадпрымальнікі і фундатары свята Алесь Ліпай з кампаніі БелаПАН і вытворца мэблі Зміцер Дашкевіч з «Цесляроў».

**Працяг на старонцы 3.**

# Легендарная гімнастка Вольга Корбут: Мяне згвалтаваў трэнер перад Алімпіядай. Кныш: Корбут — дура дурай

**Легендарная гімнастка Вольга Корбут у перадачы «Няхай гавораць» на расійскім Першым канале ўзняла тэму дамагальніцтваў і гвалту з боку яе трэнера Рэнальда Кныша.**



«Не ведаю, як гэта назваць па-руску. *Molesting*... дамаганні. У выніку перад Алімпійскімі гульнямі ў Мюнхене ён мяне проста згвалціў. Гэта праўда. Я жыву з гэтым. Гэта вельмі цяжка. Я хавала гэта ўсё. Гэта было вельмі сорамна. Мне нават табе было сорамна казаць (звяртаецца да былога мужа Леаніда Барткевіча). Гэта адбылося ў Мінску ў гасцініцы «Юбілейная». Проста перад Алімпійскімі гульнямі, калі мне споўнілася 17 гадоў», — сказала Корбут.

Цяпер Вольга Корбут жыве ў амерыканскім штаце Арызона, размаўляе з заўважным акцэнтам.

Мы звязаліся з 86-гадовым Рэнальдам Кнышам, які цяпер жыве ў Гродне, каб пачуць яго версію тых падзей. «Хваліцца няма чым», — расказаў пра сваё здароўе Рэнальд Іванавіч.

«Ідыятызм самы сапраўдны! Вырашыла падняць рэйтынг сабе, бо пра яе перасталі гаварыць апошнім часам. Чым падняць? Давай я прыніжу трэнера такім чынам. На ўвесь свет падыму размовы пра сябе. Няўжо я перад Алімпійскімі гульнямі, калі ёй сем гадоў жыцця аддаў, вазьму ды сапсую ўсё? Гэта чорт ведае што. Думкі ў галаве такой няма. Цяпер увогуле стала модна абвінавачваць людзей у згвалтаваннях, Віталіка Шчэрбу вось абвінавацілі», — кажа Кныш.

**Калі адносіны настаўніка і вучаніцы сапсаваліся?**

«У 1970-х яна перастала трэніравацца: маўляў, я і так выступлю і ўсё будзе добра. Таму другія Алімпійскія гульні яна правалiла. Я бачыў, што яна не хоча трэніравацца, таму не стаў яе рыхтаваць. Тады з ёй Тамара Аляксеева паехала, мая былая жонка».

**Ці ўжываў Кныш супраць Корбут фізічную сілу, пра што таксама казала гімнастка?**

«Ды ну што вы! Калі яна не хацела трэніравацца, то ўгаворваў яе, шакаладкі насіў, пераконваў, што яна найлепшая спартсменка ў свеце. І ўсё адно нічога не атрымлівалася. Думаю, дай зраблю, каб яна хоць на злосць мне пачала трэніравацца. Я ёй тады аплявуху даў. Пасля гэтага цалкам аддаў Вольгу трэнеру Аляксеевай. Расказаў, як трэніраваць, што рабіць. Гэта быў адзіны пляскач за жыццё», — расказвае настаўнік.

**А ці былі ўвогуле ў гімнастыцы выпадкі згвалтаванняў, пра якія было вядома ўсім?**

«Бывалі такія выпадкі, нешта чуў... — кажа Кныш, але працягваць не хоча. — Яна ў сваёй кнізе пісала, што ў яе было 23 пераломы і 4 страсенні мазгоў. Калі табе трэніравацца было, калі столькі траўмаў!»

**У чым спецыфіка працы з маладымі дзяўчынкамі?**

«З дзяўчынкамі цяжка, канечне. Яны хочуць, каб трэнер толькі на іх звяртаў увагу. Адна да другой раўнуюць. Ага, ён на яе больш паглядзеў, тады я трэніравацца не буду, на злосць не буду. І не толькі ў трэнераў-мужчын такое, але і ў жанчын. У маёй жонкі цяпер дзве найлепшыя ў рэспубліцы дзяўчынкі, дык кажа, што як толькі з адной пачынаеш трошачку больш займацца, то другая перастае».

Таксама мы паразмаўлялі з Вольгай Кныш, жонкай Рэнальда, пра тое, ці верыць яна ў гэтыя абвінавачванні.

«Адзін плавае ў крынічнай вадзе, а другі ў памыях плёскаецца. Я з Корбут разам трэніравалася. Калі мне споўнілася 16, то бацькі падарылі гадзіннік, як я рада была! У першы ж дзень, як толькі я прыйшла на трэніроўку, Корбут у мяне яго скрала. Потым яго мне вярнулі, справу замялі, бо Корбут была чэмпіёнкай рэспублікі. Калі трэнер адпрацаваў з вучаніцай 6–7 гадоў, а яна аказваецца дзярмом, вельмі цяжка кінуць і пачаць наноў», — кажа спадарыня Вольга.

«Я не магу сказаць, што мне прыемна ўсё гэта чуць, але чаму я павінна верыць гэтаму? Я столькі гадоў з ім разам, калі ўсё гэта адбывалася, то мы з Рэнальдам былі разам. У Рэнальда праз усю яго педагогіку чырвонай ніткай ідзе галоўная думка: стварыць вучню творчы настрой, каб ён станавіўся геніяльным. І я цяпер гэтым карыстаюся.

Я пагладжу, памацаю, пашлёпаю. Давай-давай, падыму. Але калі гэта мужчына робіць, то мо гэта і па-іншаму ўспрымаецца.

У мяне было шмат непрыемнасцяў, што я сюсюкаюся з дзецьмі. І Рэнальд рабіў таксама: пераконваў, падбадзёрваў, ніколі не абражаў, не біў. У той час у СССР вельмі часта выкарыстоўвалася рукапрыкладства. Я сама, калі пачынала працаваць, адзін-два плескачы дала, дык ён мне мазгі ставіў на месца: «Як ты можаш! Як табе не сорамна! Малое безабароннае дзіцё». Тры разы ён мне зрабіў заўвагу, і пасля гэтага я перастала такое практыкаваць цалкам».

Закранула Вольга Кныш і пытанне Віталя Шчэрбы, якога абвінаваціла ў згвалтаванні ўкраінская гімнастка Таццяна Гуцу. «Гуцу — дурніца. Яна ўсё жыццё была авантурысткай. Я добра ведаю Шчэрбу, ён можа троху рэзкаваты і хамаваты, але разумны і прыстойны хлопец. Усё, што яна пляце, гэта 100%-ная лухта. Людзі проста хочуць увагі».

Напрыканцы размовы Рэнальд Кныш падзяліўся сакрэтамі сваёй працы.

«У мяне два правілы: 1. Чалавек у стане натхнення становіцца геніяльным; 2. Рабская праца не прадукцыйная. Трэнеры, якія прытрымліваліся гэтых правілаў, рабілі алімпійскіх чэмпіёнаў».

«Калі шмат хваліць, то з часам вырастаюць хамы. Яны вераць, што самыя разумныя, прыгожыя, таленавітыя. Корбут так і зрабіла. А яна была лянівая і дурная. Вось і застаецца цяпер дура дурай», — скончыў размову Рэнальд Іванавіч.

**Зміцер Панкавец**

# Чыноўнікі плануюць забараніць ананімныя каментары ў інтэрнэце

Беларуская асацыяцыя журналістаў атрымала ад Палаты прадстаўнікоў праект закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь». Большай часткай папраўкі тычацца закона «Аб сродках масавай інфармацыі».

Якія змены хочуць зрабіць чыноўнікі і дэпутаты?

Інтэрнэт-рэсурсам прапануюць добраахвотна зарэгістравацца ў якасці СМІ. У такім разе іх супрацоўнікі атрымаюць (у крыху зрэзаным выглядзе) правы традыцыйных СМІ — напрыклад, праходзіць акрэдытацыю ў дзяржаўных органах, працаваць на масавых акцыях, мець права на абарону крыніцы інфармацыі. Аднак у такім разе трэба будзе мець юрыдычны адрас і праходзіць зацвярджэнне галоўнага рэдактара ў Міністэрстве інфармацыі.

Рэгістрацыю можна і не праходзіць, аднак усё адно давядзецца выконваць абавязкі, прадугледжаныя законам аб СМІ.

Галоўнае нававядзенне — абавязковая ідэнтыфікацыя каментатараў і ўдзельнікаў форумаў.

Апроч таго, дапускаецца магчымасць блакавання сацыяльных сетак — калі сацсетка адмовіцца выдаліць нейкую інфармацыю з чыёйсьці старонкі.

«Гэтыя змены ў заканадаўстве накіраваныя на ўзмацненне кантролю за інтэрнэт-сферай у Беларусі», — каментуе дакумент старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Андрэй Бастунец.

ГА «БАЖ» рыхтуе свае заўвагі па законапраекце, да 9 красавіка яны будуць прадстаўлены ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

**Браніслаў Юрэвіч**

### Юрый Зісер: Калі будуць такія змены ў закон аб СМІ, беларусы сыдуць на расійскія сайты

Пасля шматгадовага перапынку ў барацьбе з непажаданымі думкамі ўлада вырашыла паўтарыць «поспех» беларускага ТБ перад расійскімі тэлеканаламі, «вызваляючы» беларускі інтэрнэт ад беларусаў, якія з такой цяжкасцю ўтрымліваюцца ў ім, на карысць замежных сайтаў.

Падобна на тое, што пасля змены топ-каманды ў Мінінфарме не засталося людзей, якія карыстаюцца інтэрнэтам. А газетчыкі не разумеюць, што змена крыніцы інфармацыі або месца для абмеркавання навін з беларускага на замежнае ажыццяўляецца карыстальнікам у адзін клік без усякага дазволу дзяржавы і цалкам бясплатна.

Папраўкі з пункту гледжання ўзмацнення жорсткасці мелі б сэнс, калі б яны суправаджаліся фільтраваннем замежных навінавых сайтаў і сацыяльных сетак. Хачу бачыць, як Мінінфарм зафільтруе «Ленту.Ру» або «Мейл.Ру», «УКантакце» ці «Фэйсбук», ды хоць бы беларускі «Спутнік», як адрэагуюць Захад і Расія і як пасля гэтага будзе прасоўвацца экспарт беларускай прадукцыі (самазвалаў, «малочкі», асабліва хайтэку). Мы па значнасці ў свеце далёка не Кітай, нам «кітайскага» заканадаўства не даруюць. А калі не ўжываць папраўкі на справе, навошта яны?..

Калі ўлада вырашыла ў чарговы раз напалохаць нашы СМІ — дык яны і так пужаныя: па дзейным заканадаўстве можна закрыць любы сайт за пяць хвілін. Куды яшчэ больш жорстка?.. А вось любое ўзмацненне жорсткасці практыкі працы журналістаў, накшталт адсутнасці акрэдытацыі для непажаданых медыя, прывядзе да абмежавання іх магчымасці асвятляць падзеі і наогул рабіць сваю працу якасна. Ну а патрабаванне ідэнтыфікацыі карыстальнікаў прывядзе да іх сыходу на замежныя сайты, дзе няма абмежаванняў. А можа — хто ведае? — наша ўлада сапраўды задумала перадаць беларускую інтэрнэт-прастору Расіі і ЗША?

**Самае чытанае на nn.by за сакавік**

1 Як змяніліся краявіды Беларусі за 150 гадоў: аднаўляем мясціны Напалеона Орды

2 «8 сакавіка — лезе ў трусы рука!» — «Ленінград» выпусціў кліп на беларускай мове з Галыгіным, Ярмоленкам і Грыбалёвай

3 «Каб там нешта ўзарвалі, каб іхнія гнілыя вантробы разляцеліся»: праграміст кампаніі Juno выказаўся пра свята ля Опернага

4 Дзень Волі ў Мінску: анлайн, відэа, фоты

5 Жонка Галыгіна пра рэакцыю на кліп «8 Сакавіка»: Непрыгожыя курыцы без дзяцей і мужоў абсмоктваюць гумар, які ім не зразумець!

6 Што напісалі пра Дзень Волі БелТА, «Советская Белоруссія», БТ і АНТ?

7 Memento. 10 фактаў пра Хатынь, якія мусіць ведаць кожны

8 Новы этап вайны за розумы беларусаў — расійскі журналіст пра кліп Галыгіна

9 Віцэ-прэм'ер Балгарыі: І патрыярх Кірыл, гэты агент КГБ Міхайлаў, мае нахабства вучыць нас «ісціне»?

10 Шакуючая гісторыя ў Смаргоні: муж выразаў жонцы на лбе «б***», а пасля забіў сябе



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# На Дзень Волі сабралася 50 тысяч чалавек

Працяг са старонкі 1.

Сяргей Міхалок і гурт *Brutto* на Дні Волі не выступіў і не з'явіўся, хоць паралельны выступ у Мазыры таксама адмяніў.

Лявон Вольскі не змог паспяваць у Мінску, бо меў заключаны яшчэ год таму кантракт на святочны канцэрт для беларусаў Беластока, і яны не пагадзіліся яго адпусціць, калі стала ясна, што фэст адбудзецца і ў сталіцы Беларусі. Затое Вольскі экспромтам даў бясплатны канцэрт у Мінску 24-га. І паставіў свайго роду рэкорд: 600 білетаў на яго расхапалі за 55 хвілін.

З крыўдаю адмовіўся выступаць на Дні Волі і панк-рокер Кулінковіч.

Затое вялікім адкрыццём на сцэне перад Операй сталі дзёрзкія гродзенскія «Дзецюкі»: яны запалілі людзей найбольш. З захапленнем людзі прымалі таксама «Дай дарогу» з Брэста і *Akute* з Магілёва, Варашкевіча і Камоцкую. На сцэну выйшлі яшчэ Пятро Клюеў, *Nizkiz*, «Амарока», «МутнаеВока», РСП, Адэля Вольская.

Запомнілася свята таксама калектыўным спяваннем беларускіх гімнаў «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», «Пагоня» і «Магутны Божа». Арганізатары для гэтага раздалі прысутным 15 тысяч асобнікаў брашур з тэкстам.

Арганізатар свята Павел Белавус выказаў спадзяванне, што гэтае святкаванне зрушыць лёд у адносінах грамадства і ўладаў.

А найбольш паказальным фактам можна лічыць тое, што на правядзенне канцэрта праз інтэрнэт было сабрана каля 35 тысяч рублёў. Свае грошы пералічылі 1100 чалавек, яшчэ прыкладна 300 дапамагалі ўласнай работай па арганізацыі свята.

**Сяргей Гезгала**

# Павел Белавус: Якім я бачу 25 Сакавіка ў наступным годзе і будучыні

Піша адзін з арганізатараў канцэрта, што адбыўся на 100-годдзе БНР.

Лічу, што найлепшай агульнай назвай для 25 сакавіка будзе — Дзень Беларусі #belarusday. У нас ёсць некалькі афіцыйных і неафіцыйных Дзён Незалежнасці і блізкіх да яго, ёсць ужо шматгадовы Дзень Волі. Але гэта ўсё не тое.

Па факце 25 сакавіка — гэта своеасаблівы дзень нараджэння Беларусі, дзень пачатку фармавання сучаснай Беларусі, яе дзяржаўнасці, дзень, з якога пачалася новая гісторыя Беларусі.

І з улікам таго, што галоўны вокліч беларусаў — «Жыве Беларусь», а жыць Беларусь пачала якраз 100 гадоў назад, у тыя часы, дарэчы, і з'явіўся гэты вокліч. Ды і адказ на гэты вокліч «Жыве вечна!» цяпер гучыць больш упэўнена, бо Беларусь (менавіта Беларусь, а не ВКЛ, Рэч Паспалітая, Полацкае княства) дакладна ўжо стагоддзе жыве.

Таму першая прапанова такая: пачаць кампанію па прызнанні 25 сакавіка дзяржаўным святам і святочным днём з формай назвы «Дзень Беларусі» і паралельна міжнародную кампанію па папулярызацыі 25 сакавіка як Міжнароднага дня Беларусі з кароткай назвай «*Belarus Day*».



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Калі разважаць пра 2019 год, то для правядзення маштабнага свята ў Мінску я бачу дзве магчымыя лакацыі:

1. Палац спорту, пляцоўка перад Палацам спорту і «Галерэя Мінск»;
2. «Мінск-Арэна», пляцоўка перад арэнай і канькабежны стадыён.

Калі наступная дата 25 сакавіка будзе прынятая выходным і святочным днём, то ўсе асноўныя мерапрыемствы адбудуцца без зменаў — 25-га. У іншым выпадку фестываль пройдзе 24-га сакавіка, а 25-га толькі вялікі вечаровы святочны канцэрт.

25 сакавіка можа ў будучым стаць яшчэ больш значнай датай у агульным штогадовым календары беларуса. Адметнай датай, з якой рэальна зрабіць і нацыянальны пазнавальны брэнд Беларусі ва ўсім свеце, як ірландскі Дзень святога Патрыка, як Казюкас у Літве, як Актоберфест у Германіі, як Свята квітнення сакуры ў Японіі.

У кожнага з гэтых святаў розная гісторыя, традыцыі і формы, але кожнае з іх з'яўляецца брэндам краіны, які папулярызуе яе традыцыі на ўвесь свет.

Вясновы час, калі прачынаецца пасля зімы прырода і зямля, — час калі і сам беларус абуджаецца, магчыма, не выпадкова ў гэты час і была абвешчана незалежнасць БНР, якая і дала жыццё новай Беларусі.

Чакаю вашых каментароў, ідэй і развіцця тэмы.

Цалкам прапановы Паўла Белавуса можна прачытаць на nn.by.

### Хай 25 Сакавіка стане беларускім Днём святога Патрыка

Для свята я прыдумаў некалькі назваў, але можа быць і іншая:

Новая Беларусь — фестываль Беларусі новага стагоддзя;

Наша ўсё! — паказаць беларускае самім беларусам;

*Open Belarus* — адкрыць і паказаць Беларусь.

# Хворага на рак 80-гадовага мужчыну міліцыянты некалькі гадзін пратрымалі на расцяжцы

Ён у гэты час маліўся.



25 сакавіка 80-гадовы Альберт Шарамет выйшаў на плошчу Якуба Коласа. «Я раней хадзіў амаль на ўсе дэманстрацыі, а апошнія гады раблю гэта радзей, ужо і здароўе не тое, — расказвае ён. — Пачуў па радыё, што будзе акцыя на плошчы Якуба Коласа а 12-й, але нават не думаў, што яна недазволеная. Ведаў, што канцэрт а 13-й, дык думаў, што пройдзем шэсцем да канцэрта спакойна».

З сабой мужчына ўзяў вудачку, а таксама бел-чырвона-белы сцяг, які трымаў у пакеце.

«Прыехаў я рана. Пазнаёміўся з Аляксандрам Сахаруком з Брэста, яго затрымлівалі, калі на 9 Мая ўзняў бел-чырвона-белы сцяг. Да мяне падышоў ці то палкоўнік, ці то падпалкоўнік, які параіў сысці адсюль. Я дастаў з кішэні Канстытуцыю, кажу: гэтая кніжка гарантуе мне права на мірныя сходы. Потым мяне яшчэ раз папярэджвалі, каб сышоў ад плошчы на 50 метраў. У трэці раз ужо не папярэджвалі, а затрымалі. Я не стаў супраціўляцца», — кажа Альберт Шарамет.

У аўтазаку, у якім апынуўся спадар Альберт, было 25 чалавек. «У мяне адразу адабралі тэлефон, вуду, я баяўся, каб сцяг не забралі. Мне ён вельмі дарагі. Некалі падчас шэсця на Дзяды сцяг даў Віктар Івашкевіч, а магчымасці аддаць ужо не было».

Для Альберта Георгіевіча гэта было першае затрыманне за 80 гадоў жыцця. Адвезлі ўсіх у Савецкі РАУС.

«Паставілі на вуліцы каля нейкага плота тварам у сценку. Патрабавалі, каб рукі трымалі на плоце і нават не паварочваліся ў іх бок, каб не бачылі твараў. Я чуў, як абражалі жанчын, рассоўвалі ногі мужчынам, адному ледзь не зламалі хрыбетнік», — працягвае аповед дзядуля.

Колькі затрыманых так мучалі?

«Вельмі доўга, у мяне не было гадзінніка, а мабільны забралі, але гэта больш за тры гадзіны. Не было нават гаворкі, каб сесці, усё на нагах. Толькі калі правodзілі вобшук асабістых рэчаў, то я папрасіўся ў туалет — у мяне рак прастаты, — мяне адвялі, а потым прывялі назад. Забралі акуляры, таму я амаль не бачыў іхнія твары, забралі шалік, таму даводзілася закрывацца каўняром, было вельмі холадна нагам», — расказвае спадар Альберт.

Што ён рабіў у гэтыя хвіліны?

«Маліўся. Не за сябе, за сябе мне даўно не страшна, за сваіх родных, за іншых затрыманых».

Так атрымалася, што спадара Шарамета павялі апытваць ды вызвалялі адным з апошніх: «Справа ў тым, што я апынуўся ў сярэдзіне шэрагу, а людзей выводзілі па адным з кожнага з бакоў, таму я і заставаўся амаль да канца».

Альберт Шарамет нарадзіўся ў 1937 годзе. Добра памятае вайну. Згадвае, як у Барысаве паліцаі перахапілі яго з маці на мосце праз Бярэзіну. «Казалі, што мы на вас нават кулі траціць не будзем, проста скінем у ваду, і вы ўтопіцеся», — згадвае ён.

Працаваў Альберт Шарамет у Машынабудаўнічым інстытуце і Тэхналагічным універсітэце ў Магілёве. Калі ажаніўся, пераехаў у Мінск. Працаваў у канструктарскім бюро пры Міністэрстве сельскага будаўніцтва БССР, апошнім месцам працы была «Рэмэнергамеханізацыя», адкуль ужо і сышоў на пенсію.

Ад канца 1980-х Альберт Шарамет далучыўся да руху за незалежнасць і дэмакратыю. Мае сына і ўнучку.

**Зміцер Панкавец**

# АМАП затрымлівае бабульку на плошчы Якуба Коласа





СКРЫНШОТ З ВІДЭА РАДЫЁ «СВАБОДА»

Міліцыя правяла масавыя затрыманні людзей на плошчы Якуба Коласа, якія 25 сакавіка спрабавалі арганізаваць шэсце па цэнтры горада з патрабаваннем свабоды і лепшага жыцця для людзей. Сярод затрыманых было шмат старых людзей. У прыватнасці, свет абышлі кадры затрымання вось гэтай жанчыны.

# «Шкада было людзей» — старшыня сельвыканкама растлумачыла, чаму складала пратаколы на вяскоўцаў і сама плаціла штрафы

Вольга Дадыкіна, старшыня Мушынскага сельскага выканкама, што ў Амсціслаўскім раёне, на пасадзе ўжо каля 10 гадоў. Пакуль што яна працягвае працу.

Але нядаўна на жанчыну завялі крымінальную справу, ёй пагражае ад 3 да 10 гадоў зняволення.

Дадыкіну вінавацяць у тым, што ў 2015 і 2016 гадах яна складала на вяскоўцаў адміністратыўныя пратаколы, якія пасля сама ж і аплачвала.

Як паведамляе Камітэт дзяржкантролю, Дадыкіна рабіла гэта, «каб стварыць бачнасць актыўнай працы па добраўпарадкаванні населеных пунктаў». Бо інакш яе саму маглі б прыцягнуць да адказнасці за бяздзейнасць.

Вольга Яўгеньеўна растлумачыла «Нашай Ніве» падрабязнасці абсурднай гісторыі.

«Усе пратаколы я складала за смецце, побытавыя адкіды, якія ляжаць на ўчастках, ля хат...

2015—2016 гады былі вельмі напружанымі. Прыязджалі шмат разоў санстанцыі, правяралі. З нас патрабавалі штотыдзень: што з пратаколамі, колькі за тыдзень? Прыходзілася складаць.

Кожны квартал мы давалі справаздачы ў Магілёў, колькі складзена адміністратыўных пратаколаў за побытавае смецце. Такі перыяд быў.



Але пратаколы складаліся не таемна. Прыязджалі санстанцыя і «экалогія», рабілі заўвагі. Пасля я складала пратакол і паведамляла чалавеку, што зрабіла, давала яму падпісанне. Пасля прыязджалі і правяралі — прыбралі яны ці не. Часам прыходзілася нам самім нават прыбіраць!» — распавядае Дадыкіна.

«Ды і сама я плаціла. «Экалогія» на мяне складала пратаколы за смецце. Я плаціла па 30 базавых, — узгадвае яна. — Але вяскоўцам я пісала мінімальныя сумы штрафаў — 0,1 базавую. Тады былі мізэрныя заробкі, і выпісваць па максімуме, ведаеце... Шкада было людзей. Плаціць ім усё роўна не было чым.

Гэта рабілася не для таго, каб кагосьці пакараць... Хаця пакараць, можа, і варта было. На тых, на каго складаліся пратаколы, было за што складаць. Гэта не тое, што вось мне захацелася – і я склала...

Часам аплачвала штрафы сама. Бо, калі штраф не аплачаны ў пэўны тэрмін, справа ідзе ў суд. Таму я і плаціла, каб на людзей у суд не падавалі.

Некаторыя вярнулі грошы пасля. Некаторыя — не».

УШ

# Расіянка не была ў Беларусі з часоў СССР і цяпер не можа стрымаць захаплення: «Тут няма беспрацоўя і карупцыі, а моладзь атрымлівае кватэры!»

Жыхарка Кастрамы, маркетолаг Наталля Сакалова нядаўна наведала Беларусь. Мяжу з нашай краінай яна не перасякала з 1985 года, і калі гэта адбылося цяпер, яна «страціла здольнасць размаўляць на паўгадзіны». «Мне стала сорамна за нашу вялікую і абкрадзеную Расію», — напісала жанчына ў сваім блогу.

Як чалавеку, што паглядзеў на Беларусь збоку, у першую чаргу ёй кінулася ў вочы наступнае:

засеяныя палі (і тое, што зямля пры гэтым у дзяржаўнай уласнасці);

сытыя статкі кароў;

дэкаратыўныя птушкі на палях;

прыпынкі, кожны з якіх мае свой дызайн, клумбу, смецніцу, і разметка на асфальце, як у падручніку па кіраванні;

беласнежныя прыгожыя платы (якія, як расказалі Наталлі, «людзям раздаў урад»);

развітая кааперацыя і адсутнасць беспрацоўя.

Калі Наталля ўбачыла, як у беларускіх сёлах (у каментары «НН» яна паведаміла, што гасцявала ў сваякоў у Гомельскай вобласці) жывуць даяркі, ёй стала крыўдна за рускіх прадстаўніц гэтай прафесіі.

«Даяркі і яе мужу-механізатару калгас падарыў 2-павярховую цагляную хату. Праўда, наверсе ўсяго адзін пакой, але ўсё роўна крыўдна за расійскіх даярак. Галоўнаму аграному калгас падарыў катэдж, тры паверхі, цагляны. За высокія надоі даярцы калгас падарыў карову... У беларускіх вёсках няма беспрацоўя. У калгасе ўладкаваны нават самы няшчасны мужычок, які выпівае: сядзіць у гаражы і дапамагае майстрам, чым можа».

Парадавалася Наталля і за нашу моладзь: «Маладым даюць кватэры ад дзяржавы. Напрыклад, адслужыў у арміі, скончыў сярэднюю адукацыю на будаўніка, папрацаваў год, хоп — вось табе двухпакаёвая кватэра ў Мінску. Ніякіх іпатэк — жыві, гадуй дзяцей, радуйся жыццю».

У канцы сваёй вандроўкі Наталля задалася пытаннем, якое адрасуе расійскім чыноўнікам: «Ну, як так шмат можна ў нас, у Расіі, красці? Як ім там, «наверсе», не сорамна? Яны ж ездзяць па свеце, бачаць узровень «там» і «тут». Наша краіна мае столькі прыродных рэсурсаў, багацця, мы маглі б квітнець! Але — не. Пустазелле-трава, у эканоміцы манаполія — і карупцыя...

Хай у Беларусі людзі жывуць небагата, але не бядуюць і не галадаюць, ядуць сваю чыстую і здаровую ежу, а не сурагаты. Там на першым месцы чалавек, а грошы на дзясятым, а ў нас усё наадварот: на першым месцы грошы, а чалавек на дзясятым.

Гонар і хвала таму прэзідэнту, які вядзе такую палітыку ў дачыненні да сваёй дзяржавы!» — заканчвае свой хвалебны пост блогерка.

У нейкі момант чытання эсэ Наталлі склалася ўражанне, што ён можа быць заказным. Але жанчына патлумачыла нам, што проста любіць і Беларусь, і Расію аднолькава, таму так шчыра выказвае свае пачуцці. Але ўдакладніла:

«Вядома, я распавяла толькі пра добрае, пра негатыў не пісала. Ён ёсць у любым месцы».

Захапіўшыся Беларуссю, жанчына марыць аддаць вучыцца ў Мінск сваё дзіця ў IT-сферу.



Наталля з сям'ёй. Фота vk.com.

# Трагедыя беларуса-бюджэтніка ў адной абсурднай гісторыі: «Я парушу закон альбо згублю працу праз нявыкананы план?»

Нядаўна на старшыню сельсавета пад Амсціславам завялі крымінальную справу — жанчына складала на вяскоўцаў пратаколы, якія часам сама і аплочвала. А ўсё таму, каб яе саму не пакаралі за бяздзейнасць.

Пасля гэтай гісторыі ў «Нашу Ніву» звярнуўся яшчэ адзін супрацоўнік бюджэтнай сферы, які распавёў, што таксама стаіць перад складаным выбарам: альбо выканаць план, альбо застацца без працы.

Антон (імя зменена па просьбе суразмоўцы) жыве ў адным з райцэнтраў. Працуе ў інспекцыі па насенняводстве, каранціне і ахове раслін. Такія арганізацыі існуюць у кожным раённым цэнтры (яны падпарадкоўваюцца абласным інспекцыям, тыя — рэспубліканскай).

«Кожнай інспекцыі даводзіцца план па платных паслугах. Насенняводы правяраюць дакументы на насенне, інспектары аховы раслін правяраюць атруту, якую выкарыстоўваюць у сельскай гаспадарцы супраць насякомых.

Я працую ў інспекцыі па каранціне. Мая справа — праверка і афармленне дакументаў на садавіну і гародніну, якую павязуць за мяжу. Звычайна гэта робяць арганізацыі ці іпэшнікі, але ж мне іх не залічваюць. Па плане я павінен прадставіць платныя паслугі фізічнай асобе — то бок звычайнаму чалавеку, які павязе, напрыклад, бульбу за мяжу.

У мяне павінен быць мінімум адзін такі кліент на месяц, — тлумачыць Антон. — Але ў гэтым крыецца вялікая праблема. Бо звычайныя людзі ні садавіну, ні гародніну за мяжу не вывозяць — бо гэта ім не трэба».

Прычым, падкрэслівае суразмоўца, той кліент мусіць везці больш за 15 кілаграмаў садавіны ці гародніны. Бо калі менш, то дакументы афармляць не трэба.

Такога кліента, сцвярджае Антон, у райцэнтры знайсці проста немагчыма.

«Напрыклад, вы везяце бульбу. Па-першае, вам яшчэ летам трэба зрабіць аналіз глебы, гэта 10 рублёў. Пасля ў абласным цэнтры праверыць бульбу на вірусы (у раённых гэты аналіз не робяць). Тое яшчэ рублёў 10—12. Пасля вы прыйдзеце да мяне з усімі даведкамі і каля 50 рублёў заплаціце за сертыфікат, які дазваляе вывезці вашу бульбу за мяжу (такі сертыфікат выдаецца адзін на машыну, няважна, якая маса грузу, хоць 20 кілаграмаў, хоць 20 тон). Затым чалавек прыедзе на рынак, там яму трэба таксама заплаціць... Ну і ў выніку ніхто гэтага не робіць, — паціскае плячыма Антон. — У нашым раёне ёсць некалькі іпэшнікаў, але па плане мусіць быць аформленая яшчэ ж фізічная асоба — а яе няма. Ну проста няма. За месяц ніхто не звярнуўся».

Не звяртаюцца людзі, мяркуе Антон, бо везці бульбу ў тую ж Расію проста нявыгадна.

«У нас прымушаюць мясцовае райпа ездзіць у Расію — здаецца, два разы на год яны мусяць удзельнічаць у сельскагаспадарчых кірмашах. Райпа мае свой план па экспарце, таму вымушанае ездзіць. Яны афармляюць дакументы, плацяць кіроўцу, прадаўцу сутkавыя... Выгадныя такія паездкі не заўсёды, але ж выбару няма. План ёсць план, райпа мусіць ехаць», — кажа Антон.

«Нам план па фізічных асобах давялі нядаўна. Паведамілі, што ў сакавіку мусіць быць мінімум адзін такі кліент. Калі план не выканаеш, на наступны месяц сядзіш за свой кошт — бо значыць, што працы няма і ты сам яе сабе не шукаеш. — І вось я думаў ужо сам заплаціць тыя 50 рублёў, каб не сядзець пасля без працы... Заробак у мяне 300—400 рублёў, можа, і невялікі, але лепш такі, чым ніякага. Але не ведаю, як аформіць дакументы і на каго. Сертыфікат — гэта бланк строгай справаздачнасці, сур'ёзны дакумент... І не ведаю, ці магу яго проста так, «у пустату» выдаць, і што будзе са мной, калі хтосьці даведаецца. І што гэта будзе — падробка дакумента і парушэнне закона? Ці не?

Да таго ж, што, мне цяпер прыйдзецца штомесяц плаціць самому? І выпісваць ліпавыя даведкі самому сабе?»

Акрамя таго, па словах Антона, трэба шукаць і іншых кліентаў. Кажа, начальства патрабуе, каб мінімум два чалавекі, якія гандлююць у райцэнтры, звярнуліся да яго для праверкі гародніны.

«І ў выніку нас прымушаюць ганяць на мясцовым рынку бабулек, якія гандлююць расадай, каб яны афармлялі ў нас дакументы: правяралі сваю зямлю, рабілі патрэбныя аналізы. Канечне, ім гэта зусім не трэба, — кажа Антон. — Плюс яшчэ праблема: у нас па платных паслугах прагрэсіўная сістэма. Гэта значыць, што калі мы летась зарабілі на платных паслугах умоўныя 100 рублёў, то сёлета мусім зарабіць 150. Але гэта немагчыма. Бо колькасць гаспадарак у раёне не расце, вёскі выміраюць. Адпаведна, не расце і колькасць зваротаў да нас. Адкуль тады нам узяць грошы, калі паслугі патрэбныя толькі тым самым людзям? Невядома».

У галоўнай рэспубліканскай інспекцыі па насенняводстве, каранціне і ахове раслін словы Антона абвяргаюць.

«Ніякіх планаў нікому не даводзіцца, бо іх проста не існуе. Аказанне платных паслуг адбываецца па заяўным прынцыпе: ёсць кліент — значыць прадастаўляюцца паслугі. А калі кліента няма, то ніякага пакарання для работніка інспекцыі быць не можа. Гэта выдумка вашага суразмоўцы», — запэўніў «Нашу Ніву» Аляксандр Піскун, дырэктар рэспубліканскай інспекцыі.

УШ

# «Штосьці хаваюць, а што — не ведаю»: што адбывалася ў сям'і з Радашкавіч, адкуль за збіццё забралі дзевяць дзяцей

З сям'і Зоі і Сяргея Канановічаў з Радашкавіч забралі 9 дзяцей. Камісія па справах непаўналетніх вырашыла забраць дзяцей, бо была інфармацыя пра пабоі і пагрозы калектыўнага самагубства. Канановічы, прыхаджане царквы евангельскіх хрысціян-баптыстаў, нібыта збівалі дзяцей рэменем, кажучы, што іх карае Бог.

Пра гэта расказаў адзін з хлопчыкаў. Таксама малы паведаміў, што мама абяцала сысці разам з дзецьмі да Бога — на Вялікдзень або ў Вербную нядзелю. І папярэджвала, што да іх усіх прыйдзе смерць.

Сёння Канановічы на кантакт не ідуць. Дзверы не адмыкаюць ані яны, ані бабуля (маці Сяргея), якая жыве побач. Тэлефоны таксама не здымаюць ані Сяргей, ані Зоя. Таму пра сітуацыю ў сям'і даводзіцца меркаваць толькі са словаў суседзяў і знаёмых.

Суседзі ведаюць няшмат. Кажуць: «Канановічы вельмі закрытыя. Зносін ні з кім не падтрымліваюць. Жывуць, здаецца, нармальна, нікому не перашкаджаюць. З кватэры часта чуваць, як спяваюць рэлігійныя песні».

Пра дзяцей суседзі кажуць, што тыя былі дагледжаныя. Чагосьці надзвычайнага ў іх паводзінах ніхто не заўважаў. Яшчэ ў 2014 годзе Зоя Канановіч атрымала ордэн Маці. На той момант у яе было 6 дзяцей.

Праўда, і ўвагі на Канановічаў асабліва ніхто не звяртаў — суседзі нават не ведаюць, дзе і кім працуе Сяргей. Кажуць, дзесьці на чыгунцы, ды і ўсё.

Аналагічна і з суседзямі Галіны, маці Сяргея. Суседзі паціскаюць плячыма і паўтараюць тое ж, што і суседзі яе сына: «Верніца, вельмі закрытая....»

Але дзеці адной з суседак, Алы, сябравалі з дзецьмі Канановічаў. Жанчына распавяла трохі падрабязней пра побыт сям'і вернікаў.

Агулам у іх 9 дзяцей. У іх прыгожыя, рэдкія імёны: Злата, Суламіта, Лучазара, Евангеліна... Ёсць таксама Караліна, Елісей.

«Некаторыя кажуць, што ў іх грошай было шмат, што яны вандравалі... Гэта няпраўда. Асаблівых праблем не было, але і багата не жылі. Сяргей хацеў адрамантаваць машыну ў майго мужа і ўсё прасіў зніжку, бо было дорага. У выніку так і не адрамантаваў: грошай не хапіла», — кажа Ала.

Па словах жанчыны, Канановічы жылі сапраўды вельмі закрыта.

«Зоя нідзе не працавала і ні з кім асабліва зносін не мела. Не мела і сябровак. Яна ўвогуле некантактная. Сустрэнеш — у вочы не глядзіць, пазбягае размоваў. Але ж ізноў, нічога надзвычайнага. Неяк яна дала мне запрашальнікі на Раство, у царкве быў вечар, — узгадвае Ала. — А дзеці вельмі добрыя. Дагледжаныя. Загартаваныя, увесь час бегаюць на вуліцы. Гэтыя дзеці першыя выходзілі на двор і апошнія сыходзілі.

Цацак яны не маюць амаль зусім. Тэлевізара таксама ў сям'і няма. Мабільнікаў у дзяцей няма. Тыя ж ролікі і ровар яны бралі ў маіх дзяцей, бо ў Канановічаў толькі адзін ровар: малы дзіцячы, на трох колах. Калі ў Канановічаў нарадзіліся двайняткі, я аддавала ім праз іх старэйшую дачку дзіцячыя рэчы. Узялі».

Дзеці і вельмі дысцыплінаваныя, падкрэслівае суседка.

«Яны бывалі і ў нас. Добрыя! Але заціснутыя, цяжка ідуць на размову, сарамлівыя... Пытаешся, як справы, — маўчаць. Я ўвогуле здзіўленая, што хтосьці з іх паскардзіўся на бацькоў чужым, — кажа



Зоя Канановіч.

жанчына. — Больш адкрытая толькі Караліна, ёй каля 12 гадоў.

Яна неяк сказала, што Зоя чакае двайнятак. Я здзівілася: дзе ж яны будуць спаць у той кватэры такой вялікай сям'ёй? Караліна кажа: нічога, дастанем два матрацы з падвала. Пытаюся: вы што, на матрацах спіце? Адказвае: так, у нас у адным пакоі ляжаць усе матрацы, там спім».

Кватэра Канановічаў тыповая. Двухпакаёўка, каля 60 квадратаў. У ёй і жылі 11 чалавек.

«У суседнім доме жыве Галіна, маці Сяргея. Частка дзяцей нярэдка начавала ў яе, — кажа Ала. — Таксама аднойчы мы з дзецьмі выйшлі гуляць, а ў двары ўсе дзеці Канановічаў, акрамя Златы. Пытаемся, а дзе тая. Дзеці кажуць: сёння чарга Златы мыць падлогу і прыбіраць. А Златце — шэсць з паловай гадоў».

Цяпер па Радашкавічах актыўна распаўсюджваюцца разнастайныя чуткі. Выглядае, што ў сям'і Канановічаў штосьці сапраўды змянілася пасля нараджэння апошняга дзіцяці ў верасні 2017 года.

Вельмі змяніўся муж. Схуднеў, выглядае вельмі кепска. Пра гэта кажуць усе суседзі.

«Сяргей страціў кілаграмаў 20», — кажа пастар мясцовай царквы.

Таксама і перамены з дзецьмі пачалі заўважаць і ў царкве, і ў школе.

«У Караліны змяніліся паводзіны. Яна апошнім часам стала вельмі агрэсіўная. Аднойчы прыйшла ўвогуле ў слязах. Я пытаюся: што такое? Яна адказала: «Табе без розніцы», — распавяла «Нашай Ніве» Насця, аднакласніца Караліны Канановіч. — Часам ела ў сталоўцы настолькі прагна, нібыта зусім галодная... Класная была ў курсе».

Алена Васільеўна, класны кіраўнік Насці і Караліны, адмовілася ад каментароў.

Але ж атрымалася пагаварыць з Аляксандрам Уласавым, пастарам мясцовай царквы, куды хадзілі Канановічы.

«Яны адносяцца да Красненскай царквы, але заходзілі і да нас. Дзеці займаліся ў нашай нядзельнай школцы. Праблем ніколі не было. Але пасля нараджэння апошняга дзіцяці штосьці здарылася. Астатнія дзеці перасталі наведваць нядзельную школу. Мы пацікавіліся ў Канановічаў, што здарылася, нам не адказалі. Але дзеці зноў пачалі наведваць школку, — кажа Уласаў. — Праўда, часам было бачна, што дзеці прыходзяць без настрою, сумныя. Але пра нейкія канкрэтныя праблемы ніхто нічога не ведаў. Самі дзеці нічога не расказвалі таксама.

Зоя сама перастала ўвогуле хадзіць у царкву: і да нас, і ў Красненскую. Не ведаю чаму. Дома ў іх усё нармальна. Парадак, усё добра. Але ж тое, як яны каралі дзяцей, — гэта ненармальна.

Я пытаўся, калі пачаліся такія пакаранні, чаму... Яны не адказваюць. Закрываюцца і ад нашай царквы, і ад Красненскай. Штосьці хаваюць, а што — не ведаю. Але пачалося ўсё гэта менавіта пасля родаў, з верасня. Нават калі гэта ў Зоі пасляродавая дэпрэсія, то куды тады глядзіць муж?» — заўважае пастар.

Сёння Канановічы ў кватэру нікога не пускаюць, пацвярджае пастар.

«Але, калі толькі з'явілася пагроза, што дзяцей забяруць, яны пускалі ўсіх. Месяца паўтара таму прыязджаў пастар Красненскай царквы. Нічога падазронага не ўбачыў. Прыязджалі да іх браты, цётка... Але цётка хацела перанавачаваць — ёй не дазволілі», — узгадвае Уласаў.

«Калі забралі дзяцей, мы з царквы прыходзілі да Канановічаў, каб падтрымаць. Але яны замыкаюцца. Нічога не кажуць. Адзіны адказ: у нас усё добра. Нават цяпер, калі дзяцей забралі, яны адказваюць толькі так: «У нас усё добра», — кажа пастар.

Улад Швядовіч

# Крык душы студэнта БНТУ: IT-краіна? У нас нават забараняюць пісаць курсавыя на камп'ютары!

Я амаль заканчваю Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт, будаўнічы факультэт. І вось у той час, як з прэзідэнтам мы будуем IT-краіну, выкладчыкі будфака забараняюць выкарыстоўваць камп'ютар для выканання курсавых работ. Ад слова «зусім».

Матывуюць, што змагаюцца з плагіятам. Але гэта нонсэнс. Нікому не сакрэт, што існуе цэлая індустрыя па перапісванні курсачоў. Хто хоча спісаць і купіць — зробіць.

Яшчэ адна адгаворка выкладчыкаў: плагіятараў і купцоў курсавых не выгнаць, бо забараняюць, таму хоць як выхаваць вось такімі дурнымі патрабаваннямі. Лухта! Проста выкладчыкі трымаюцца за дробныя прэміі (вядома, што, калі адлічваць шмат, — прэмія гудбай), а яшчэ ім лянота прымаць пер898 здачы, бо другая праца ёсць, і часам яна не другая, а першая, а выкладанне — па выцвілым ад часу канспекце студэнцкіх часоў выкладчыка. Дый да таго ж, чаму праз гультаёў пакутуюць нармальныя студэнты?

Яшчэ адзін нонсэнс. У будаўнічай галіне існуюць стандарты. Беларусь два гады таму перайшла на еўрапейскія з савецкіх. А вось кафедра металаканструкцый вучыць па сённяшні дзень савецкім, некаторыя з якіх адменены нават у Расіі.

І нават забараняюць выкарыстоўваць еўрапейскія ў вучэбным праектаванні. Адна з думак, чаму так — гэта таму, што 90 адсоткаў выкладчыкаў не жадаюць разбірацца ні з чым новым і працуюць па старых БНІПах (будаўнічых нормах), але даюць працу астатнім 10%, якія запрашаюць студэнтаў на платныя курсы па вывучэнні еўракодаў. У навучальны час кансультаваць студэнтаў, як працаваць з еўранормамі, з гэтых 10% выкладчыкаў адмаўляецца палова — ідзіце на платныя курсы. Гэта відавочная нізасць і паскудства. Але добры спосаб смактаць грошы з праектных фірмаў.

Глядзіце. Кожны год з 200 студэнтаў выпуску 60 ідуць у праектаванне. За пяць гадоў асвоілі б гэтыя нормы ва ўсіх фірмах. Але не. Выкладчыкі, відаць наўмысна, не вучаць, каб смактаць грошы з фірмаў. Прыязджаюць два чалавекі раз на год і праводзяць курсы па новых нормах без адрыву ад вытворчасці і за вялікія грошы.

Што не перашкаджае кафедры засвойваць грошы дзяржавы ўжо дзесяць гадоў на вывучэнне еўрапейскіх нормаў і расказваць на канферэнцыях, як яны інтэгравалі іх у навучальны працэс.

Варта адзначыць што не весь будаўнічы факультэт гнілы, ёсць выкладчыкі, якім хоць за 80, але яны аўтары самага сучаснага і шыкоўнага з рускамоўных падручнікаў па механіцы — іх люблю і паважаю. Тады як у некаторых іншых выкладчыкаў патрабаванні настолькі дурныя, што нельга нават выкарыстаць праграмаваны калькулятар!

Бо выкладчык не пабачыць ход вылічэнняў (напрыклад, A+B=3+2=5, а на калькулятары, не кажучы пра сістэмы інжынерных вылічэнняў, так не зробіш. Яны выдадуць на дысплей адказ A+B=5, а выкладчыкі ўсё перакрэсліваюць. Яны яшчэ кажуць: «У нашы часы (60-я) мы і ўвогуле без калькулятараў жылі і выраслі нармальнымі людзьмі». Яшчэ кажуць, што дзесьці ў Германіі таксама такія ж патрабаванні. Але гэта поўная лухта. Большасць з выкладчыкаў і моў замежных не ведаюць.

Я вось ведаю студэнтаў з Францыі ды Польшчы — нідзе няма такога. Наадварот, у навучальных праграмах там акцэнт на авалоданне камп'ютарнымі тэхналогіямі.

Можа падацца, што гэта дробязь. Але не зусім. Па-першае, гэта адставанне ад свету. Падругое, дурная муштра рыхтуе рабоў, а не творцаў. Патрэцяе, бай-бай экспарт тых жа інжынірынгавых паслуг, а маглі б хмарачосы для сяброў Лукашэнкі з Катара маляваць. Па-чацвёртае, бай-бай замежныя студэнты (будфак з іх нязменнай з 60-х гадоў праграмай просіць шалёныя грошы з замежнікаў за падрыхтоўку на рускай мове). Па-пятае, кансервуецца адставанне будаўнічай галіны.

Для мяне гэта ўсё амаль закончана, працую над дыпломам, але шкада змарнаванага часу. І крыўдна за краіну.

Студэнт

# Падчас пошукаў 114-гадовай жыхаркі Мінска высветлілася, што яна памерла яшчэ за Саветамі. А сын дагэтуль забіраў пенсію

У РУУС Мінска звярнуліся работнікі сацыяльнай абароны для ўстанаўлення месцазнаходжання найстарэйшай жыхаркі Мінска 1904 года нараджэння, піша БелТА.

Сацработнікі некалькі разоў спрабавалі наведаць жанчыну, аднак сын сцвярджаў, што яна жыве ў вёсцы на Гродзеншчыне. Высветлілася, што жанчына памерла яшчэ ў 1988 годзе.

Сваякі жанчыну пахавалі, аднак сын памерлай, 1943 года нараджэння, утаіў ад органаў сацабароны факт смерці маці і з 1988 года атрымліваў яе пенсію ў банку па даверанасці.

Прыкладная сума шкоды складае больш за 100 тысяч рублёў. Мужчыну пагражае да 7 гадоў пазбаўлення волі.

# 11-гадовая дзяўчынка ў эфіры расійскага ТБ паправіла Максіма Галкіна: «Я з Беларусі, а не Беларусіі»




11-гадовая цымбалістка са Смаргоні Настасся Ванеева стала ўдзельніцай расійскага забаўляльнага шоу «Лепшы за ўсіх».

Яна старалася не рэагаваць на плоскія жарты вядучага Максіма Галкіна, але калі той сказаў «Беларусія», выправіла яго: "З Беларусі. Правільна казаць «з Беларусі»".

Галкін зноў вырашыў пажартаваць: «Дзяўчынка са СмОргані». Але Настасся яго зноў выправіла: «Са СмаргОні».

Падчас выступу Настассі на цымбалах парвалася струна, але яна пад апладысменты працягнула выступ.

**Браніслаў Юрэвіч**

# Праваслаўны актывіст патрабуе не дапусціць правядзення ў Мінску ЛГБТ-фестывалю на Вялікдзень

6–8 красавіка ў Мінску мае прайсці «IV міжнародны фестываль квір-гісторыі *Dotyk*. Зрабі крок!». Доктара з Магілёва Мікалая Лайшу, праваслаўнага актывіста, абурыла тое, што гэтая імпрэза ЛГБТ-супольнасці запланаваная на дні праваслаўнага Вялікадня.

«Яго пачатак запланаваны на Вялікую Пятніцу — дзень укрыжавання Хрыста, — адзначае доктар Лайша. — На Вялікую Суботу на 23.00 запланавана гей-вечарына». Праваслаўны актывіст абураецца: «Разбагацелі (за кошт грантаў з еўрасадома). Нахабнікі».

Мікалай Лайша — вядомы ў Магілёве праваслаўны псіхатэрапеўт. Менавіта так яго прадстаўляюць у газеце «Вечерній Могілёв», дзе ён публікаваўся ў тым ліку з артыкулам «Хэлаўін робіць вас халуямі Захаду і д'ябла».

На сайце квір-фестывалю гаворыцца, што «місія *Dotyk* — набліжэнне нашага грамадства да талерантнасці і прыняцця». Як адзначаецца, «асноўнай падзеяй стане адкрытая канферэнцыя, прысвечаная квір-гісторыі і ненарматыўнай ідэнтычнасці на постсавецкай прасторы з удзелам спікераў(к) з Беларусі, Расіі, Вялікабрытаніі, Латвіі, Францыі і Эстоніі».

«Мы хочам паглыбіцца ў квір- і ЛГБТ+ гісторыю былога СССР, каб зрабіць з яе высновы аб сучаснасці, — адзначаецца на сайце. — Выступы даследчыкаў(ц) з розных краін Еўропы распавядуць аб жыцці звычайнага(й) прадстаўніка(цы) ЛГБТ+ супольнасці ў СССР, пра цяжкасці захавання квір-гісторыі, аб бачнасці ЛГБТ+ супольнасці ў публічнай прасторы».

Асноўнай пляцоўкай фестывалю стане прастора «Сталоўка XYZ». Уваход на ўсе мерапрыемствы фестывалю, акрамя вечарынкі, будзе вольным, але 18+.

На думку доктара Лайшы, правядзенне такога мерапрыемства на Вялікдзень — такі ж грэх, як фестываль піва на Тройцу ў 1999 годзе, які скончыўся цісканінай на Нямізе.

«Канчатковай мэтай усякай бязбожнасці — наклікаць гнеў Божы на людзей і загубіць іх разам з сабой», — піша Лайша.

«Мы, праваслаўныя хрысціяне, расцэньваем гэты ўчынак як дзёрзкі выклік Праваслаўнай Царкве, як блюзнерства і распальванне рэлігійнай варожасці», — кажа ён.

Мы патэлефанавалі ў прыёмную Беларускай праваслаўнай царквы, каб высветліць, што там думаюць наконт гэтай сітуацыі. У афіцыйнага прэс-сакратара быў выхадны дзень, але адказаць на нашы пытанні пагадзіўся дзяжурны Мінскага епархіяльнага ўпраўлення.

«Я не лічу, што тое, што робяць арганізатары, — грэх. Але я не зусім разумею, навошта трэба праводзіць нейкія іншыя мерапрыемствы падчас Вялікадня. Мы жывём практычна ў праваслаўнай краіне. Не ведаць рэлігійныя святы — гэта як мінімум дзіўна. Калі вы плануеце нейкае мерапрыемства, то трэба загадзя прадумаць даты. Я на баку чалавека, які за тое, каб 8 красавіка святкаваць Вялікдзень. Для іншых падзей ёсць яшчэ 364 дні ў годзе», — пракаментаваў «НН» Сяргей Бландзінаў.

Што тычыцца арганізатараў фестывалю, то, па словах яго піяр-менеджаркі Ганны Брэдавай, супадзенне дат правядзення з Вялікаднем не наўмыснае, праца над «Дотыкам» вялася яшчэ з восені.

«Мы лічым, што ў кожнага ёсць права выбіраць, чым займацца на выхадных. Хто хоча ісці ў царкву, ідзе ў царкву, хто хоча ісці да нас, пойдзе да нас, хто хоча пасля царквы да нас, таксама сардэчна запрашаем. Не думаю, што наш фестываль — адзінае нерэлігійнае мерапрыемства, запланаванае на гэтыя выходныя»,— патлумачыла «Нашай Ніве» Ганна.

**Кацярына Карпіцкая**

# Наста Рыбка пагадзілася прызнаць сваю віну

Настасся Вашукевіч (Наста Рыбка), Аляксандр Кірылаў (Алекс Леслі) і яшчэ пяць чалавек, якія знаходзяцца ў тайландскай турме па падазрэнні ў арганізацыі сэкс-трэнінгаў, гатовыя прызнаць сваю віну. Пра гэта распавёў адвакат Сатхапхон Сіёха.



Усіх іх абвінавачваюць у незаконным ажыццяўленні прадпрымальніцкай і працоўнай дзейнасці на тэрыторыі Тайланда.

Імаверна, суд прызначыць ім умоўныя тэрміны, невялікія штрафы і дэпартацыю.

Цяпер Наста Рыбка, Алекс Леслі і яшчэ пяць абвінавачаных знаходзяцца ў Цэнтры часовага ўтрымання імігрантаў пры міграцыйнай паліцыі ў Бангкоку.

Наста Рыбка і яшчэ дзевяць чалавек былі затрыманы паліцыяй Тайланда ў лютым за правядзенне сэкс-трэнінгаў. 28 лютага Алекс Леслі напісаў ліст у амерыканскае консульства з просьбай даць яму і Рыбцы палітычны прытулак. Паводле яго слоў, у іх «ёсць вельмі важная для ЗША інфармацыя», і яны «вельмі моцна рызыкуюць сваімі жыццямі».

Нагадаем, што Наста Рыбка — грамадзянка Беларусі, родам з Бабруйска. Яна зарабляе на жыццё «эскортнымі паслугамі». А вядомаю стала, калі ненаўмысна, проста каб пахваліцца, расказала ў сваім інстаграме пра раскошны (і распусны) адпачынак віцэ-прэм'ера Расіі на яхце мільярдэра Дзерыпаскі. Многія лічаць, што ў Расіі яе могуць чакаць праблемы.

**Сяргей Гезгала**

# Вольга Корбут: У музеі ў Маскве знайшла скрадзены залаты медаль



Чатырохразовая алімпійская чэмпіёнка па спартовай гімнастыцы Вольга Корбут распавяла пра тое, што знайшла медаль Мюнхена-1972, згублены 46 гадоў таму, у музеі спорту ў Маскве, але супрацоўнікі музея адмовіліся вярнуць ёй узнагароду.

«Вярнулася дадому з Масквы, дзе было вельмі весела. Я нават знайшла адзін залаты медаль Алімпіяды-1972 у музеі спорту. Ён быў скрадзены ў мяне праз некалькі дзён пасля таго, як я яго заваявала. Я шукала яго на працягу 46 гадоў.

Музей адмовіўся аддаваць яго мне, там сказалі, што гэта ўласнасць Расійскай Федэрацыі. Яны пацвердзілі, што медаль мой, бо на адным баку напісана маё імя. Калі-небудзь я вярну яго, мой бой яшчэ не скончаны», — напісала Корбут.

На Алімпійскіх гульнях у Мюнхене Корбут заваявала золата ў вольных практыкаваннях, на бервяне і ў камандзе, а таксама ўзяла срэбра на брусах. З 1992 года былая савецкая гімнастка жыве ў ЗША.

**Tribuna.com**

# Вольга Карач: «Я ледзь пазбегла аварыі на трасе, машыну выкінула ў кювет. А ДАІ аштрафавала мяне за няправільную паркоўку!»

Актывістка Вольга Карач распавяла у фэйсбуку, як пасля ДТЗ на зімовай трасе атрымала штраф за няправільную паркоўку.

«Завіруха, ранняя-ранняя раніца (было шэсць гадзін), заснежаная і слізкая дарога. Мы не ехалі хутка, але нейкі трактарыст ехаў на сваім трактары без фар і габарытаў з вельмі павольнай хуткасцю. Я гэты чортаў трактар заўважыла толькі ў той момант, калі кіроўца спрабаваў яго аб'ехаць. Машыну панесла, закруціла і выкінула ў гурбу на супрацьлеглым баку дарогі», — напісала ў фэйсбуку Карач.

Пасля, сцвярджае Карач, выклікалі даішнікаў, якія дапамаглі, але трактар шукаць не сталі.

«Прыехала ДАІ, паглядзела на нас у гурбе. Так, даішнікі дапамаглі нам выцягнуць машыну, прыгналі трактар, перакрылі трасу.

Яны не паехалі шукаць трактарыста, пакуль ён не адправіў каго-небудзь на той свет.

Яны нам далі штраф за... паркоўку ў неналежным месцы», — піша Вольга.

**Віталь Васількоў**

# Кветкі і цацкі, якія беларусы прынеслі да расійскага пасольства, выкінулі на сметніцу?

Мінчук Яўген Батура раніцай 30 сакавіка зрабіў некалькі здымкаў недалёка ад будынка пасольства Расійскай Федэрацыі на вуліцы Нававіленскай.

У кантэйнерах ад смецця аказаліся кветкі і цацкі, якія беларусы неслі да пасольства Расіі пасля трагедыі ў Камераве, калі ў выніку пажару ў гандлёвым цэнтры «Зімняя вішня» загінула 64 чалавекі.

У прыёмнай пасольства Расіі «Нашай Ніве» паведамілі, што каля дыпламатычнага прадстаўніцтва проста няма смеццевых кантэйнераў. «Усё, што прыносілі людзі, было сабрана і аднесена на тэрыторыю пасольства», — сказалі ў прыёмнай.

На пытанне, ці несапраўдныя тады фатаграфіі, што зрабіў мінчук Батура, у пасольстве адказваць адмовіліся.

Акцыю салідарнасці ля пасольства Расіі арганізоўвала «Белая Русь». Шмат кветак неслі простыя грамадзяне нашай краіны.

**Зміцер Панкавец**



# Распрацоўшчык «Навічка»: Атруту вырабляе толькі Расія. Скрыпаль і яго дачка не паправяцца

Толькі Расія магла стаяць за нападам на былога агента і яго дачку, заявіў у інтэрв'ю *The Telegraph* расійскі хімік Віл Мірзаянаў, які быў адным са стваральнікаў атрутнага рэчыва «Навічок».

Ён упэўнены, што толькі Масква магла стаяць за нападам на былога палкоўніка ГРУ Сяргея Скрыпаля і яго дачку Юлію ў брытанскім Солсберы. Формулу гэтага нервова-паралітычнага рэчыва Расія не рассакрэчвае, таму не ўяўляецца магчымым, каб яго выкарыстоўвала якая-небудзь іншая краіна, заявіў ён у інтэрв'ю брытанскаму выданню *The Telegraph*.

На думку навукоўца, які пакінуў Расію ў 1995 годзе і цяпер жыве ў Нью-Джэрсі, на тэрыторыю Вялікабрытаніі былі завезеныя два бясшкодныя кампаненты, неабходныя для стварэння «Навічка», і ўжо там яны былі злучаныя ў аэразольны спрэй. «Толькі 10 грамаў гэтага рэчыва — гэта ўжо шмат. У летні час усяго двух грамаў было б дастаткова, каб забіць 500 чалавек», — цытуе словы Мірзаянава выданне.

Калі былы агент і яго дачка былі сапраўды атручаныя «Навічком», у іх няма ніякіх шанцаў на выздараўленне, адзначыў далей навуковец. «Гэтыя людзі сышлі — мужчына і яго дачка. Нават калі яны выжывуць, яны не паправяцца», — падкрэсліў ён, дадаўшы, што «Навічок» па меншай меры «ў дзесяць разоў мацнейшы, чым любое вядомае атрутнае рэчыва». Адначасова Мірзаянаў выказаў асцярогі, што пад дзеяннем гэтага рэчыва магло падпасці яшчэ «значна больш людзей».

Як адзначае *The Telegraph*, Віл Мірзаянаў на працягу 26 гадоў працаваў у Дзяржаўным навукова-даследчым інстытуце арганічнай хіміі і тэхналогіі, які з'яўляўся ў СССР галоўным ваенным цэнтрам па вытворчасці хімічнай зброі. У ім ён узначальваў аддзяленне контрвыведкі.

**АГ**

# Дагестанскі дэсантнік бязлітасна крытыкуе Пуціна: «Калі ты заб'еш украінцаў, то хто на чарзе? Беларусы?»




Старшына разведроты Паветрана-дэсантных войскаў Расіі Асхаб Алібекаў праславіўся дзякуючы свайму каналу на ютубе. У ім вайсковец бязлітасна крытыкуе прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна.

«Слухай, Пуцін Уладзімір Уладзіміравіч, ідзі дадому, ідзі да жонкі сваёй, жонкай сваёй займайся, краіну не чапай. Ты ўжо амаль 20 гадоў ва ўладзе, ты нікому дыхаць не даеш. Гэта хлусня, што нашых салдатаў няма ва Украіне, мы там гінем, ты цкуеш нашых салдат з украінскім народам.

Украінскія браты — гэта нашы браты. Калі ты заб'еш украінцаў, то хто наступныя на чарзе? Беларусы? Беларусы, так? А пасля хто? Татары? Хочаш усю Расію знішчыць? Усе магілкі ў Расіі запоўненыя магіламі маладых хлопцаў. Твае рэйтынгі падымаюцца толькі за кошт вайны. Табе не надакучыла забіваць нашых салдат?» — эмацыйна кажа Алібекаў.

Пасля таго, як гэтае відэа было запісанае, Алібекава звольнілі з расійскага войска. Афіцыйнай прычынай стала бойка са службоўцам, якая адбылася за некалькі гадоў да гэтага. Неафіцыйна ж яму сказалі, што не будуць звальняць, калі ў відэа папросіць прабачэння ў Пуціна.

15 сакавіка ў Новарасійску Алібекаў быў затрыманы супрацоўнікамі праваахоўных органаў і арыштаваны на 10 сутак. Справа ў тым, што мужчына планаваў быць назіральнікам на прэзідэнцкіх выбарах.

**Зміцер Панкавец**

# Андрэй Макарэвіч: Расійская прапаганда ператварае людзей у злосных дэбілаў



Расійскі спявак Андрэй Макарэвіч, каментуючы сваю паездку ў ЗША, напісаў, што амерыканцы «спакайнейшыя, весялейшыя і дабрэйшыя» за расіян, з якімі «адбываецца нешта жудаснае». Адзін з чытачоў адзначыў, што так на расіян паўплывала «прапаганда». Спявак пагадзіўся: «Далібог, мне здаецца, яны адкрылі нейкі дваццаць пяты кадр, які рэальна ператварае людзей у злосных дэбілаў», — напісаў Макарэвіч.

Расійскія СМІ падалі словы Макарэвіча так, нібы ён назваў расіян «злоснымі дэбіламі».

Водпаведзь спеваку дала прэсакратарка Міністэрства замежных спраў Расіі Марыя Захарава, вядомая сваім агрэсіўным стылем: «Усе, хто яшчэ захоча назваць расіян «злоснымі дэбіламі» ці яшчэ неяк, успамінайце эксперымент 2018 года: ваш кандыдат, які назваў народ «генетычнымі пазадкамі», набраў свае 1,6%. Перастаньце нас абражаць — права такога не маеце!» — напісала Захарава ў фэйсбуку.

Яна мела на ўвазе Ксенію Сабчак, якая на выбарах 2018 года выконвала ролю кандыдата ад лібералаў. Расійская прапаганда масава тыражавала словы Сабчак, прамоўленыя 8 гадоў таму, калі яна заявіла, што Расея ў выніку войнаў і палітычных чыстак стала «краінай генетычных пазадкаў [отребья]».

Спявак Андрэй Макарэвіч упершыню стаў аб'ектам цкавання расійскіх СМІ ў 2014 годзе, калі ён асудзіў уварванне расійскіх войскаў ва Украіну.

**Сяргей Гезгала**

# Грабеншчыкоў: «Сталін — кат. І Ленін таксама. Тое, што яны ляжаць на галоўнай плошчы краіны, — злачынства»

Лідар расійскага гурта «Акварыум» Барыс Грабеншчыкоў назваў злачынствам і ганьбай той факт, што рэшткі Іосіфа Сталіна і Уладзіміра Леніна знаходзяцца на Краснай плошчы. Пра гэта ён заявіў у інтэрв'ю ТАСС.

«Сталін — кат. Як і Ленін. Тое, што яны працягваюць ляжаць на галоўнай плошчы краіны, — ганьба і злачынства. Усе, хто сёння актыўна спрабуе нанова ўзвялічыць аднаго і рэабілітаваць другога, папросту разлічваюць у перспектыве заняць кватэры расстраляных і рэпрэсаваных», — заявіў Грабеншчыкоў у адказ на пытанне аб прычынах папулярнасці Сталіна ў Расіі.

# Францыя ўвяла абавязковую школьную адукацыю з трох гадоў

Раней яна была абавязковай з шасці год. Пра новаўвядзенне заявіў прэзідэнт краіны Эмануэль Макрон.

Большасць французаў аддае дзяцей у сады ў тры гады. Толькі 2,4% дзяцей да гэтага часу яшчэ не запісаныя ў сад, і звычайна яны з бедных сем'яў.

Рэформа скіраваная на тое, каб зраўняць падрыхтоўку дашкольнікаў з сем'яў з розным дастаткам да першага класа.

Раней у Францыі абавязковай лічылася адукацыя з 6 да 16 гадоў. Гэтыя ўзроставыя межы не мяняліся ад 1959 года.

А як у іншых еўрапейскіх краінах?

Вось у колькі год ідуць у школу дзеці за мяжой.

Тры: Венгрыя.

Чатыры: Паўночная Ірландыя, Люксембург, Швейцарыя.

Пяць: Кіпр, Мальта, Англія, Шатландыя, Уэльс, Грэцыя, Нідэрланды, Латвія, Польшча.

Шэсць: Аўстрыя, Бельгія, Харватыя, Чэхія, Данія, Нямеччына, Ісландыя, Ірландыя, Італія, Ліхтэнштэйн, Нарвегія, Партугалія, Румынія, Славакія, Славенія, Іспанія, Турцыя.

Сем: Балгарыя, Эстонія, Фінляндыя, Літва, Сербія, Швецыя.

**Настасся Роўда**

# Кемераўскі губернатар Аман Тулееў падаў у адстаўку

Губернатар Кемераўскай вобласці Аман Тулееў падаў у адстаўку. Пра гэта паведамляе *ria.ru* са спасылкай на рэгіянальную адміністрацыю.

73-гадовы Тулееў узначальваў вобласць з 1997 года. Патрабаванні адстаўкі ўзмацняліся праз стан здароўя губернатара, якому цяжка стаяць без дапамогі, і яго рэплік у адрас удзельнікаў мітынгу пасля пажару ў ГЦ «Зімняя вішня». Ён назваў сваякоў загінулых «бузацёрамі».

Падчас сустрэчы з жыхарамі вобласці Уладзімір Пуцін, адказваючы на пытанне аб адстаўцы Тулеева, заявіў, што гэта «не робіцца для чырвонага слоўца на фоне трагедыі». Ён адзначыў, што для пачатку трэба высветліць, хто вінаваты ў тым, што здарылася.

Пажар у гандлёвым цэнтры адбыўся 25 сакавіка. У выніку трагедыі загінулі 64 чалавекі, сярод якіх 41 дзіця.

Амангельды Тулееў да 2000 года быў у Кампартыі, а пасля перайшоў у «Адзіную Расію», але нязменна кіраваў Кузбасам.



# Вера Харужая: беларускі Чэ Гевара быў жанчынай

Абое пражылі ўсяго 39 год, абое загінулі ў палоне ад рук ворагаў, абое, ахвяраваўшы асабістым, паклалі жыццё за ідэю сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Якая сёння выглядае спрэчнай, як сярэднявечная ідэя вызвалення Гроба Гасподняга ад сарацынаў.

Ён — сусветная ікона левага руху, яго ведаюць у твар мільёны. А яе імем названы дзясятак вуліц у Беларусі і наш мясцовы гатунак бэзу.

Супраць Харужай сыграла тэорыя вялікіх лічбаў. Калі б яна — са сваімі талентамі, жарсцю, характарам — нарадзілася ў Лацінскай Амерыцы, камандантэ Чэ глядзеўся б бляклa на яе фоне.




### ХаруНжая

Сапраўднае прозвішча Веры — Харунжая. Але потым літара «н» згубілася. Магчыма, здарылася памылка падчас выпраўлення дакументаў, але маглі быць і ідэалагічныя прычыны. Нам сёння цяжка зразумець, але ў сталінскія часы нават прозвішча магло быць «класава чужым» і небяспечным для носьбіта.

Вера нарадзілася ў Бабруйску ў 1903-м, яе бацька на той момант служыў у паліцыі памочнікам прыстава. Гэты факт біяграфіі пасля замоўчваўся. Дый Вера наўрад ці запомніла тату ў мундзіры. Ёй было пяць гадоў, калі Захара Баніфацыевіча Харунжага звольнілі з царскіх «органаў». Уладкавацца яму ўдалося пасля некалькіх год беспрацоўя меліяратарам. Вялікая сям'я Харунжых, дзе, апроч няўрымслівай гаротэзы Веры, былі яшчэ малодшыя сёстры і брат, пераехала глыбей на Палессе, у Мазыр. Тут, над Прыпяцю, Вера скончыла школу. Тут жа, яшчэ падлеткам, захапілася рэвалюцыйнымі ідэямі.

Вера ўступае ў камсамол. «Маладая мілая дзяўчына ў скуранай куртцы, у мужчынскай шапцы», — апісвае яе сучаснік і дадае, што так адзяваліся тады ўсе камсамольцы.

Яны арганізоўвалі школы для непісьменных, агітавалі, стаялі ў патрулях. Але таксама — збіралі прадуктовы падатак і ў складзе чырвонаармейскіх Частак асаблівага прызначэння (ЧОН) змагаліся з «бандытызмам», у тым ліку з выступленнямі сялян, абураных новымі парадкамі.

### Эпізод з Балаховічам

«Гэта быў чалавек без сэрца», — пісала пра Чэ Гевару жонка Фідэля Кастра, якая ўцякла з Кубы ў Іспанію. Яна расказвала пра масавыя расстрэлы без суда, якія былі на сумленні Чэ.

Мы зусім мала ведаем пра канкрэтныя дзеянні Веры Харужай у грамадзянскую вайну і пасля, калі яна падчас вучобы ў Мінскай партыйнай школе таксама «змагалася з бандытызмам», калі дзейнічала ў Заходняй Беларусі, дзе ў 1920-я савецкая ўлада разгарнула шырокую дыверсійную дзейнасць.

Ва ўсіх савецкіх біяграфіях Веры без падрабязнасцяў гаворыцца, што яна «змагалася з бандамі балахоўцаў». Грунтуецца гучная заява, відаць, на артыкуле «Апошняя баявая старонка», які Вера ў 1923-м апублікавала ў «Чырвонай змене».

Гаворка ідзе пра Палескі паход 20-тысячнай арміі Булак-Балаховіча, якая, прайшоўшы ўвесь беларускі поўдзень, у лістападзе 1920-га заняла Мазыр. Адсюль Балаховіч планаваў ударыць на Бабруйск і Барысаў у той час, як польскія войскі зоймуць Мінск. Урады БНР і савецкі ўрад Булак-Балаховіч абвяшчаў нелегітымнымі, а сябе — начальнікам незалежнай беларускай дзяржавы. Але наўрад ці яго дзяржава была б незалежная ад Пілсудскага... Балаховіч спазніўся: палякі адступілі з Мінска, не дачакаўшыся яго. Чырвоная Армія праз тыдзень выбіла балахоўцаў з Мазыра.

У тым артыкуле Харужая апісвае не баявыя дзеянні, а, хутчэй, моладзевую тусоўку. Як камсамольцы, калі Мазыр занялі балахоўцы, выязджаюць апошнім цягніком. А калі балахоўцы пачынаюць адступаць, камсамольцы бурапенна збіраюцца на фронт, а парткам ім забараняе... Урэшце яны «гналіся па слядах за перадавымі часткамі нашых войскаў, але не паспелі схапіцца з ворагамі». Так што «змагалася са зброяй у руках» у гэтым выпадку — перабольшанне.

### «Найлепшая эпоха жыцця»

Пасля савецка-польскага міру Вера з Мазыра трапляе ў Мінск. Трохгадовы побыт у сталіцы Савецкай Беларусі, вучоба, маладыя гады і жаданні... Усё гэта скончацца ў 1924-м, калі замест мінскай слухачкі ВПШ Веры Харужай пад Беластокам з'явілася настаўніца Вераніка Карчэўская. У заходнебеларускім падполлі Харужая ўзялася ствараць камсамольскія структуры, пашыраць камуністычную літаратуру, праводзіць сходы...

Многіх сёння шакуе той факт, што ў Беларусі да 1930-х былі чатыры дзяржаўныя мовы. Але такая была рэальнасць, і Вера — пацвярджэнне таму. Сведкі ўспаміналі, што яна выдатна гаварыла не толькі па-беларуску і па-руску, але і па-польску. А яўрэйскія жанчыны заходнебеларускіх мястэчак, з якімі яна спынялася перакінуцца парай словаў на ідыш, увогуле прымалі яе за сваю. Ведала Вера і нямецкую мову.

Ці хацелася ёй з'язджаць з Мінска на падпольную працу? Наўрад ці. У Мінску Вера пакінула сардэчную прывязанасць.

«Нядаўна з лістамі прынеслі фота. З якой радасцю я доўга глядзела ў родныя знаёмыя твары! Быў там і Т. Некалькі дзён таму чытала яго апавяданне і там, між іншым, убачыла такі радок:

> «Добрая дзяўчына!.. Які ж падарунак ёй прынесці? Вось каб кавалак неба ёй на хустку блакітную!»

Уяві сабе толькі, якой радасцю на мяне павеяла, колькі мілага, цудоўнага, незабыўнага згадалася!.. Памятаеш жа, напэўна, найлепшая эпоха нашага жыцця была ахутаная гэтым блакітным кавалкам неба?..» — пісала Вера мінскаму сябру С. у канцы ліпеня 1925.

Гэты Т. — пісьменнік Анатоль Вольны, з якім Харужую звязвала блізкае сяброўства, а можа, і штосьці большае. Захаваліся ўспаміны, як Вера бегла да яго ў абдымкі за кулісамі якогасьці літаратурнага выступу. Дый адзін з яе літаратурных псеўданімаў быў — Анатолька.

Мінск тады не быў вялікі, усе ведалі ўсіх. І камсамолка Вера была ў віры культурнага жыцця — ёсць успаміны, як на прэм'еры п'есы Уладзіслава Галубка «Князь Качэргін» яна, не стрымаўшыся, выскоквае на сцэну і жорстка крытыкуе «дзядзьку Галубка» за фрывольнасць твору. А Галубок, загрыміраваны пад князя Качэргіна, выходзіць з-за кулісаў і пярэчыць...


Анатоль Вольны — каханне Веры.

### «Мярзавец»

Вера была арыштаваная ў Польшчы ў верасні 1925-га, падчас масавай «зачысткі» сябраў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Сем гадоў яна прабудзе ў зняволенні, у жаночай турме «Фардон» у Быдгашчы. Умовы польскага зняволення дазвалялі Веры многа пісаць, чытаць, вучыцца, камунікаваць з такімі ж маладымі беларускімі камуністкамі. «Не турбуйся пра мяне: мне добра, так добра, наколькі можа быць добра ў турме», — пісала яна сястры.

**22 сакавіка 1928 года. Брату Васілю.**

> «…Вы сабе ўяўляеце, што я ўжо перад магілай, а гэта зусім смешна. Ні сухотаў, ні рэўматызму — гэтых неадлучных спадарожнікаў усіх зняволеных — у мяне яшчэ няма. Замест усіх жудасных хвароб у мяне толькі трошкі не ў парадку сэрца, але гэта ж не хвароба, а толькі, здаецца, вынік нервовага разладу.
> …У мяне час ляціць і ляціць. Ужо трэцяя вясна ў турме, а восень ужо будзе чацвёртая. …Якое шчасце, што ў турме я ўсё ж такі бачу, адчуваю, як змяняюцца поры года! …Хадзіце абавязкова ў лес і нарвіце пралесак…»

З яе лістоў родным і сябрам у СССР склалі кнігу «Лісты на волю». Яна выйшла з прадмовай Надзеі Крупскай, удавы Леніна, але без імя Веры Харужай на вокладцы: дзеля бяспекі аўтаркі кнігу падпісалі псеўданімам «Польская камуністка».

З турмы праз ліставанне з сябрамі яна спрабуе даведацца, чаму ж Анатоль Вольны не піша ёй. Толькі ў 1929-м дазнаецца. «Той дзень, калі я даведалася, быў для мяне адным з самых горкіх дзён у турме...».

Справа, лічыць даследчыца Ганна Севярынец, тычылася скандалу, які здарыўся ў 1926-м, доўга абмяркоўваўся ў літаратурных колах Беларусі і апісаны ў артыкуле «Чырвонай змены» пад назвай «Мярзавец».

Сюжэт такі. Вольны пасля ад'езду Веры працягваў багемнае жыццё. Ён пазнаёміўся з афіцыянткай, зладзіў з ёй хуткае вяселле, на якім гуляла ўся літаратурная багема. Але ў хуткім часе Вольны страціў цікавасць да жонкі, і яна літаральна «пайшла па руках», стаўшы ўрэшце прастытуткай...

Пра тое, як Вера перажыла расчараванне ў блізкім чалавеку, сведчыць унутрана напяты допіс «таварышу В.»: «Было нядрэнна кожны дзень чакаць перанясення ў лепшы свет, але і цяпер няблага: зноў бяруся за кнігі, за ўрокі, зноў, але, ужо не развітваючыся, любуюся сонцам і небам».

Анатоль Вольны, дарэчы, у 1929-м таксама меў сардэчныя перажыванні, разрываючыся між сяброўствам з Міхасём Чаротам і каханнем да яго жонкі, Ганны Савіч. Вольны нават прапанаваў ёй галоўную ролю ў фільме «Хвоі гамоняць», які здымаўся паводле яго твора, і звёз на здымкі...

Калі раман Харужай з Вольным і быў, лічыць Ганна Севярынец, дык ён прыпаў на самыя першыя гады знаходжання ў Менску. Бо ад 1923-га Вера была замужам за польскім дзеячам Камінтэрну Станіславам Скульскім-Мертэнсам.

## Балхаш і новая сям'я

Харужая прабыла ў польскіх турмах сем гадоў, пакуль яе і яшчэ некалькіх зняволеных не абмянялі на польскіх вязняў савецкага ГУЛАГа. На станцыі Негарэлае, першай на савецкай тэрыторыі, Веру сустракалі як гераіню. А пасля пачаліся праблемы.

Ёсць меркаванне, што Фідэль Кастра выправіў Чэ Гевару ў апошні паход у Балівію, каб ад яго пазбавіцца. Занадта няўзручным для дыктатара Кубы стаў вечны рэвалюцыянер. Нешта падобнае адбылося і з Верай пасля вызвалення з польскай турмы. Сталіну трэба былі не героі, а вінцікі.

У 1935-м Харужую прымушаюць аддаць ордэн, якім яна была ўзнагароджаная падчас турэмнага зняволення, даюць ёй вымову за «парушэнне дысцыпліны» і высылаюць у Казахстан, на будаўніцтва Балхашскага горна-металургічнага камбіната. Вядома, яна працавала не ў зэкаўскай брыгадзе, а ў партыйным аддзеле, але перспектывы, як пабачым далей, былі няпэўныя.

Да таго перыяду адносіцца ўспамін пра яе характар і манеру гаварыць: «Я любіла слухаць, калі яна, трохі картавячы, вымаўляючы шэраг словаў на польскі манер, чытала на памяць вершы Міцкевіча, Пушкіна, Лермантава. Расказвала, што, седзячы ў польскай турме, так навастрыла сваю памяць, што чытала на памяць даўно прачытанае...» — згадвала яе таварышка па Балхашбуду.

На Балхашы Вера другі раз выйшла замуж — за камуніста Сяргея Карнілава, у іх нарадзілася дачка Ганна.

## Па даносе мужа?

Ёсць версія, што сваю ролю ў бедах, якія абрынуліся на галаву Веры, сыграў яе першы муж Станіслаў Скульскі. Нібыта ён метадычна паведамляў партыйным органам пра «памылкі» Харужай. Ці гэта была асабістая помста? Наўрад ці. Хутчэй, з яго, арыштаванага, проста «выбівалі» паказанні.

Праз два гады, у 1937-м, Веру з Балхашбуда забіраюць у Мінск, у НКВД. Яе справу вядуць чатыры следчыя, спрабуючы змусіць яе — што адбыла сем гадоў у Фардоне, — прызнацца ў шпіянажы на карысць Польшчы. Вера патрабуе вочнай стаўкі са сведкамі, на словах якіх будуецца справа. Але нікога з чатырох чалавек, у тым ліку Станіслава Скульскага, ужо няма ў жывых — расстраляныя.

Дзіва, але ёй удалося апраўдацца. У 1939-м яе вызвалілі ў зале суда пасля прамовы, у якой яна, перафразаваўшы караля Францыі, сказала: «Савецкая дзяржава — гэта я».

Рэпрэсіі ад савецкай улады Вера ўспрымала з бязмежнай пакорай, можна сказаць хрысціянскай. Яна, нібыта біблейскі Іоў, не стамляецца славіць камуністычнага бога, які раз за разам забірае ў яе ўсё.

«Калі мяне накіруюць у лагеры, я буду першым памочнікам кіраўніцтву лагераў, буду першай брыгадзіркай стаханаўскага руху і таксама буду перагрызаць горла любому ворагу...» — казала яна ў апошнім слове на судзе.

## Цяжарная ў партызанах

А следам прыйшоў 1939 год. Гітлер напаў на Польшчу, следам у Заходнюю Беларусь і Украіну ўвайшла Чырвоная Армія. Вера адразу ж прыдалася — яе з мужам накіроўваюць працаваць на новыя тэрыторыі, у Пінскі абкам партыі.

Фінаддзел у Пінску ўзначальваў Васіль Корж, «чалавек з двума ордэнамі і дваццаццю гадамі баявога стажу». Гэты «фінансіст» прайшоў дыверсійную школу НКВД і практыку на заходнебеларускіх дарогах, іспанскія інтэрбрыгады.

У першыя ж дні вайны Корж арганізуе ў Пінску партызанскі атрад, у які трапляюць і Вера з мужам. І ў адным з першых сутыкненняў з нямецкай кавалерыяй Сяргей Карнілаў гіне. Вера, якая і тут застаецца журналісткай і агітатаркай, піша пра гэта нарыс, кароткімі фразамі, праз якія прарываецца выццё-галашэнне. І завяршае яго цытатай гераіні іспанскага супраціву Далорэс Ібаруры: «Лепш быць удавой героя, чым жонкай баязліўца».

Амаль гвалтам Корж выпраўляе яе, цяжарную, за лінію фронту. Пешкі Вера на сёмым месяцы прайшла ад Жыткавіч да Гомеля. Пазней яна нараджае сына, назваўшы Сяргеем у гонар нябожчыка-мужа.



**Вера Харужая (крайняя злева ў другім шэрагу) сярод актыву клуба «Камуністычны інтэрнацыянал моладзі». Мінск, 1923 год.**

## Вярнуць «Ад веку мы спалі»

Седзячы «ў дэкрэце», Харужая імкнецца быць карыснай. Наступная цытата раней не друкавалася, і яна паказвае, наколькі Харужай, якую часта ўспрымаюць як стэрыльную савецкую інтэрнацыяналістку, была блізкая родная беларуская культура, прычым не толькі савецкая. Гэтую цытату літаратуразнавец Ганна Севярынец знайшла ў рэдакцыйным машынапісе артыкула «Янка Купала і Вера Харужая» Сямёна Кэмрада (Саламона Каплана), рускага пісьменніка з каранямі з Беларусі. «С.», да якога іншым разам звяртаецца Вера Харужая ў сваіх знакамітых лістах, пасля выдадзеных кнігаю — гэта ён, Сямён Кэмрад, таварыш і паплечнік Веры па баявых камсамольскіх мінскіх дваццатых. У канчатковы варыянт артыкула цытата не трапіла.



**Вера з другім мужам — Сяргеем Карнілавым.**

«**Адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў як дадатковы стымул у барацьбе супраць гітлерызму.** Ці не варта выкарыстоўваць несправядліва выгнаную песню «Ад веку мы спалі»? Песня ў народзе не забытая, карыстаецца папулярнасцю. Чаму смерць знакамітага беларускага пісьменніка Змітрака Бядулі абышлі поўным маўчаннем? Чаму 25-я гадавіна з дня смерці Максіма Багдановіча адзначана пастолькі, паколькі неабходна было адзначыць гітлераўскай прапагандзе?..».



15 сакавіка 1929 года.
Сяброўцы Г.

"Тваё паведамленне пра Вольнага і ўразіла, і засмуціла, і абурыла мяне да глыбіні душы. О, чорт вазьмі! У мяне словаў няма, мне цяжка, мне невыносна балюча, балюча. Бо гэта... злачынства і ганьба. Ах, не хочацца казаць вартыя жалю словы! Але так балюча, так цяжка. Цяпер я разумею, чаму ён маўчыць, чаму маўчаць пра яго ўсе хлопцы, каго я толькі ні пыталася, што з ім.

Ну і злы фарс! Я кідаюся, і злуюся, і сумую, калі ўспамінаю пра гэта. Ведаю, што так бывае, што так можа быць, але ... Навошта ж так здарылася? Зразумей мяне, ты зразумееш, ты павінна зразумець. Ну, што тут напішаш? Што тут скажаш нават? Не, нядобра (о, ці толькі нядобра?) даведвацца пра сяброў, дарагіх і блізкіх, пасля многіх гадоў расстання тое, што я даведалася пра Вольнага. Во гады і тысячы вёрст адлегласці, і зусім іншая абстаноўка працы, і турма, нарэшце, выгадавалі, выпеставалі маю любоў і пяшчоту да іх, мой гонар імі так, што яны цяпер у сотні разоў бліжэй, чым былі раней, тады. А Вольны ж адзін з самых дарагіх, самых блізкіх... Ну, хопіць пра гэта, даволі..."

Трэба была смеласць, каб называць «нацдэмаўскую» песню «незаслужана забытай» і заступіцца за аўтараў «нашаніўскага перыяду».

## Каралі Веры Харужай

Крыху пазней Вера дашле Панцеляймону Панамарэнку, кіраўніку Штаба партызанскага руху, просьбу скіраваць яе ў акупаваную Беларусь.

Кім трэба быць, каб кінуць дваіх малых дзяцей, адно з якіх, ёсць імавернасць, нават не запомніць цябе?

У сваёй нататцы «Камуністы адказваюць за ўсіх дзяцей на свеце» яна апісала, як ад'язджала, пакідаючы дзяцей на маці і сястру. Цяжка сказаць, колькі там шчырасці, а колькі апрацоўкі рэдактараў «Праўды», дзе нарыс друкаваўся пасля вайны, перад тым, як Веры пасмяротна дадуць званне Героя Савецкага Саюза.

**Светлазарная мая Беларусь!**

«Ці памятаеце вы, таварышы,
Правіянцкую вуліцу ў нашым
Мінску? Канечне, памятаеце.
Вось яна — прамая і доўгая,
з невялікімі ветлымі хаткамі,
садамі і кветнікамі, зялёная
і вясёлая ад дзіцячага
і птушынага шчабятання. Яна
была ў нас небрукаваная, на
далёкай ускраіне горада…
Мілая, мілая Правіянцкая вуліца.
Такія ёсць у кожным нашым
горадзе: у Магілёве і Барысаве,
у Слуцку і Баранавічах,
у Беластоку і Гомелі.
Цяжкі і моцны, як звярыная
лапа, смутак хапае за душу,
пякучая злосць буяным
полымем абпальвае сэрца:
нашы вуліцы і нашы гарады,
нашы шляхі і нашы вёскі, нашы
палі і сенажаці — уся наша
светлазарная Беларусь у руках
лютага, злога ворага…»

Псеўданім яна склала з прозвішча мужа і імёнаў дачкі і сына: Карнілава Ганна Сяргееўна. Праз «Віцебскія вароты» прайшла на акупаваную тэрыторыю, трапіла ў Віцебск. І пачалася падпольная работа: разведка, дыверсіі, карэкціроўка агню.

Пра апошнія дні Чэ мы ведаем вельмі многа. Ён быў зоркай, і нават балівійскія салдаты, якія ўзялі яго, параненага, у палон, фатаграфаваліся з ім перад расстрэлам.

Схопленую пасля пяці тыдняў падполля Веру Харужую катавалі ў гестапа так, што яна не магла сама ісці. Гэта вядома са словаў іншых зняволеных, якім удалося выжыць. Імя яе выбілі з іншай падпольшчыцы, сама Харужая не назвалася. Адзінае пацвярджэнне таго, што яна загінула — была расстраляная ў двары турмы, — каралі. Іх бачылі на шыі той катаванай жанчыны, а назаўтра каралі знайшліся ў рэчах расстраляных, якія іншым зняволеным загадалі сарціраваць.

Дзе магіла Веры — ніхто не ведае. У памяці наступных пакаленняў застаўся вобраз фанатычнай камуністкі, злеплены ідэалогіяй. У гэтым загана прапаганды: усе, да каго яна дакранаецца, з жывых супярэчлівых людзей ператвараюцца ў аднабокіх ідалаў. Але праўда на тое і ёсць, каб выходзіць на паверхню.

**Сяргей Мікулевіч, ілюстрацыі Волі Афіцэравай**

# Берасцеец Машэнскі ўзначаліў спіс самых паспяховых бізнэсоўцаў краіны, абагнаўшы «танкіста» Кіслага

Сайт *ej.by* апублікаваў свой традыцыйны рэйтынг самых уплывовых і паспяховых бізнэсоўцаў. Выданне займаецца складаннем такіх спісаў ад 2007 года. Як адзначае «Ежедневник», праект найперш мае «асветніцкую мэту».

«З аднаго боку, ён спрыяе пазнавальнасці персоны, павышэнню лаяльнасці насельніцтва да прыватнага бізнэсу ў цэлым, з другога — служыць крыніцай інфармацыі для патэнцыйных партнёраў і інвестараў, якія збіраюцца рэалізоўваць праекты ў Беларусі», — гаворыцца ва ўступе.

Першае месца сёлета заняў уласнік «Санта-Брэмара» і «Савушкавага прадукта» Аляксандр Машэнскі. Відаць, гэта звязана з прыбліжанасцю Машэнскага да Аляксандра Лукашэнкі.

Папярэднія два гады на верхнім радку быў стваральнік гульні «Свет танкаў» Віктар Кіслы, якога не так даўно назвалі першым беларускім даляравым мільярдэрам, аднак сёлета Кіслы аказаўся толькі на чацвёртым радку. Ягоны колішні кампаньён Аляксандр Міхневіч, які цяпер жыве на Кіпры і развітаўся з «Танкамі», на сёмым месцы.

Другое месца ў яшчэ аднаго бізнэсоўца са сферы IT, гаворка пра старшыню Рады дырэктараў *EPAM Systems Inc* Аркадзя Добкіна, ён ускочыў з шостага месца летась.

І замыкае тройку лідараў мільянер Павел Тапузідзіс, уласнік кампаніі «Тытунь-інвест». Тапузідзісу належыць сетка крамаў «Карона».

На пятым радку менш раскручаная медыйная асоба — Аляксандр Луцэнка, бізнэс якога зарэгістраваны ў Люксембургу. Гэта пастаўшчык прадуктаў для жывёлагадоўлі.

Толькі на шостай пазіцыі самы паспяховы «нафтавік» — гэта дырэктар «Энерга-Оіл» Аляксандр Алесін. Падобна, што самыя вялікія грошы цяпер робяцца ў іншых сферах, а не энерганосьбітах.

Восьмы — Аляксандр Цэнцер, уладальнік сеткі заправак «А-100». Адзін з першых бізнэсоўцаў, які вырашыў беларусізаваць сваю справу, хай і не зусім атрымалася, але імпульс грамадства ўлавіла.

І замыкаюць дзясятку таямнічыя ўласнікі «Еўраопта» Сяргей Літвін і Уладзімір Васілька, іх бізнэс зарэгістраваны ў Княстве Манака.

Далей ідуць бізнэсоўцы, якія не так даўно мелі праблемы з праваахоўнай сістэмай: Яўген Баскін (№11, магілёўскі «Сервалюкс»), айцішнік Віктар Пракапеня (№12) і гродзенец Валянцін Байко (№13).

Звяртае на сябе ўвагу падзенне колішняга фаварыта Аляксандра Лукашэнкі Аляксандра Шакуціна. Уладальнік «Амкадора» ўпаў з восьмага радка на пятнаццаты.

Затое ўласнік «Трайпла» Юрый Чыж зноў пачынае ўздымацца на верхнія пазіцыі, у гэтым рэйтынгу ён заняў 26-е месца.

**Зміцер Панкавец**



# Ала Пугачова: Я старэю, і досыць рэзка

Расійская спявачка Ала Пугачова распавяла пра стан свайго здароўя, паведамляе *kp.ru* са спасылкай на яе допіс у сацсетках.

Падставай паслужылі фатаграфіі і відэа з выбарчага ўчастка ў Звянігарадзе, куды Пугачова прыходзіла галасаваць разам з Максімам Галкіным. Некаторыя інтэрнэт-карыстальнікі раскрытыкавалі знешні выгляд артысткі.

«Людзі добрыя. Я старэю, і досыць рэзка. Арганізм дае збой. Мне цяжка дыхаць, цяжка хадзіць, але я яшчэ жывая і павінна жыць дзеля маленькіх дзяцей», — заявіла Пугачова.





**Скрыншоты з youtube.com.**

# Расійская сенатарка стала сусветна папулярнай. Дзякуючы сваёй прычосцы



«Гэта Валянціна Пятрэнка. Не, яна не кіруе будаўніцтвам гіганцкага касмічнага лазера на Месяцы, які здольны знішчаць цэлыя краіны на Зямлі пры націску залішне велізарнай чырвонай кнопкі. Яна — сенатар з Расійскай Федэрацыі, прадстаўнік Рэспублікі Хакасія», — піша «Інопресса» са спасылкай на *Newsweek*.

«У ёй ёсць нешта, што непазбежна асацыюецца са «злыднямі з бандыянамі». Халодны сталёвы погляд. Неверагодная пачуццё стылю ў вопратцы. Савецкая перадгісторыя. Але замест таго, каб трымаць на каленях пухнатага белага катка, яна носіць на галаве бурага, з пермантам», — гаворыцца ў артыкуле.

Карыстальнікі *Twitter* пытаюцца: «Што яна, уласна, просіць у цырульніка?», «Як мне зрабіць такую прычоску?» Журналіст паведамляе, што ў 2015 годзе Пятрэнка сказала ў інтэрв'ю радыёстанцыі «Эхо Москвы»: «У мяне проста кучаравыя валасы, падымаю ўверх некалькімі шпількамі, усё».

Журналіст працягвае: «Але знешнасць падманлівая. У доўгай кар'еры савецкага і расійскага функцыянера Пятрэнка, ураджэнкі Казахстана, быў цалкам не злачынны момант: у 1993 годзе яна дапамагла дамовіцца аб вызваленні дзяцей, узятых у закладнікі, і была ўзнагароджана за гэта ордэнам «За асабістую мужнасць», згодна з яе біяграфіяй на сайце расійскага ўрада».

Аўтар паведамляе, што Пятрэнка займала высокія пасады ў структурах КПСС, а пазней РФ. Зараз яна сябра камітэта па сацыяльнай палітыцы ў Савеце Федэрацыі.

# Прапаршчыка з Печаў, які катаваў салдатаў электрашокерам, пакаралі 5 гадамі зняволення

30 сакавіка ў судзе Барысава і Барысаўскага раёна абвешчаны прысуд прапаршчыку Ігару Хішчанку з 72-га вучэбнага цэнтра ў Печах, паведамляе Радыё Свабода.

Яго прызналі вінаватым у службовых злоўжываннях, здзеку з салдат, атрыманні хабару ды іншых злачынствах. Ігар Хішчанка асуджаны на 5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем звання прапаршчыка.

Працэс над Ігарам Хішчанкам праходзіў з пачатку сакавіка, суд выслухаў, у тым ліку праз відэасувязь, 18 пацярпелых і 17 сведак, вывучыў 15 тамоў крымінальнай справы.

Паводле следства, прапаршчык Ігар Хішчанка ўжываў да вайскоўцаў, якія праходзілі навучанне ў 72-м вучэбным цэнтры, электрашокер, караў іх за нязначныя парушэнні дысцыпліны ўдарамі па галаве, біў па целе ўказкай і скруткамі з газет, прымушаў купляць яму ў краме прадукты і цыгарэты, абражаў словамі ды здзекаваўся. У тым ліку, паводле сведак, прапаршчык прымусіў шарагоўца з'есці цыбуліну за тое, што той з'еў у салдацкай сталоўцы лішні сняданак.



Збольшага сваю віну Ігар Хішчанка ў судзе прызнаў, у тым ліку тое, што караў недазволенымі метадамі сваіх падначаленых. Ён тлумачыў гэтыя ўчынкі тым, што не мог інакш навесці парадак і дысцыпліну. Як і на следстве, прапаршчык папрасіў у судзе прабачэння ў пацярпелых.

Як вынікае з матэрыялаў справы, злачынствы Ігара Хішчанкі адбываліся ў 2016 і 2017 гадах. Праверка дзеянняў прапаршчыка пачалася ўвесну 2017 года, а ягоная крымінальная справа была завершаная і перададзеная ў суд ужо пасля смерці ў 72-м вучэбным цэнтры салдата Аляксандра Коржыча.

**Алег Груздзіловіч, радыё «Свабода»**

# У Мінскім раёне сям'я здзекавалася з хатняй работніцы і шантажавала яе

Абвінавачанымі па крымінальнай справе прызнаныя пяць беспрацоўных жыхароў Мінскага раёна, якія знаходзяцца ў родпасных адносінах: сямейная пара, у якой і мужу, і жонцы па 25 гадоў, бацькі маладой жанчыны і бацька яе мужа.

Па дадзеных следства, 52-гадовая пацярпелая неафіцыйна падзарабляла прыборкай у дамах. Праз знаёмую да яе па дапамогу звярнулася адна з абвінавачаных, якая пражывае з мужам і яго бацькамі ў катэджы ў Мінскім раёне.

Перад наваголнімі святамі 2016 года сваякі ў чарговы раз запрасілі жанчыну прыбраць у хаце ў іх прысутнасці.

«З мэтай здабывання матэрыяльнай выгады сям'я вырашыла інсцэнаваць крадзеж у іх маёмасці. Уступіўшы ў злачынную змову, яны абвінавацілі пацярпелую ў крадзяжы 650 даляраў ЗША, якія нібыта ляжалі ў шкарпэтцы на шафе і прапалі пасля ўборкі пакоя, — паведамляюць следчыя. — Каля сутак абвінавачаныя прымусова ўтрымлівалі жанчыну, збівалі, пагражаючы прымяненнем гвалту, у тым ліку да яе сям'і, калі яна не верне «выкрадзеныя» грашовыя сродкі. З мэтай застрашвання пацярпелую вывезлі на могілкі, вымусілі яе даць «прызнальныя паказанні» на раней нарыхтаванай імі прамове на камеру мабільнага тэлефона і напісаць распіскі, у якіх не ўказвалася сума».

У пацярпелай не было такіх грошай, але фігуранты працягвалі шантажаваць і пагражаць распраявай, абшуквалі яе дом, прымушалі распранацца.

Пасля таго, як абвінавачаныя даведаліся, што пацярпелая звярнулася ў праваахоўныя органы, фігурантка напісала заведама лжывую заяву, што нібыта пацярпелая скрала ўжо 6650 даляраў ЗША.

На працягу расследавання абвінавачаныя давалі супярэчлівыя паказанні. З мэтай пазбягання крымінальнай адказнасці спрабавалі заблытаць следства, а ў далейшым зусім адмовіліся ад дачы паказанняў.

У выніку ўсе пяцёра цяпер пад вартай. Іх чакае суд.

**Улад Швядовіч**

# У Мінску шукаюць мужчыну, які забраў памылкова выдадзеныя яму ў абменніку 36 тысяч расійскіх рублёў

Пры гэтым грошы ён пералічыў, паведамляе *guvd.gov.by*.

Інцыдэнт адбыўся 20 сакавіка, каля 18.00, у абменным пункце бізнэс-цэнтра на праспекце Незалежнасці, 177.

Мужчына мяняў грошы на расійскія рублі. Касір памылілася і выдала кліенту замест 4 тысяч расійскіх рублёў 40 тысяч. На запісе з камеры відэаназірання бачна, што мужчына пералічыў атрыманыя грошы, паклаў у кішэню і пайшоў.



# Кіроўца ў Брэсце накрычаў на міліцыянера, які перагарадзіў дарогу

У інтэрнэце з'явілася відэа канфлікту паміж двума кіроўцамі на прыпынку па вуліцы Сяброўскай у Брэсце, паведамляе *brestcity.by*.

Аўтобус спыніўся на прыпынку грамадскага транспарту, але тут яго падпёр міліцыянер на сваім аўтамабілі, які вырашыў нешта купіць у кіёску. Кіроўца аўтобуса стаў гучна выказваць сваю незадаволенасць.




# Памёр трэці пацярпелы ад атручвання невядомай вадкасцю ў Слуцкім раёне

Увечары 23 сакавіка з прыкметамі атручвання невядомым рэчывам у цяжкім стане ў слуцкую бальніцу паступілі мужчына і дзве жанчыны.

24 сакавіка прыблізна 19.00 памёр дастаўлены 67-гадовы мужчына, 25 сакавіка — памерла 61-гадовая жанчына. Раніцай 26 сакавіка — памерла 55-гадовая жанчына, паведамляе УУС Мінаблвыканкама.

Ужо вядома, што ўсе трое 23 сакавіка працавалі на сартаванні бытавога смецця на гарадской звалцы паблізу вёскі Лясішча Слуцкага раёна. Пры сартаванні смецця мужчына знайшоў пластыкавую бутэльку аб'ёмам 1,5 літра з невядомай вадкасцю.

Жанчыны і мужчына выпілі знойдзеную спіртазмяшчальную вадкасць, а затым разышліся па дамах, адкуль іх потым і шпіталізавалі. Пацыенты не змаглі патлумачыць, што з імі здарылася, бо знаходзіліся ў крытычным стане.

Рэшткі вадкасці накіраваны на даследаванне.

# У Смаргоні п'яная дзяўчына пашкодзіла чатыры аўтамабілі

Пра гэта паведамілі ва УУС Гродзенскага аблвыканкама.

22-гадовая дзяўчына з сяброўкай выпівала, пасля чаго вырашыла пайсці да хлопца. Па дарозе яна зламала люстэркі чатырох прыпаркаваных аўтамабіляў.

Свае паводзіны дзяўчына патлумачыла вялікай колькасцю выпітага спіртнога. У дачыненні да яе распачатая крымінальная справа ч.1 арт. 339 «Хуліганства».

# Мінскія мытнікі знайшлі ў пасылцы з цукеркамі 25 тысяч еўра

Спробу незаконнага перамяшчэння 25 тысяч еўра ў міжнародным паштовым адпраўленні спынілі супрацоўнікі Мінскай рэгіянальнай мытні, паведамляе прэс-служба ведамства.

Паштовае адпраўленне, якое паступіла з Францыі, было адрасавана 27-гадоваму жыхару Мінска. Адпраўнік у мытнай дэкларацыі заявіў аб перамяшчэнні ў пасылцы шакаладных цукерак і адзення. Кошт тавару ў дакументах указаны не быў. Пры правядзенні мытнага нагляду з прымяненнем рэнтгенабсталявання выяўлена наяўнасць у дзвюх каробках шакаладных цукерак буйной сумы валюты. Грашовыя сродкі былі акуратна загорнуты ў фольгу і схаваныя на дне каробак пад самімі прысмакамі.

ДМК нагадвае, што перамяшчэнне замежнай валюты ў пасылках забаронена. Выключэнне складаюць лісты з абвешчанай каштоўнасцю ў суме, якая не перавышае ў эквіваленце 200 даляраў ЗША.

# Як Адольф Клімовіч сем гадоў хаваўся пад носам у савецкіх спецслужбаў

Піша гісторык-архівіст
**Зміцер Дрозд**.

Пра складаныя дачыненні лідара Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, выдаўца, журналіста Адольфа Клімовіча з савецкімі спецслужбамі перад вайной мы пісалі на *nn.by* у артыкуле «Завербаваць Клімовіча. Каб сачыць за ім — завербаваць Грабінскага. Каб сачыць за Грабінскім — завербаваць Сергіевіча»: як НКВД хацеў паставіць заходнебеларускую інтэлігенцыю на калені».

Вярбоўка ў 1941 скончылася нічым: пачалася вайна. У час нямецкай акупацыі Клімовіч працаваў у грамадска-дабрачыннай арганізацыі «Беларуская народная самапомач» у Лідзе. Вядома, што ён дабіўся вызвалення з гестапа паэта-камуніста Валянціна Таўлая. Пасля вайны ён знік, і «органы» шукалі яго як «агента нямецкай разведкі».

Рэч у тым, што некалькі хлопцаў-беларусаў з Ліды адправіліся ваяваць з бальшавікамі на баку немцаў, немцы іх адправілі ў разведшколу Дальвіц. Гэтага было дастаткова, каб Клімовіча, як беларускага актывіста, западозрылі ў вярбоўцы агентаў для немцаў.

Падставай для пачатку гэтай справы, адшуканай у Асобым архіве Літвы, стала агентурнае паведамленне, якое паступіла 25 красавіка 1945 года ў аддзел контрвыведкі СМЕРШ Заходняга фронту. Агент Мечыслаў паведамляў:

«...у Вільні па вуліцы Антокальскай № 35 пражывае сямейства Клімовіча, якое складаецца з яго жонкі, па імені Вераніка, або Вера, двух дзяцей і нейкай сваячкі. У той жа кватэры пражывае кватарантка Вішнеўская са сваёй дачкой... Крыніцы вядома, што сам Клімовіч ... з'яўляўся выбітным беларускім нацыяналістам ...

2—3 дні таму кватэру крыніцы наведала Вішнеўская, якая паведаміла, што Клімовіч працуе дзесьці ў Літоўскай ССР аграністам у адным з літоўскіх касцёлаў. Часам прыязджае ў Вільню і ў начны час, калі спяць яго дзеці, заходзіць на кватэру да сваёй жонкі, а раніцай з кватэры сыходзіць і кудысьці з'язджае.

Апошні раз Клімовіч кватэру жонкі наведаў месяц таму».

Агенту Мечыславу адразу ж было дадзена заданне: праз Вішнеўскую высветліць, дзе жыве Клімовіч. Адначасова былі актывізаваныя і іншыя агенты, а недахопу ў іх, як мы ўбачым, у пасляваенныя гады ў спецслужбаў не было.

### Агенты-суседзі

Агент па мянушцы Мар'ян, напрыклад, жыў у суседняй з Клімовічамі кватэры. У чэрвені ў акружэнне жонкі Клімовіча быў уведзены новы інфарматар, жанчына з агентурным псеўданімам Сакалоў: «...У крыніцы з Клімовіч Веранікай узнікаюць добрыя ўзаемаадносіны, а менавіта: Клімовіч прапанавала крыніцы з'ездзіць з ёй у вёску да яе родных па прадукты. На просьбу крыніцы пазнаёміцца з добра знаёмымі аб'екту жыхарамі Вільні, каб бавіць разам вольны час, — Клімовіч абяцала выканаць гэта...». Крыніца некалькі разоў спрабавала перавесці размову на тэму мужа, але Вераніка казала, што не хоча пра яго гаварыць.

«Сакалову» ўдалося даведацца, што маці Адольфа жыве ў Свянцянах. Аднак крыніца Мар'ян называла іншы адрас — хутар Бастуны ў раёне станцыі Беняконі і нават меркавала, што Клімовіч хаваецца ў маці.

Цікава, што спецслужбы не мелі нават апісання знешнасці Клімовіча. І Сакалову, і Мар'яну было дадзена заданне здабыць яго фота.

На 1946—1947 гады быў складзены падрабязны план дзеянняў «па вышуку кіраўніка «Беларускага нацыяналістычнага (так у дакументах) камітэта», старшыні ЦК «Беларускага цэнтра ў Літве» і старшыні ЦК нацыяналістычнай беларускай партыі «Беларуская сялянская (так у дакументах: «крэсьтянская» замест «хрістіанская») дэмакратыя»... Клімовіча Адольфа Юсцінавіча».


SHELLEY'S INSTITUTE.
MICKIEWICZA.
WILNO.
STUDENT'S PASS.
SESSION ::1935/36.
DATE :1/9 SEPTEMBER 1935.
ENTITLING MR. A. Klimowicz
STUDENT'S PASS NR. 10
TO ATTEND CLASSES IN
ENGLISH FOR FOREIGNERS.
EXPIRING
RECEIVED BY
TOTAL FEE 85.-
NO FEES ARE RETURNABLE AFTER THIS TICKET HAS BEEN ISSUED.

### Адпрацоўка кантактаў у Беларусі

Паралельна пошукі Клімовіча ішлі і ў Беларусі. Справа на «агента нямецкай выведкі» Адольфа Клімовіча была заведзеная ў чэрвені 1945 года АКР СМЕРШ Гродзенскага гарнізона. Апыталіся (і вербаваліся для вышуку Клімовіча, як Вера Бушліна) гаспадары дамоў у Лідзе, дзе ён жыў у час вайны, калегі па працы ў «Беларускай самапомачы». Усе дапытаныя, з тых, хто заставаўся на волі, давалі падпіску аб неразгалошванні.

## За старой маці Адольфа Клімовіча ў яе вёсцы сачылі аж шэсць агентаў

План прадугледжваў:

— атрымаць поўныя звесткі на жонку Клімовіча і сваякоў, якія жывуць з ёй, і асяроддзе па кватэры;

— высветліць іх блізкія сувязі па Вільні. Усе родныя і іншыя сувязі Клімовіч праверыць паводле аператыўных улікаў (г.зн. выявіць агентаў у яе атачэнні і прыцягнуць да «працы»);

— з блізкіх сувязяў Клімовіча і яго жонкі падабраць, а затым правесці шэраг вярбовак;

— увесці «ПК» на перапіску жонкі Клімовіча і ўсіх яго блізкіх сваякоў.

ПК — гэта «перлюстрацыя карэспандэнцыі». ПК была ўведзеная і за ўсёй магчымай агульнасаюзнай перапіскай Адольфа Клімовіча — любы ліст, дасланы ім з любой часткі СССР, трапіў бы да чэкістаў. У аддзел «В» МГБ ЛССР сцякаліся копіі лістоў ад усіх цёзак Клімовіча. Правяралася і перапіска сясцёр Веры. Але вынікаў гэта не дало.

У Лідзе працавалі і іншыя інфарматары: Маліш (куратар — маёр МГБ Трацяк) і Рыжэнка (куратар — капітан Гаўрылін). Апошні быў спецыяльна завербаваны і накіраваны ў Ліду, таму што добра ведаў у твар Клімовіча. Дзякуючы Рыжэнку, чэкістам удалося выйсці на яшчэ аднаго знаёмага Клімовіча — Мікалая Барысевіча, які ў вайну жыў у Лідзе. Яго завербавалі пад псеўданімам Марак.

Новы агент апісаў выгляд Клімовіча: «Сярэдняга росту, валасы сівыя, меў вусы, з выгляду Клімовіч меў вялікае падабенства з Гітлерам ...». Таксама ён адзначыў, што «Клімовіч кожны тыдзень на 2—3 дні выязджаў у Вільню для наведвання ўніверсітэта, дзе ён нібыта выкладаў аграномію, прычым падчас кожнага выезду Клімовіча ў горадзе Ліда і Лідскім раёне абавязкова былі невядома кім зробленыя забойствы рускага і беларускага насельніцтва», а таксама, што Клімовіч «відавочна супраць савецкай улады не выступаў, але людзей беларускай нацыянальнасці, якія бачылі апору ў СССР, ненавідзеў. Нямецкіх выступоўцаў, якія выступалі перад насельніцтвам з антысавецкімі прамовамі, стараўся і перакладаў дакладна. Цікавы той факт, што польскае насельніцтва Клімовіча лічыла як свайго чалавека і пярэчанняў з боку палякаў на тое, што ён з'яўляецца ў немцаў галоўным перакладчыкам, не было».

### «Размаўлялі па-беларуску і вучылі гэтаму дзяцей»

У Вільні ж працягвалася сачэнне за жонкай. Агенты адзначалі, што Вераніка паводзіць сябе замкнёна, размоў пра мужа пазбягае. Мар'ян выкарыстоўваў любую магчымасць, спрабаваў разгаварыць, нават калі Вераніка заходзіла да яго пазычыць мясасечку, але марна. Клімовіч не пускала яго ў сваю кватэру, і ён выкарыстоўваўся, па класіфікацыі саміх чэкістаў, як «агент-вартавік». Мар'ян у сваіх справаздачах складаў пагадзінны графік: хто да Веры ўваходзіў, хто выходзіў, калі, колькі прабыў...

28 лютага 1947 оперупаўнаважаны СМЕРШ малодшы лейтэнант Гінько дапытаў суседа Клімовіч, Вацлава Пляваку. Цікава, што з жыхароў свайго дома ён ведаў толькі траіх: Клімовіч, Валоўскую (пазней, як і Плявака, выехала ў Польшчу) і гадзіннікавага майстра Кукеля. Астатнія былі надаўнімі прыезджымі. Плявака пералічыў усіх вядомых яму сваякоў Клімовіч, сярод якіх назваў Яна Шутовіча, беларускага грамадскага і культурнага дзеяча, брата Веры Клімовіч. Шутовіч на той момант знаходзіўся ў турме ў Мінску, ён вернецца з лагера толькі ў 1956 годзе. А яго жонка, літоўская паэтка Яна Міцюце, жыла недалёка, на гэтай жа вуліцы ў доме 30. Плявака адзначаў, што Клімовічы былі нацыяналістамі-беларусамі і паміж сабой размаўлялі толькі на беларускай мове і вучылі гэтаму сваіх дзяцей.

Летам 1947 года Адольфа Клімовіча падалі ў агульнасаюзны вышук.

### Сачэнне ўсіх за ўсімі

Агент Сакалоў часам выяўляла чыста жаночую інтуіцыю, што дазваляла ёй нават дэшыфраваць калег па нябачным фронце — напрыклад, суседку Клімовіч Баранаву: «...У кватэры № 7 гэтага ж дома пражывае Баранава Кацярына, гадоў 35, Баранава ў блізкіх адносінах з сястрой Клімовіч... Баранава характарызуецца як вульгарная, грубая і разгульная жанчына, якая паводзіць сябе непрыстойна, мае вялікія сувязі сярод вайскоўцаў. Клімовіч вельмі не падабаецца сяброўства сястры з Баранавай...

...Баранава таксама мае сувязь з органамі контрвыведкі або МГБ ...яна неаднаразова казала, што прызначыла спатканне і трэба пайсці выканаць заданне».

Чэкісты высветлілі, што Кацярына Баранава (1913 г.н., нар. у Ленінградскай вобл., працавала інспектарам у Ленінскім райвыканкаме Вільні) «знаходзіцца ў складзе агентурнай сеткі ...працуе па выяўленні членаў польскіх падпольных арганізацый». Чэкісты дамовіліся аб выкарыстанні яе і для працы па Клімовічу.

Але з часам Вера Клімовіч страціла давер да «Сакалова». Асабліва яе падазрэнні выраслі пасля выкліку ў міліцыю нібыта для допыту па пытанні спекуляцыі. Падобна,



**Зміцер Дрозд**
Гісторык-архівіст, грамадскі дзеяч, публіцыст, аўтар генеалагічных, гістарычных і мемуарыстычных прац, даследчык біяграфіі Дуніна-Марцінкевіча.

# Як Адольф Клімовіч сем гадоў хаваўся пад носам у савецкіх спецслужбаў

**Працяг са старонкі 13.**

а таксама краўцом Іозасам Эйдуконісам. Адзначаецца, што Эйдуконіс — былы паліцэйскі пры смятонаўскім рэжыме, а яго дачка Ядвіга Пацевічэне займаецца спекуляцыяй, перыядычна выязджае ў Вільню, дзе сустракаецца з жонкай і дзецьмі Клімовіча. Згадваецца і 60-гадовы пчаляр Чэнкус з вёскі Подзі, у якога Клімовіч сустракаўся з жонкай і дзецьмі. Запісаныя нават падлеткі, якім Клімовіч даваў урокі спеваў у касцёле...

Пералічаныя і ксяндзы парафіі. Данартас Лінартас у 1947 быў арыштаваны «за сувязь з бандай». Яго наступнік Чэславас (Крывайціс) ад 1950 працаваў начальнікам канцылярыі ў біскупа і «знаходзіцца ў сетцы МГБ Літ. ССР», ксёндз Вітаўтас Сідорас пераведзены ў Друскеніцкі раён і «праходзіць па вышуковай справе».

Прыцягваліся і інфарматары з кола беларускага нацыянальнага руху. Так, напрыклад, 1 жніўня 1952 агент з арыгінальным псеўданімам Папяровы паведамляў куратару, лейтэнанту МГБ ЛССР Валодзіну: «З Клімовічам Адольфам знаёмы з 1939 года. У той час Клімовіч быў рэдактарам газеты «Беларуская крыніца» і прымыкаў да кіруючых колаў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. ... Упершыню сустрэўся і пазнаёміўся на юбілеі ў ксяндза Станкевіча...».

Адным з тлумачэнняў, чаму Клімовічу ўдавалася так доўга хавацца, акрамя надзвычай разумных і асцярожных паводзін яго і яго жонкі, было тугадумства мясцовых чэкістаў. Хоць яны па абавязку службы павінны былі звярнуць увагу на новага чалавека ў сваёй «парафіі». Агент Патрыётас паведамляў, што капітан МГБ Окунеў, дазнаўшыся пра прыезд новага арганіста, зрабіў выснову, што Клімовіч кінуў жонку ў Вільні і цяпер жыве з дачкой гаспадыні Нарвідзішак — Вандай Банкоўскай, гадоў 50. Пасля старую Банкоўскую з дачкой вывезлі ў Сібір як кулакоў і былых памешчыкаў.

Як бачым, людзей з акружэння Клімовіча арыштоўвалі, а яму да часу шанцавала.

Кожны з аддзелаў МГБ збіраў інфармацыю на сваім участку, а каардынацыі між аддзеламі амаль не было. Работа ішла кіпучая, а эфекту мала.

## План выкрадання

Мы падыходзім да аднаго з самых цікавых момантаў гэтай гісторыі — затрымання Адольфа Клімовіча. Чэкісты і тут мудрылі: прыдумалі складаную схему з выкарыстаннем ксяндза Оніштакага касцёла, ужо не проста як асведаміцеля, але як саўдзельніка выкрадання. Ксёндз па сумяшчальніцтве быў агентам Патрыётасам. Ён па плане чэкістаў павінен быў выклікаць Клімовіча з Жыліна да сябе, нібыта «для вырашэння пытання аб мэтазгоднасці правядзення набажэнства ў адзін і той жа дзень і ў Оніштах, і ў Жыліне».

Як меркавалі чэкісты, пасля размовы Клімовіч будзе вяртацца дадому пешшу праз лес, дзе яго і схопяць. Прыдумалі чэкісты і спосаб патлумачыць знікненне Клімовіча: прымусіць яго напісаць «ліст аб тым, што яму неабходна тэрмінова на некаторы час выехаць ... накіраваць праз выведніка-літоўца старшыні касцельнага камітэта. Выведніка экіпіраваць у сялянскую вопратку і паказаць як знаёмага Клімовіча, жыхара Троцкага раёна, які выконвае яго просьбу, перададзеную «на хаду».

Ксёндз-Патрыётас паслаў Клімовічу цыдулку з просьбай прыйсці да яго 14 жніўня раніцай. Ксяндзу прадпісвалася пасля сыходу Клімовіча «неадкладна сігналізаваць, куды, з кім, па якой дарозе ён сышоў».

У лесе, на дарозе, Клімовіча павінна была чакаць засада. Да вечара яго планавалася пратрымаць у лесе, а пасля адправіць у Вільню, у МГБ. Аднак план праваліўся.

Патрыётас, адслужыўшы ранішнюю імшу, сядзеў дома, чакаў Клімовіча. Але з Жыліна прыйшоў паштальён і прывёз ад яго толькі ліст па-літоўску:

«Дарагі зямляк. Лёгка сказаць «...Маеш час, прыходзь...», але, папершае, да Онішак не 3 кіламетры, па-другое, мне не 20 гадоў, патрэцяе, пайсці і вярнуцца, а за той час можа і «Парыж упасці», не кажучы ўжо пра тое, што сёння «бязмэтна» цягацца не кожнаму бяспечна...»

Ліст Клімовіч падпісаў псеўданімам Дуда: ён абачліва ніколі не падпісваў лісты сваім імем.

Чэкістам тэрмінова прыйшлося прыдумляць новы план. Было вырашана арыштаваць Клімовіча ў ноч на 15 жніўня:

«З сыходам Клімовіча на вячэру да калгасніка Макаравічуса да касцёла накіроўваецца жанчына-разведчыца, якая пры вяртанні Клімовіча дадому звяртаецца як прадстаўніца РВКа з просьбай пагаварыць аб садзейнічанні ва ўборцы ўраджаю. Разведчыца запрашае зайсці ў пакой для размовы. У кустах каля касцёла застаецца засада. У пакой следам за Клімовічам заходзіць аперработнік, які яго затрымлівае. Здзяйсняецца агляд кватэры, Клімовічу прапануецца напісаць ліст, зашыфраваўшы яго адлучку, бо, маўляў, ён пасля сакрэтных перамоў у МГБ ЛССР павінен будзе вярнуцца дадому і весці ранейшы лад жыцця. ... Пасля гэтага Клімовіча ў гадзіну ночы вывесці палямі ў лес, дзе будзе чакаць машына, а адтуль — у Вільню».

## Ксяндзы-агенты

І тут трэба зрабіць невялікае адступленне. Як мы бачым, асноўную ролю ў затрыманні Клімовіча чэкісты адвялі ксяндзу суседняга касцёла — агенту Патрыётасу. У сваіх справаздачах ён пакінуў цікавыя назіранні пра жыццё Адольфа і яго сям'і. Напрыклад, тое, што Клімовіч «беларускую мову вельмі любіць і пры магчымасці стараецца на ёй гаварыць, ці, кажучы на іншай мове, дае прыказкі або цікавыя выслоўі на сваёй беларускай мове», «Клімовіч з крыніцай заўсёды стараўся гаварыць па-беларуску, хоць крыніца слаба валодае беларускай мовай. Крыніца разумее, што Клімовічу, як свядомаму беларусу, задавальненне, калі гавораць па-беларуску» ці што «Клімовіч любіў гаварыць пра кс. Адама Станкевіча і выказваўся, што апошні калі-небудзь будзе біскупам ці арцыбіскупам свабоднай нацыянальнай Беларусі. Сам пра сябе Клімовіч таксама выказваўся, што ён у будучыні стане знакамітым беларускім дзеячам...».

Аднак падазроны Клімовіч «ні разу, ні словам не згадаў крыніцы аб сваёй асобе і пра сваё мінулае». Ксёндз не грэбаваў ніякай інфармацыяй, у тым ліку і атрыманай на



Фота з следчай справы. Магчыма, выкрадзенае агентамі ў родных Клімовіча.

споведзі: «...Бабулька гаспадаркі Нарвідзішкі Ядвіга Банкоўская часам скардзілася на споведзі крыніцы, што да Клімовіча прыязджае жонка, што яны разам спяць і такім чынам ганьбяць дом Банкоўскай, у якім даўно няма цялесных грахоў. Яна скардзілася на арганіста і яго жонку, што яны размаўляюць таемна, шэпчуцца толькі на беларускай мове».

А вось з ксяндзом Жылінскага касцёла ў Адольфа склаліся прыязныя адносіны, што адзначаў і інфарматар: «Крывайціс і Клімовіч вельмі сябравалі, і магчыма, што Крывайціс ведае ўсе таямніцы Клімовіча...». Вядома, агент Патрыётас не ведаў, што блізкі сябар Адольфа быў не кім іншым, як ... агентам Гедымінасам.

## «Спяваў беларускія песні і хваляваўся»

З чэкісцкай даведкі вядома, што «Крывайціс Чэславас Браніслававіч, 1921 г. н., літовец, беларускага паходжання, да 1940 года быў удзельнікам антысавецкай арганізацыі Атэйцінінкаў [«Атэйцінінкі» — літоўская каталіцкая маладзёжная арганізацыя], у 1948 г. быў памагатым банды «Дэдукас», цяпер з'яўляецца ____________, матэрыялаў аб дзейнасці Клімовіча не даваў».

На месцы прочырку пры неабходнасці ўпісвалася слова «інфарматар». З паказанняў Крывайціса мы можам даведацца, як адбылася яго вярбоўка.

«20 снежня 1946 года ... прыбыў пробашчам у в. Жыліны. Там знайшоў гаспадыню свайго папярэдніка ксяндза Лінартаса. Распытаў пра касцельных маіх слуг, яна распавяла, што дзяка няма, а арганіст жыве за 3,5 км ад касцёла ў маёнтку...

Банкаўскене думала, што ён паляк, але пазней высветлілася, што ён беларус, таму яна пачала яго ненавідзець і пачаліся інтрыгі.

Жонка яго прыязджала прыкладна кожны месяц, ён яе таемна сустракаў і праводзіў на станцыю... Жонка Клімавічуса пражывае ў г. Вільні... Малодшы сын носіць прозвішча, здаецца, Вішняўскас. Гэта зроблена, каб пацвердзіць чуткі, што нібыта яны разведзеныя...

Працуючы арганістам, Клімавічус збіраў нямала прадуктаў натурою, акрамя гэтага, атрымліваў нямала і грошай. Усё гэта ён пры сустрэчах перадаваў жонцы, а часам у перадачах пасярэднічаў Тарайла Стасіс, 1921 г.н. Ён адвозіў гэтыя прадукты ва ўмоўленае месца, а яна адтуль іх забірала. Такім чынам ён утрымліваў сям'ю. Клімавічус вельмі сумаваў па дзецях, бо меншы сын застаўся пры яго ўцёках ва ўзросце менш за год. Клімавічус прасіў жонку прывезці на станцыю паказаць сына, але яна не згаджалася — баялася.

Клімавічус ненавідзеў палякаў, быў прыхільны да літоўцаў, але спрачаўся часам з нагоды Вільні, бо гэты горад ён лічыў беларускім. У спрэчках ён казаў, што павінна быць створана Беларуска-Літоўская федэрацыя са сталіцай Вільняй і сталіцамі Літвы — Каўнас, Беларусі — Мінск.

...Паводзіў сябе Клімавічус спакойна, вельмі цікавіўся міжнародным становішчам, слухаў перадачы з-за мяжы на польскай, рускай і нямецкай мовах.

Паступова даведаўся, што ён, арганіст, з'яўляецца Клімавічусам Адольфасам, сынам Юстаса... Сярэднюю адукацыю атрымаў у Вільні, а вышэйшую — у Празе. Па спецыяльнасці ён аграном-інжынер. Клімавічус — гарачы, перакананы нацыяналіст, спяваў нейкія беларускія песні і хваляваўся. Яго марай з'яўлялася жаданне заняць адказную пасаду і аднавіць нацыяналістычную буржуазную Беларусь. На заўвагу аб тым, што беларусы некультурныя, злосна адказваў, што ім не было магчымасці прасвяціцца. Цытаваў паэмы «Беларуская дудка», «Смык беларускі». Клімавічус сцвярджаў, што сучасная руская пісьменнасць вынайдзеная беларусам, а рускія, маўляў, яе прысвоілі...

У перыяд нямецкай акупацыі Клімавічус знаходзіўся ў горадзе Ліда, працаваў шэфам Беларускага камітэта. Там ён арганізоўваў школы, курсы для дарослых і адначасова выкладаў у заснаванай у Вільні беларускай настаўніцкай семінарыі...»

Калі Крывайціса хацелі перавесці ў іншы прыход, Клімовіч адмовіўся з ім ехаць, бо на кірмашы ў суседняй вёсцы яго пазнаў адзін паляк, якога ён, жывучы ў Лідзе, зняў з пасады начальніка павета. Апісвае Гедымінас і адносіны Клімовіча з ксяндзом Уладзіславам Чарняўскім, які пазней служыў у Вішневе, перакладаў Святое Пісьмо па-беларуску і стаяў ля вытокаў адраджэння беларускамоўнай каталіцкай службы.

«З настаяцелем Варэнскага касцёла Чарняўскім ён быў знаёмы, але сустракацца з ім не хацеў, бо лічыў несур'ёзным і балбатуном. Чарняўскі таксама нацыяналіст-беларус і вельмі хоча паехаць на работу ксяндзом у Беларусь... Нядаўна, прыкладна 2 тыдні таму, да крыніцы (г.зн. да яго, Крывайціса) уся ў слязах прыйшла жонка Клімавічуса і скардзілася на Чарняўскага, кажучы: «Калі майго мужа арыштуюць, то буду ведаць, што праз Чарняўскага. Хачу ехаць да яго і яго папярэдзіць. Магчыма, Вы яго папярэдзьце?»...

## Нікога не выдаваць

Спецслужбы зрабілі выснову, што агент Гедымінас... чатыры гады хаваў Клімовіча ў сябе ў парафіі. Больш за тое, пасля вярбоўкі Крывайціс прызнаўся пра гэта Клімовічу, а той яму раіў «выкручвацца, нікога не выдаваць», не даваць матэрыялаў, якія маглі б паслужыць падставай да арышту каго-небудзь.

Праз гэта Крывайціс меў праблемы. Яго тлумачэнне, дадзенае 20 жніўня 1952, дазваляе зразумець сітуацыю, якая склалася вакол касцёла ў Літоўскай ССР:

«У красавіку 1950 мяне выклікалі ў Тракайскі выканкам, але я не прыйшоў у прызначаны час, бо набліжаўся Вялікдзень. Пры паўторным выкліку вымушаны быў з'явіцца. ...У МГБ на мой адрас было зроблена некалькі папрокаў, з-за чаго я вельмі расхваляваўся. Затым было прапанавана супрацоўнічаць, і я пагадзіўся. ...Праз сваю неспрактыкаванасць па вяртанні дадому пра гэта распавёў арганісту Клімовічу...

Калі я паехаў да ксяндза Шбогжліса ў Онішкі, ён мяне стаў распытваць, у сувязі з чым мяне выклікалі ў Трокі. Я яму сказаў, што быў выкліканы ў МГБ, але буду пазбягаць сустрэч з імі, ён, відаць, зразумеў і больш мяне не распытваў.

Неўзабаве да мяне прыехаў ксёндз Жыжляўскас, я і яму распавёў падобна, як і Клімовічу...

У сувязі з тым, што я распавёў пра сваё супрацоўніцтва з органамі МГБ Клімовічу, я баяўся, каб гэта не стала здабыткам органаў МГБ, і пра яго ў органы МГБ нічога не

паведамляў. Я думаю, што гэтыя асобы аб маім супрацоўніцтве з органамі нікому не расказалі.

Мне асабіста пра сваё супрацоўніцтва з органамі МГБ распавёў Гружаўскас Антанас, цяпер служыць памочнікам у Шымонісе. Ксёндз Шукіс казаў, што згоды супрацоўнічаць з органамі не даў, хоць яму вельмі пагражалі. Жыкляўскас казаў, калі яго выклікалі ў Вільню, што з ім так будзе, як са мной...».

У адным з данясенняў чэкісты паказалі, што «ксёндз Жыкляўскас з'яўляецца агентам 5 аддзела МГБ Віленскай вобласці».

### «Хутка вернецца»

Следчыя прадпрымалі так шмат перастраховачных крокаў, бо спадзяваліся раскрыць яшчэ і створаную Клімовічам «агентурную сетку». А раптам хто прыйдзе да яго з Захаду?

Як развіваліся падзеі далей, мы ведаем са справаздачы таго ж агента Патрыётаса.

Увечары 14 жніўня званар Жылінскага касцёла прыйшоў у касцёл званіць і пабачыў, што храм замкнуты, на пароге ключ і ліст Клімовіча да старшыні касцельнага камітэта Няверава. Клімовіч пісаў, што сышоў па сямейных справах, выбачаўся і абяцаў праз некалькі дзён вярнуцца. Няверас паслаў роварам свайго сына з гэтым лістом да ксяндза дэкана Стасіса Смалінскаса, пытаючыся, што рабіць з касцёлам у Жыліне.

Смалінскас пайшоў па параду да калегі — Патрыётаса... Адвёў яго ўбок, паказаў пісьмо, спытаўся, што магло здарыцца. Клімовіч, мабыць, засумаваў па жонцы і паехаў да яе пабачыцца — супакоіў яго агент. Смалінскас паверыў.

Але чуткі пра арышт усё адно пайшлі. Праз некалькі дзён да Патрыётаса прыйшоў закрыстыян Жылінскага касцёла, 14-гадовы Ёзас Каспаравічус, і сказаў: «Нашага арганіста арыштавалі». Агент перакануў і хлопчыка, што Клімовіч пайшоў да жонкі і хутка вернецца.

Тым часам 16 жніўня 1952 года Адольф Клімовіч быў дастаўлены ў Вільню для першага допыту. Яго праводзілі намеснік міністра дзяржбяспекі Літоўскай ССР палкоўнік Мартавічус і начальнік 3 аддзялення 2 аддзела МГБ ЛССР маёр Шчарбакоў.

Пасля следства Адольф Клімовіч быў асуджаны да найвышэйшай меры пакарання. Хоць, вядома, ніякіх сувязяў з «германскай разведкай» выяўлена не было. І Клімовіча расстралялі б, але праз пяць дзён пасля вынясення прысуду памёр Сталін. Расстрэл замянілі на 25 гадоў лагераў. Клімовіча ўратавала тое, што ён так доўга хаваўся.

### Рэабілітаваны: «няма складу злачынства»

Адбываць пакаранне ён трапіў у Інту, Комі АССР, але адсядзеў толькі чатыры гады. У 1956-м яго справу перагледзела спецкамісія Вярхоўнага Савета СССР. І не знайшла складу злачынства.

Адразу вярнуцца ў Вільню пасля вызвалення Клімовічу не дазволілі, да 1960-га ён жыў у Барысаве. Потым усё ж пераехаў у Вільню, дзе ўз'ядналася нарэшце сям'яКлімовічаў. Да смерці ў 1970-м Адольф Клімовіч працаваў арганістам у касцёле на Звярынцы. Пахавалі яго ў Клюшчанах, побач з бацькамі. Перад смерцю ён паспеў зрабіць яшчэ адзін вялікі ўнёсак у справу беларускай культуры: склаў біяграфічны слоўнік нацыянальных культурных і палітычных дзеячаў.

# Былая фігурыстка, а цяпер дэпутатка «Адзінай Расіі» Раднiна пра дачку, якая жыве ў ЗША: «А што тут такога?»

**Ірына Радніна** — знакамітая савецкая фігурыстка, адзіная ў гісторыі трохразовая алімпійская чэмпіёнка па фігурным коўзанні. У 1990—2002 гадах жыла ў ЗША, працавала трэнеркай, пасля чаго вярнулася ў Расію. З 2007 года — дэпутатка Дзяржаўнай Думы ад «Адзінай Расіі», галасуе за ўсе пуцінскія законы. Былая спартсменка дала вялікае інтэрв'ю парталу Sports.ru. Прыводзім цікавыя вытрымкі.



* * *

**— Вы рэтвітнулі такі запіс: «Бісмарк сказаў: «Войны выйграюцца і прайграюцца за школьнымі партамі». А кітайцы дадаюць: «Калі вы хочаце перамагчы ворага, выхоўвайце яго дзяцей». Якая краіна выхавала вашу дачку?**

— Амерыка. Але ўсе неяк забываюць, што ў дзяцінстві двое бацькоў.

**— Намякаеце, што гэта не ваша віна?**

— Часткова мая, часткова не мая. Гэта было і жаданне яе бацькі, якое ўлічваецца пры выхаванні дзіцяці.

**— Існавала магчымасць забраць Алену ў Расію?**

— Па рашэнні суда да 18 гадоў яна не магла ўязджаць у нашу краіну. Гэта патрабаванне бацькі.

**— А пасля 18?**

— Тады яна ўжо скончыла школу, вучылася ва ўніверсітэце.

**— У Расію не хацела?**

— У яе ангельская мова. Сказала: «Спачатку хачу атрымаць адукацыю на той мове, на якой свабодна размаўляю». Пасля заканчэння вучобы працавала ў *Russia Today*. Адзіная з нашых — у Алены ёсць і грамадзянства Расіі — трапіла ў спіс *Forbes* як малады журналіст, што асвятляе палітыку.

**— Патрыёт якой краіны ваша дачка?**

— Не ведаю. Такое пытанне ёй не задавала. Стараемся не абмяркоўваць палітыку, таму што ўвесь час пачынаецца канфлікт. Каб іх не ўзнікала, ёсць тэмы, якія абыходзім. У яе свае погляды. Я іх паважаю. У мяне свае — яна таксама іх паважае.

**— Яна кажа: «Мама, ты галасуеш за дрэнныя законы»?**

— Бывае. Або просіць тлумачэння, чаму мы за гэта прагаласавалі або адхілілі.

**— Ці не казала, што ёй за вас сорамна?**

— Не. Але я магу сказаць, што мяне ўсе гады гэтым дакараюць. Што ў мяне ёсць дачка, якая жыве там з чатырох гадоў, калі ніякай Дзяржаўнай Думы не існавала. І ёй без канца нагадваюць, хто яе маці і чым яна займаецца.

**— Ці не здаецца дзіўным, што вы рэтвітнулі запіс пра войны, якія выйграюцца і прайграюцца за школьнымі партамі, пры гэтым Алена атрымала адукацыю ў Амерыцы, і яна амерыканка?**

— І што? Хочаце сказаць, што яна вораг краіне ці мне?

**— З гэтага запісу вынікае, што ў тым ліку праз вас мы прайграем вайну.**

— Дурасць якая. Што ж вы так прымітыўна разважаеце. Мяне гэта замілоўвае. Тады лепш не чытайце Бісмарка.

Выснова ў тым, што трэба выхоўваць пакаленне. Гэта не значыць, што яно павінна быць толькі патрыятычным. Выгадаванае пакаленне — гэта калі кожнае новае пакаленне вядзе нас наперад. Гэта прагрэс, навука, эканоміка. Нам, пажылым, больш за ўсё цікава, калі моладзь адукаваная і склалася як асобы. Я не гляджу на гэта як на вайну. А вы гледзіце як на прымяненне сілы адзін супраць аднаго.

**— Алена добра гаворыць па-расейску?**

— Добра. І яшчэ на пяці мовах.

**— Вы распавядалі, што з братам з Масквы яна камунікуе на англійскай. Чаму?**

— Лягчэй. Моладзь. Яны так хутчэй знаходзяць супольную мову. Памятаю момант, як аб'ядналіся супраць мяне ў надзеі, што я не разумею, пра што гавораць, і пераходзілі на ангельскую. Недзе гэта ўжо і звычка.

**— Унутры вас няма крыўды, што дачка ў Амерыцы? Што ў фэйсбуку яна піша, як прачытала ўсяго Гары Потэра, а не кнігі Носава, пра якія вы робіце рэтвіты?**

— Не, гэта не абражае. Кожнае пакаленне жыве сваім жыццём. Чаму я павінна навязваць сваё? Мая задача была падняць дзяцей, вырасціць, даць адукацыю. Далей кожны стаіць на сваіх пазіцыях. Напэўна, тады і з'яўляюцца цікавыя людзі. А не калі яны залежаць ад дарослых і глядзяць на жыццё вачыма дарослых. У гэтым, дарэчы, праблема нашай адукацыі. Пётр I увёў муштру і зубрэнне. А хацелася б больш свабоды. Каб настаўнік, калі ты адказваеш не так, як ён выкладаў, не паніжаў адзнаку.

**— Давайце яшчэ раз і шчыра. Няма нічога дрэннага ў тым, што дачка члена расійскага парламента жыве ў краіне-суперніку?**

— А што тут такога? Яна там жыве з 1990 года. Не я развальвала Савецкі Саюз. Я ж не вінаватая, што тую краіну, за якую ваявалі мае бацькі, за якую я выступала, узялі і прафукалі.

**— А калі б не прафукалі?**

— Вярнулася бы ў Расію раней. Кантракт быў на два гады, але зацягнуўся на 10 гадоў.

* * *

**— Ці чытаеце артыкулы Алены?**

— Часткова. Мая англійская не настолькі добрая.

**— Яна пісала, што ў Расіі ёсць «атмасфера страху з-за прынятых законаў, захлопванне свабоды слова і пратэсту, фігуры апазіцыі, якія былі атручаны або якіх спрабавалі забіць, і журналісты, якія былі забітыя». Не адчуваеце віну за гэта?**

— У чым віну?

**— Што ў Расіі ёсць атмасфера страху, прымаючы такія законы.**

— Я выдатна разумею, у якіх СМІ працуе дачка. Ёй давялося сысці з адной кампаніі, калі сказалі: «Гавары пра Крым так». Яна адказала: «Буду казаць тое, што кажу». — «Не, нам такога не трэба».

**— У адным артыкуле яна ўжыла дзеяслоў «анексаваць» у плане Крыма. Атрымліваецца, гэта яе шчырая пазіцыя?**

— Не ведаю. Я яшчэ раз кажу: мы пра палітыку не размаўляем. І давайце скончым гэтую тэму. Растлумачу чаму: чым больш хтосьці атрымлівае інфармацыю пра маіх дзяцей і пра мяне, тым больш у яго ёсць зброі для барацьбы. Я паўтару: у нас няма супрацьстаяння. Мы паважаем погляды адна адной. Калі я прымаю такія законы, у мяне ёсць меркаванне пра гэта. Калі яна піша — у яе таксама ёсць меркаванне.

* * *

**— У вашым твітары з'явілася фота Абамы з жонкай, якія прагна глядзяць на банан. Вы казалі, што гэта зрабілі хакеры.**

— Так, выставілі ў мой дзень нараджэння. Да гэтага фота захоўвалася ў мяне ў тэлефоне.

**— Навошта?**

— Мне перасланы, ха-ха-ха.

**— Вам яно спадабалася?**

— Смешна.

**— Што менавіта?**

— Рэакцыя. Як зрабілі — гэта ж не фатаграфія, а мантаж.

**— Вы палічылі Абаму з жонкай за малпаў?**

— Я з таго пакалення, калі банан быў рэдкім фруктам, які мы елі раз на год. Яшчэ пражыла 10 гадоў у Амерыцы. І не памятаю там такой рэакцыі на банан. Усе нармальна іх купляюць і ядуць. Ніякага расізму на фота не ўбачыла.



Алена, дачка Ірыны Раднінай. Фота з сацыяльных сетак

# Як жылі жанчыны ў беларускай вёсцы 50—70-х

Гарадзенская пісьменніца **Ала Петрушкевіч**, аўтарка кнігі «Шчонаўскія абразкі», распавяла пра малавядомыя старонкі жыцця жанчын у беларускай вёсцы 50—70-х.

Сама кніга прысвечана далёка не адной гэтай тэме, яскравыя абразкі расказваюць пра цікавыя, жывыя падзеі невялікага Шчонава, што на Карэліччыне. Але выданне прымушае па-новаму паглядзець на жыццё беларускіх сялянак.



Сёстры Рэня і Люда ў родней хаце. Канец 60-х.

## Як удавалася не адставаць ад сусветнай моды

У кнізе Ала Петрушкевіч (псеўданім Альжбета Кеда) канстатуе: «Калі гляджу сёння старыя фільмы з Одры Хэпберн, бачу тыя ж сукенкі, што насілі нашы шчонаўскія харашухі. І валасы гэтак жа ўчэсвалі». І яшчэ: «Мода шасцідзясятых у Шчонаве была такая ж, як і ў Еўропе. Хай усё астатняе было зусім іншым».

«Нашай Ніве» пісьменніца тлумачыць: «Дзяўчаты, маладыя жанчыны майго Шчонава не жылі на бязлюдны выспе. Кіно, модныя часопісы (дадатак да «Работніцы і сялянкі»), паездкі ў блізкія і не вельмі гарады — усё гэта пашырала свет. І шчонаўскае моды ў тым ліку. Фэсты — вялікія гадавыя парафіяльныя святы, куды збіраліся людзі з усёй ваколіцы, — таксама былі месцам паказу высокай моды. Адтуль прыносілі новыя фасоны, адсканаваўшы іх вочкамі».

Перашкода для таго, каб не адставаць ад сусветнай моды, была адна — грошы. Дакладней, іх адсутнасць. Шчонаўскія кабеты рэдка куплялі гатовыя сукенкі, бо і дорага было, і выбару пасля вайны, ды і пазней, не было асаблівага. На дапамогу прыходзілі краўчыхі, што жылі ў вёсках, — яны і пашыюць, як скажаш, і дапасуюць да постаці, тлумачыць Ала Петрушкевіч.

Краўчых, якія б жылі са свайго таленту, не было. Усе дзесьці яшчэ працавалі: у паляводстве, на ферме, у шпіталі.

«Шылі прыхваткамі, ад сну час адрываючы. Сябе, сям'ю, радню апраналі. З чужых бралі капейкі, бо ж са сваіх людзей, у якіх тыя капейкі палічаныя былі», — распавядае спадарыня Ала.

Як рэагавала старэйшае пакаленне на кароткія сукенкі і спадніцы?

«Цярпіма, бо ў кожнага дачка на выданні, то і абгаворваць іншых не выпадала», — адказвае пісьменніца.

Упрыгожанні ў многіх захоўваліся яшчэ з даваеннага часу. «Памятаю тыя брошкі, пацеркі. І куплялі, дзе маглі. Ніхто з горада з пустымі рукамі не ехаў», — кажа Ала Петрушкевіч.

Па вайне была праблема з касметыкай. Шчочкі, вусны падмалёўвалі бураком, бровы — вугальком, валасы завівалі на гарачы цвік. А ў 60-я дзяўчаты і кабеты ўжо займелі крамныя падмалёўкі, распавядае пісьменніца.



Шпарагус — вазон, што рос у кожнай хаце, — быў абавязковым атрыбутам вяселля. Караваі ім упрыгожвалі, на грудзі маладой прышывалі, у валян уплыталі. На здымку ўжо пазнейшага часу маладая шчонаўка нат і ў модны свой строй галінку шпарагуса ўпляла. Пачатак 70-х.

## Дзе і як праводзіліся танцы

У многім лёсавызначальнымі для шчонаўскіх дзяўчат былі танцы (гулянё), дзе дабіраліся пары. Танцавалі па хатах, у цёплы час на вуліцы, але часцей у школе, якая вечарамі ператваралася ў клуб, каб пасля закрыцця школы да зруйнавання назаўсёды ў яго ператварыцца.

Модны вальс, вясёлы кракавяк, шляхетны падэспанак часцей за ўсё выконваліся мясцовымі музыкамі. Але самым улюбёным шчонаўскім танцам была полька.

«Не тая недарэчная паскакуха, якую толькі і ведаюць сёння. Гуляць польку трэба было так, каб яйка, на галаву пакладзенае, не ўпала. Без усялякіх падскокаў, роўненька, лёгенька, прытупваючы, круцячыся то ўправа, то ўлева», — распавядае спадарыня Ала.

Музыкаў наймалі з іншых вёсак, бо нямногія ў Шчонаве граць умелі. Самым знакамітым быў варанчанскі пан Чарноцкі, сляпы музыкант. А барабаніла ягоная жонка ці пасынкі.

«На танцах дзяўчына не магла ні запрашаць хлопца, ні адмовіць. Гэта сталася б падзеяй са знакам мінус, — тлумачыць пісьменніца. — Пра тое, каб праводзіць дзяўчыну дадому, хлопец дамаўляўся з тою ў час танцаў. Зрэшты, пары ў асноўным былі падабраныя».

«Мы, малыя, даходныя шчонаўкі, звычайна ведалі, хто з кім дадому пойдзе», — узгадвае гады дзяцінства аўтарка кнігі.

Гулянё ў Шчонаве было святам для ўсіх. Прыходзілі і старыя, і малыя.

«Стратэгічнымі пазіцыямі сталых жанчын былі месцы на лаўках, пры сценах. Каб усё згледзець, каб назаўтра ні аднае костачкі маладое неперамытае не засталося», — распавядае Ала Петрушкевіч.

## Як адносіліся да тых, хто падымаў руку на жонку

Ці мелі шчонаўскія жанчыны ў сваіх сем'ях роўныя правы з мужчынамі?

«Мелі. На выбары разам хадзілі, — жартуе пісьменніца. — Калі ўсур'ёз, то ніхто ў тыя часы ў нашых вёсках пра такія праблемы не задумваўся. Працавалі з раніцы да вечара, іншыя праблемы шчонаўцаў хвалявалі».

У «Шчонаўскіх абразках» адзначаецца: тое, што мужчыны білі жанчын, было звычайнай справай у беларускай вёсцы. Але як да гэтага ставіліся аднавяскоўцы?

«Спачувалі, калі кабета няшчасная, невінаватая, а муж злосць сваю на ёй зганяў. Або лічылі, што правільна муж робіць, калі кабета языку волю занадта дае, калі ўжыцца не можа. Не ўмешваліся ў чужыя сем'і, не прынята гэта было, бо муж і жонка самі павінны былі мірыцца», — распавядае спадарыня Ала.

## Якія працы былі найбольш цяжкімі для вясковак

Да хатняй жаночай працы адносіліся гатаванне, пранне, прасаванне, грады. Мужчыны касілі, аралі, дровы секлі. Найбольш цяжкія працы для жанчын былі ў калгасе. Самая страшная — торф капаць, лён апрацоўваць, рваць, трапаць.

«Памятаю, была неяк з сяброўкамі ў той сушылцы, дзе лён трапалі. Калі ёсць на зямлі пекла, то яно там. Пыл такі страшны, паветра ім насычана, дыхнуць няма чым. Апрануты ў фуфайкі, твары абвязаныя хусткамі, толькі шчыліны для вачэй. І цэлы дзень траплом трэба біць, каб лён шоўкам стаў. Выходзілі адтуль брудныя, усе ў пыле, — узгадвае пісьменніца. — Памятаеце адзін з першых заморскіх серыялаў «Рабыня Ізаўра»? Смяяўся наш калега, настаўнік, калі паказвалі, як рабы на плантацыях працавалі. Казаў: «Паглядзелі б яны, як нашы кабеты дзялкі калгасныя полюць».

А вось урывак з абразка «Здзек»: «Нядаўна даведалася пра тое, як апрацоўвалі лён шчонаўскія кабеты. Завялася ў ім нейкая мошка. Прыцягнулі вялізную бочку з дустам. Цалюткі дзень звенневая Ніна Пасэсарава насыпала з тае бочкі голаю рукою (якія пальчаткі тады хто ведаў?) гэты дуст у капронавыя панчохі, а жанчыны з імі цалюткі дзень па полі хадзілі і сеялі тую атруту. І труцілі сябе».

Выдаўшы «Шчонаўскія абразкі», Ала Петрушкевіч працягвае даследаваць гісторыю роднае вёскі праз лёсы людзей: «Даўно наша сям'я пакінула гэтую вёску, але я застаюся шчонаўкай. І сніцца мне наша хата, якой ужо няма».

Руслан Гарбачоў

# «З партрэта Сталіна зрабілі фіранкі, а карову хавалі ад партызан у хаце». Вяскоўкі згадваюць ранейшы побыт

**Чаму печ ставілі насупраць акна, як ратаваліся ад пажару іконамі і што гатавалі на вяселле ў беларускай хаце больш за паўстагоддзя таму? Беларускі, якія нарадзіліся, калі вай-фаю і электрапрыбораў не было нават у фантазіях, згадваюць, якой была хата іх дзяцінства.**



Моніка Барыла разам з катом ужо шмат гадоў дзеліць невялікі пакой з печкай.

### Часлава Квач, 79 гадоў

Ярка-жоўтая хата Чаславы, як амаль і ўсе дамы ў вёсцы, глядзіць на галоўную вуліцу Латыгаля (Глыбоцкі раён) прыгожым ганкам з акенцамі-ромбамі. Але гаспадыня сустракае нас праз уваход з двара са сціплымі нізкімі дзвярыма, дзе трэба нават троху прыгнуцца, каб прайсці. Часлава здзіўляецца пытанню, чаму парадны ганак зачынены, і пачынае сваю экскурсію па хаце.

— Мы там як не хадзілі, так і не ходзім. Нават не ведаю, нашто ён. Усе будавалі, вось і мы. Сусед іх шпакоўнямі называў. Спачатку там нават дзвярэй не было. Прарэзалі для гасцей, калі дачка замуж ішла. А самі не прывыкшыя: дзе вёдры, хлеў, там і ходзім.

Не да прыгажосці было, толькі што бялілі да святаў і хату, і печку. На Вялікдзень сходзім у лес, ялінак назбіраем, пазасоўваем пад столь, паміж ложкамі. Кветак з поля прынясём, дужа яны пахлі ўвечары. Жылі, як у лесе. Сцены з бярвення, іх жа ніхто не клеіў тады. Замест падлогі — ток, зямля ўтрамбаваная.

Холадна было без падлогі. Старыя ў лапцях хадзілі. Анучкі белымі вяроўкамі ўкруцяць і пайшлі. А я помню, малая была. Ужо восенню якой мама прадзе, а я стаю набасанож на зямлі. Ногі чырвоныя, як бурачкі, і ўсё роўна гуляю з гэтым пяском. Тады амаль у кожнай хаце дзеці хварэлі, паміралі.

Потым, калі сталі класці падлогу з дошак, мужчыны напачатку не давалі яе мыць, каб не згніла. І мы толькі перад святам наліём вады і шкрабем рыдлёўкай гэтую падлогу, аддзіраем бруд.

Як хату будавалі ў 1960-х, з тых часоў і печ стаіць. Мы яе толькі пліткай абклалі, а раней проста бялілі. Тут усе ставілі вялікія «рускія» печы. У якую хату ні зайдзі, спачатку печ, паралельна ёй іконы, а пад імі вялікі стол.

Печку заўсёды ставілі насупраць акна. Днём відаць было, калі гаршкі з печы даставаць. А вечарам ад агню і на вуліцы трохі святлей, лямпу заўсёды ж не запаліш.

Пад печкай кураняты жылі. Сабʼюцца разам, грэюцца. Зімой і курэй пад ложак пускалі жыць. Кожны дзень вымецем, вычысцім, пяском пасыплем і зноў пусцім. Як авечка акоціцца зімой, то таксама ў хату бралі. Баранчыкі смешныя, брыкаюцца, мы з імі гуляем, авечка бляе на ўсю хату.

Каты ва ўсіх былі, а то мышы б заелі. І сабакі на двары. У вайну нават карова жыла ў чыстай хаце, мы яе так ад партызан хавалі.

### Моніка Барыла, 92 гады

Моніка жыве ў вёсцы Дзеркаўшчына з пачатку 1960-х гадоў, калі яе сямʼя была вымушаная выехаць сюды з хутара, бліжэй да калгаса. Гаспадыня разам з катом ужо шмат гадоў дзеліць невялікі пакой з печкай, а светлую і вялікую, але халодную спальню адчыняе толькі для гасцей.

— Тады з хутара амаль што сілай выганялі. Трэба было пераязджаць, а грошай на новую хату не было. Таму разабралі старую, загрузілі на сані ад трактара і паехалі. Але ўсё роўна прыйшлося браць крэдыт, потым у калгасе адрабляў.

Вось гэтая цямнейшая ікона яшчэ з хутара. Дзед быў, калі набывалі, яна старэйшая за мяне. Тут і хрысцяць, і спавядаюць, і вянчаюць. Была яшчэ ікона святой Агаты. Яна ад пажару вельмі добра. Калі гарыць, трэба з ёй хату абляцець, каб агонь не разыходзіўся. Гэта ж цяпер усё па-навуковаму, а тады прыдумлялі. Але і правільныя людзі былі, жыццё ведалі.

Калі тая ікона развалілася, я яе ў печ і ўкінула. Усё святое трэба паліць, ніколі не выкідаць, каб не валялася са смеццем.

Раней у нас вялікі стол стаяў. Яшчэ цёмна, а ўжо снедаем. На снеданне і бульбу, і бліны гатавалі. Але самы вялікі быў абед. На першае абавязкова нешта кіслае — боршч з бацвіння, квас ці капуста (яе на зіму вялікую бочку ставілі і ўсё зʼядалі). На другое — прэсная бульба ці бліны, на трэцяе — крупы бялёныя. Увечары, як падберымся, скаціна прыйдзе, тады і вячэраем. Звычайна тым, што з абеду засталося.

Стол абавязкова засцілалі тканым абрусам і ў цэнтр ставілі талерку ці патэльню з ежай. Мы тады ўсе з адной міскі елі, посуду амаль не было. Цягалі з цэнтру рукамі ці лыжкамі. Лыжкі драўляныя былі, у кожнага свая.

Нават на вяселле ў вялікіх місках ставілі якую капусту на стол. І з гэтых місак усе ядуць, чалавек восем з кожнай. Лыжкамі толькі цягаюць, на абрус наліюць. Яго потым павешаюць каля печы, каб высах, закарэў. І чарак не было. Можа, якая адна на дзесяць чалавек. Патроху ў яе наліваюць і адзін аднаму перадаюць.

А на вяселле мяса навараць, напякуць сухароў, булак, зробяць сыр з маслам, вось і стол. Як летам, то яшчэ зялёную цыбулю ставілі, а зімой — капусту кіслую. Хто ідзе на вяселле, дык сыр і масла нясе. Як гэтага сыру прыносілі шмат, то з яго пяклі сырнікі і сушылі на ўсю зіму.

А людзей столькі было на вяселлях! Гэта цяпер ніхто няпрошаны не прыйдзе, а раней усе прыходзілі. Стануць у дзвярах і глядзяць.

### Таццяна Мяшкоўская, 68 гадоў

Таццяна ўсё жыццё працавала ў бібліятэцы ў вёсцы Азярцы, а ў 1996-м годзе вырашыла стварыць там музей этнаграфіі. Яна сабрала ў аднавяскоўцаў рэчы, без якіх немагчыма было абысціся яшчэ пару дзясяткаў гадоў таму, і перайтварыла адзін з бібліятэчных пакояў у беларускую хату, каб паказваць школьнікам, як яшчэ нядаўна жылі іх бабулі і дзядулі.

— Мы большасць рэчаў з адной хаты прывезлі. Толькі печку самі пабудавалі. А як я па мясцовым радыё пра музей расказала, людзі самі сталі прывозіць, што ў іх захавалася. Ложак драўляны аддалі, люльку, якой сто гадоў, і шмат усяго яшчэ.

Ложак у нас, праўда, маленькі, амаль што для дзіцяці. Звычайна яны вялікія былі, каб па двое, трое дзяцей спалі. Ложак, які больш пекны, ля сцяны ставілі на бачнае месца. І калі ў хаце была дзяўчына, то гэта ўжо яе быў. І падушак шмат накладуць адна на адну.

Усе здзіўляюцца, што за фіранкі ў мяне. А гэта з паперы, так і раней выразалі, хоць ніхто не вучыў. І мама мая так выразала. Толькі паперы не было, з плакатаў рабілі. Неяк яна выразала з плаката са Сталіным. Участковы прыйшоў, сказаў: «Здымі ты, Надзея, гэтую фіранку, а то Сталіну ж твар выразала».

Зёлак шмат сушылі, яны прыемна пахлі. Але мацнейшы пах быў ад хлеба. Калі ў якім доме хлеб пяклі, то пах быў на ўсю вёску, здалёк можна было зразумець, у якой хаце ён гатуецца. Можа, зерне было такое.

А ўсе гэтыя абрусы самі і ткалі. Усю зіму жанчыны сядзелі па хатах, пралі, ткалі. Каб весялей было, хлопцы прыходзілі. Калі скублі пёры для падушак, хлопцы пачыналі жартаваць, што ім блага, і ўздыхалі моцна. Пёры лётаюць па ўсёй хаце, дзеўкі крычаць. Добра было, весела.

Больш за ўсё чакалі святаў. Такія гэта вясёлыя былі дні. Булкі пяклі, сахарам іх намазвалі. А яшчэ была ў нас такая гарбата ў брыкеціках, з яблыкаў, жмыху. Іх бацькі хавалі на паліцу, каб мы не дасталі. А мы ўсё роўна лазілі. Я неяк па радыё пра гэтую гарбату расказала. На наступны дзень сустракаю знаёмых жанчын, гавораць, што заснуць не маглі, усё гэтую гарбату ўспаміналі.

Ад чырвонага кута разыходзіліся вялікія даўгія лавы на дзве сцяны. Іх жа зрабіць лёгка — калодка, дошка і гатова. Хто багацейшы, дык і пафарбуе яе, а бяднейшы так і пакіне. На лаве і паспаць можна было. Жабракі амаль кожны дзень прыходзілі, вядома, ніякай пенсіі ж не было. Часам пускалі іх пераначаваць на лаве ці кавалак хлеба давалі.

У нядзелю пасля касцёла нехта ў ягады пойдзе, нехта на лаве сядзе пагаварыць. Хоць і хутары былі, часта на сяло прыходзілі адзін да аднаго. А вечарамі танцавалі. Няхай і рана ўставаць, не стамляліся. Маладыя былі.



Фіранкі з паперы ў Музеі этнаграфіі ў вёсцы Азярцы.



Старая «руская» печ у хаце Чаславы Квач.

**Юлія Барыла,**
**фота Ганны Грынкевіч**

# Захапляльная гісторыя Эміліі Плятэр, якая пражыла свае 25 гадоў больш свабоднай, чым яе сучасніцы

Як яе толькі не называлі! Амазонка, валькірыя, ваярка... Яна паспела зрабіцца сімвалам патрыятызму, фемінізму, трапіць у падручнікі і на банкноты. Цяжка пабачыць за гэтай лакіроўкай жывога чалавека — Эмілію, якая пражыла свае 25 гадоў больш свабоднай, чым яе сучасніцы.

Яна была немка паводле крыві. Яе продкі-рыцары перасяліліся з Вестфаліі ў XV стагоддзі на землі Лівонскага ордэна. З часам ордэн, які меў сталіцу ў Рызе, зрабіўся свецкай дзяржавай, а пасля аслабеў і аб'яднаўся з Рэччу Паспалітай. За стагоддзі немцы асіміляваліся і мала розніліся ад беларуска-літоўскай шляхты, захаваўшы хіба аддалены сантымент да гісторыі свайго роду. Напрыклад, у часе паўстання нашу гераіню сімвалічна пасвяцілі ў рыцары па старадаўніх звычаях... Ад немцаў-рыцараў, дарэчы, паходзілі і Рэйтаны — яшчэ адзін слаўны ў беларускай гісторыі род.

У XIX стагоддзі Плятэры былі багатай і разгалінаванай сям'ёй з маёмасцю па ўсім колішнім ВКЛ. Цікава, што і замуж нашчадкі рыцараў часта бралі мясцовых немак. Так зрабіў і бацька Эміліі, Францішак Ксаверы Плятэр, ажаніўшыся з Ганнай фон дэр Моль.

### Мама з татам не зжыліся

Эмілія нарадзілася 13 лістапада 1806 года ў Вільні. Палац Плятэраў быў на Замкавай вуліцы (цяпер Пілес), на спуску да Катэдры і гары Гедыміна. Тут прайшлі яе першыя дзевяць гадоў. Хацелася б напісаць «бясхмарных», але сямейнае жыццё таты і мамы не заладзілася: Францішак Ксаверы быў той яшчэ гуляка.

Пры гэтым ён быў патрыёт і не баязлівага дзясятка.

Чаго варты такі выпадак: з Вільні, адступаючы перад Напалеонам у 1812-м, выходзяць расійскія войскі. Граф Плятэр (не выключана, што падгуляўшы) стаіць на балконе, апладзіруе і крычыць услед натоўпу ўзброеных і яўна не ў духу людзей: «Шчаслівай дарогі!» І хаваецца толькі тады, калі гусарскі маёр Гельд, знаёмы Плятэра, загадаў страляць у яго...

Да 1815-га жыццё з Францішкам стала для строгай і адукаванай Ганны невыносным. Стомленая ад загулаў, яна ўрэшце сказала «Досыць!» і з'ехала з Вільні ў маёнтак Ліксна пад Дзвінскам.

Тут Эмілія і расла. Яе таварышамі па гульнях былі стрыечныя браты. Прырода, адносная свабода, хлапчукоўская кампанія — і вось вынік: з большым задавальненнем, чым вышываць, Эмілія ездзіла верхам і страляла. Але ў дзікую амазонку не ператварылася, гэтага не дапусцілі б немцы-гувернёры фрау Вольф і гер Дальвіг. Эмілія вольна гаварыла па-французску і па-нямецку, грала на фартэпіяна. А яшчэ — чытала запоем, у дзядзькі ў Ліксне была выдатная бібліятэка.

Яе ідэаламі робяцца Жанна д'Арк і Бабуліна — гераіня змагання за незалежнасць Грэцыі, што на свае грошы абсталявала тры караблі і сама імі камандавала. Трэцім у гэтым юнацкім пантэоне быў Тадэвуш Касцюшка.

### Кузены-філаматы

Калі б дзяўчат бралі ў той час ва ўніверсітэт, яна б апынулася ў віры філаматскага руху. Гэтае таемнае таварыства ўтварылі ў Вільні пяць студэнтаў, і за кароткі час яно ахапіла ўсё ВКЛ. Філаматы ні з кім не хацелі ваяваць: яны хацелі сябраваць, вучыць, лячыць... Іх мэтамі былі асвета і помач таму самаму народу, з працы якога яны жывуць.

Былі філаматамі і кузены Эміліі, якія вучыліся ў Віленскім універсітэце. Разгром іх руху і адбыўся пасля таго, як адзін з іх, Міхаіл Плятэр, напісаў на класнай дошцы «Нехай жыве канстытуцыя 3 мая!». У Расійскай Імперыі ўхвала польскай канстытуцыі, прынятай перад паўстаннем Касцюшкі, лічылася антыдзяржаўным выступленнем. Міхала, як і многіх іншых, гвалтам забралі ў салдаты.

### Каверы на фано і народная готыка

Разграмілі філаматаў якраз у год, калі Эміліі споўнілася 18. Ці яна выршае пацыху працягваць іх справу, ці проста захацела пабачыць свет? Яна выпраўляецца вандраваць па ўсім краі. Гасцюе ў шматлікіх сваякоў, бывае ў вёсках — беларускіх, літоўскіх, латышскіх. Яе цікавяць народныя песні. Сяляне ад душы спявалі іх маладой паненцы — яна ж плаціла за гэта! Тут прыдалася і музычная школа фрау Вольф: Эмілія памайстэрску рабіла каверы народных песень, умеючы перадаць на фартэпіяна тэмбр і характар гучання розных народных інструментаў.

І, што зусім незвычайна, яна навучылася галасіць. Раней гэта быў абавязковы звычай на пахаванні: тэксты песень-галашэнняў былі розныя, у залежнасці ад таго, памёр малады ці стары чалавек, якога сацыяльнага статусу. Эмілія асвоіла гэта вусцішнае майстэрства не горш за прафесійных народных плакальшчыц.

Пра ўсё гэта мы ведаем з успамінаў яе малодшага сучасніка, Максіміліяна Маркса. Яму было 15, калі Эміліі не стала, і лёс яго таксама досыць тыповы для таго месца і часу: спачатку ўдзельнік паўстання Каліноўскага, пасля — стваральнік першай метэастанцыі на Енісеі.

### Як да Эміліі сватаўся генерал

Да канца 1820-х адносіцца і адзіная вядомая нам гісторыя пра сардэчныя справы Эміліі. Ёй зрабіў прапанову расійскі генерал Міхаіл Каблукоў. Сур'ёзны і забяспечаны чалавек, ён быў камендантам Дынабургскай крэпасці, ведаў сям'ю Эміліі. Але атрымаў гарбуза.



Ёсць дзве версіі чаму. Першая — патрыятычная. Эмілія, сэрца якой балела за знішчаную Рэч Паспалітую, проста не магла выйсці замуж за прадстаўніка акупацыйнай адміністрацыі. Другая версія — больш банальная: яе сэрца ўжо было занятае.

Ёсць непацверджаныя звесткі пра закаханасць у маладога капітана інжынерных войскаў — ці то Дальвінга, ці то Даля-Івінга... Але да шлюбу справа не дайшла.

### Паўстанне ў адказ на мабілізацыю

Тым часам насоўваліся грозныя палітычныя перамены. Калі пасля перамогі над Напалеонам падчас Венскага кангрэсу было ўтворана Царства Польскае ў складзе Расійскай Імперыі, яму была дадзеная досыць вольная канстытуцыя. Аднак чым далей, тым часцей расійскія імператары (і па сумяшчальніцтве польскія каралі) парушалі яе.

Апошняй кропляй стала мабілізацыя, якую Мікалай I абвясціў на землях былой Рэчы Паспалітай, каб паслаць войска на здушэнне рэвалюцый у Францыі і Бельгіі. Ісці паміраць за чужыя палітычныя інтарэсы ніхто не хацеў. І 29 лістапада паўстанне выбухнула ў самой Варшаве, а ўжо ў снежні ахапіла Польшчу і перакінулася на землі Вялікага Княства.

Гэта не было адчайнае выступленне неарганізаваных і ненавучаных аматараў. Жылі яшчэ паплечнікі Касцюшкі, удзельнікі напалеонаўскіх паходаў, з іх фармаваліся палкі, якія маглі супрацьстаяць рэгулярнаму войску.

### «Усё жыццё рыхтавалася»

25 сакавіка 1831-га да паўстання далучылася і Эмілія. Дакладная дата вядомая, бо захавалася яе заява-дэкларацыя. Эмілія піша, што ўсё жыццё рыхтавалася да гэтага змагання.

Адгаворваць яе не было каму. Маці не стала годам раней, а бацька, які даўно меў іншую сям'ю, нават адмаўляўся з ёй размаўляць.

Ужо праз некалькі дзён мы бачым Эмілію на чале атраду з 280 пехацінцаў, 60 коннікаў і некалькіх соцень сялян-касінераў. Яна каротка пастрыглася, побач — каляжанка-ад'ютант Марыя Прушынская. Абедзве дзяўчыны ў вайсковай форме, узброеныя. Атрад выходзіць з маёнтка Дусяты і ідзе на Дынабург, каб заваладаць крэпасцю з запасамі зброі. Па дарозе, каля паштовай станцыі Даўгелі, яны разбіваюць невялікі расійскі аддзел.

Ці была Эмілія рэальным камандзірам, які аддае загады, вызначае план дзеянняў? Ці яна была проста сімвалам, які натхняе на барацьбу? Біёграфы згадваюць, што часам Эмілія губляла прытомнасць, адцягваючы параненых, часам свядома не ўдзельнічала ў баях (камандзір сабе такога дазволіць не мог бы). Поруч з ёй заўжды быў кузен Цэзары Плятэр, які тэрмінова вярнуўся дамоў з берлінскай вучобы, пачуўшы пра паўстанне. Відаць, ён і камандаваў у рэальнасці. Але ўжо для таго, каб ісці з атрадам, а не сядзець у маёнтку і чакаць брата з вайсковых вылазак, трэба была вялікая смеласць. Гэта быў выклік грамадству.

### «Куды яна лезе?»

Некаторыя сучаснікі раздражнёна пісалі пра яе. Маўляў, паненкі на полі бою былі толькі дадатковым цяжарам: іх трэба было ахоўваць, ратаваць. І ў лагеры ад іх адна распуста. «А як апрануты, зірніце», — крывіўся Ігнацый Клюкоўскі, аўтар успамінаў пра паўстанне, які бачыў Эмілію на свае вочы. Хоць не выключана, што абурэнне выклікаў сам факт з'яўлення жанчыны ў мужчынскай кампаніі і ў мужчынскай ролі.

Славуты Ігнат Дамейка, які таксама сустракаўся з Эміляй на паштанцкіх дарогах, быў больш прыязны. Ён пакінуў і адзінае апісанне яе: «Непрыгожая, бледная, але з круглым прыемным, сімпатычным тварам і блакітнымі вачыма, стройная, але не моцнага целаскладу; была сур'ёзная, выпрастаная, негаманлівая і мела строгі погляд, які адпавядаў яе меркаванням і прыстойнасці».

Мала падабенства з ідэалізаванымі партрэтамі, якія пасля стваралі мастакі.

Жанчыны бралі ўдзел у паўстанні як сувязныя і разведчыцы, яны трымалі ў сваіх маёнтках зброю (і нават выраблялі яе), кармілі і перахоўвалі паўстанцаў, лячылі хворых. Але каб ваяваць у мужчынскай вопратцы? За такое ўжо не палілі на вогнішчы, як у часы Жанны д'Арк, але нават паўстанцкі генерал Дэзідэрый Хлапоўскі, які неўзабаве прыйшоў у Літву з вялікім корпусам, раіў Эміліі пакінуць войска і вярнуцца дамоў. Пачуўшы адмову — што рабіць! — даў ёй званне капітана і прызначыў ганаровым камандзірам роты.

### Яе паўстанне

Вырашальным у лёсе паўстання стала бітва за Вільню ў чэрвені 1831-га. (Дарэчы, у ёй удзельнічала 11 жанчын.) Адолець рэгулярнае войска не ўдалося, і да канца жніўня паўстанне было задушанае. Маленькія разбітыя аддзелы прабіваліся за мяжу, у Варшаву. Ехала, разам з братам Цэзарам і сяброўкай Марыяй, і Эмілія.

Гэты год з яго бяссонніцай, голадам, стомай выматаў яе. За Аўгустовам у Эміліі пачалася гарачка, дзяўчына не магла далей ехаць верхам, і Цэзары вымушана пакінуў яе ў сялянскай хаце. Пасля Эмілію і Марыю прытуліў і атачыў клопатам гаспадар маёнтка Юстынова Ігнацы Абламовіч. Але сілы былі падарваныя незваротна, і 23 снежня Эміліі не стала. Захавалася яе магіла (цяпер гэта тэрыторыя Літвы), стаіць і сціплы помнік.

А пасля, як гэта часта бывае, пачалася слава і ідэалізацыя. Пра скон Эміліі напісалі газеты, натхнёны расповедам пра яе, Адам Міцкевіч склаў верш «Смерць палкоўніка», падключыліся мастакі, стварыўшы яе ідэальныя партрэты. Тыя партрэты пасля трапілі на грашовыя знакі. Яе імем называлі вайсковыя фармаванні і вуліцы... Ці была б сама Эмілія, строгая і негаваркая дзяўчына, рада такому? Калі яе прыклад дагэтуль здзіўляе, значыць, пачатае ёю паўстанне за свабоду ад стэрэатыпаў усё яшчэ ідзе.

Сяргей Мікулевіч

# Бульбу якіх сартоў лепш смажыць, якіх — варыць, а якіх — таўчы?

Розныя сарты бульбы адрозніваюцца між сабой па кансістэнцыі, крухмалістасці, салодкасці, колеры. Добры гаспадар мае ведаць, які сорт бульбы для якое стравы лепш выкарыстоўваць.



**Каб смажыць**

«Рэд Скарлет».

Ружовыя клубні з яркай жоўтай мякаццю добра захоўваюцца і не схільныя да тэхнічных пашкоджанняў. Праўда, спее бульба вельмі рана, таму мала хто выкарыстоўвае яе для зімовага захоўвання. Мякаць выдатна трымае форму, таму добра пасуе для смажання.

«Вінета».

Высокаўраджайны сорт, які не баіцца сушы і хвароб. Такая бульба пасуе як для смажання, так і для запякання, добра трымае форму і прыемная на смак. Мякаць можа быць цямнейшай або святлейшай, у залежнасці ад умоў надвор'я.

«Скарб».

Гэты спраўджаны беларускі сорт мае не вельмі высокае ўтрыманне крухмалу, таму добра захоўвае форму падчас смажання і не развальваецца.

**Каб варыць**

«Рыўера».

Гэты сорт бульбы адзін з самых ранніх. Аднак ужо праз пару месяцаў клубні нярэдка загніваюць, таму есці яе трэба адразу пасля выкопвання. Па структуры клубняў «рыўера» — універсальны сорт, яна пасуе для любых страў.

«Гала».

Клубні «галы» адрозніваюцца ярка-жоўтай мякаццю, універсальным смакам і сярэдняй сопкасцю, таму выдатна пасуюць, каб варыць.

«Імпала».

Гэты ранняспелы галандскі сорт бульбы з жаўтаватай мякаццю пасуе, каб варыць і запякаць.

**Каб таўчы і запякаць**

«Адрэта».

Надзвычай папулярны ў Беларусі сорт, выведзены ў Германіі. Добрая разварыстасць «адрэты» робіць яе ідэальнай для пюрэ. Добра захоўваецца ўзімку.

«Журавінка».

Беларускі сорт, які з'явіўся адносна нядаўна. Ён у меру сопкі, з жоўтай мякаццю і не вельмі цвёрдай ружовай скуркай. Выдатна захоўваецца і пасуе для ўсіх тыпаў страваў.

«Мелодыя».

Гэты галандскі сорт выведзены спецыяльна для паўночных краін і цудоўна захоўваецца ўзімку. Бульба даволі разварыстая, сопкая, таму з яе добра таўчы камы.

**Ілья Параскевіч**

# Чаму мужчыны раздражняюцца з любой нагоды і дрэнна спяць? Гутарка з доктарам

Гэтая хвароба даволі рэдкая, і часцей за ўсё на яе пакутуюць мужчыны сярэдняга веку. Усё можа пачацца са звычайнага галаўнога болю і стомленасці, а закончыцца знясіленнем і абыякавасцю да ўсяго, што адбываецца вакол. Знаёмцеся, гэта — неўрастэнія. Прычыны ўзнікнення такога цяжкага захворвання, а таксама як яго пазбегнуць, мы абмеркавалі са спецыялістам медыцынскага цэнтра «Ладэ», доктарам-неўролагам вышэйшай катэгорыі **Аленай Васько**.




**— Што такое неўрастэнія? Якія сімптомы ў гэтага захворвання?**

— Неўрастэнія, або хранічная стомленасць, — псіхічны разлад, які выяўляецца ў павышанай раздражняльнасці, хуткай стамляльнасці, страце здольнасці да працяглай працы. Настрой хворага становіцца няўстойлівы, з'яўляюцца частыя галаўныя болі, галавакружэнні.

**— Якія фактары ўплываюць на развіццё такой хваробы?**

— Неўрастэнія развіваецца пры працяглым фізічным перанапружанні (напружаная праца, недастатковы сон, адсутнасць адпачынку), працяглай псіхічнай траўматызацыі, частых стрэсавых сітуацыях, асабістых трагедыях, працяглых канфліктах. Таксама яе ўзнікненню могуць спрыяць інфекцыі, якія паслабляюць арганізм, інтаксікацыі, хваробы эндакрыннай сістэмы, недастатковае харчаванне і іншае.

**— У якім узросце людзі найчасцей пакутуюць на неўрастэнію?**

— Неўрастэнія з'яўляецца даволі распаўсюджанай паталогіяй: хвароба сустракаецца ў 1,2–5% людзей. Найбольш часта на яе пакутуюць людзі 20–40 гадоў, прычым жанчыны трохі радзей, чым мужчыны.

**— Колькі існуе стадый захворвання і чым яны характарызуюцца?**

— Звычайна выдзяляюць тры стадыі. Пачатковая стадыя праяўляецца пераважна ў раздражняльнасці і ўзбуджальнасці. Хворага раздражняюць хуткія перамяшчэнні і размовы людзей, любыя гукі, шматлюдныя месцы, пацыенты таксама крычаць на блізкіх, калег, суразмоўцаў. Разам з гэтым зніжаецца працаздольнасць, але не толькі праз стому, а ў большай ступені праз няздольнасць засяродзіцца і пачаць неабходную справу. Пачаўшы ж занятак, чалавек доўга не вытрымлівае неабходнага псіхічнага напружання, сыходзіць з працоўнага месца, адцягваецца на пабочныя раздражняльнікі, затым ізноў з цяжкасцю пачынае працаваць, і так шмат разоў. Хвораму часта складана заснуць, а сон вельмі перарывісты, адкуль узнікае пачуццё нявыспанасці і яшчэ большай стомленасці.

Другая стадыя характарызуецца спалучэннем павышанай узбуджальнасці і раздражняльнасці са стамляльнасцю і хуткім знясіленнем. З нязначных нагодаў у хворага ўзнікаюць бурныя рэакцыі раздражнення або ўспышкі ўзбуджэння, якія звычайна нядоўгачасовыя, але частыя. Павышаная ўзбуджальнасць праяўляецца слязлівасцю, нецярплівасцю, мітуслівасцю. Губляецца здольнасць кантраляваць знешнія праявы сваіх эмоцый. З'яўляюцца скаргі на кепскую памяць.

На трэцяй стадыі да ўсіх сімптомаў дадаюцца слабасць ды знясіленне, санлівасць, прыгнечанасць. Хворыя заўсёды адчуваюць моцную стомленасць і не здольныя прымусіць сябе працаваць. Настрой становіцца трывожны, з паслабленнем інтарэсаў і адценнем суму.

**— Ці можа неўрастэнія сведчыць пра наяўнасць іншых захворванняў? З чым яе можна пераблытаць?**

— Пры абследаванні неабходна выключыць наяўнасць хранічных інфекцый, інтаксікацый і іншых захворванняў, пачатковай праявай якіх можа быць неўрастэнія. Частыя скаргі на галаўны боль могуць быць праяўленнем мігрэні, сасудзістых разладаў. Вялікі працэнт пацыентаў на прыёме ў неўролага складаюць людзі з галаўнымі болямі, якія ўзнікаюць праз доўгае перанапружанне і сціскванне мышцаў шыі і галавы.

Неўрастэнія можа развіцца і як праява паражэння галаўнога мозгу і іншых унутраных органаў. Нярэдка ў аднаго і таго ж хворага могуць сустракацца некалькі тыпаў галаўнога болю. Такім людзям патрабуецца рэгулярнае назіранне і кансультацыі дактароў сумежных спецыяльнасцяў.

**— Як перамагчы неўрастэнію? Як лечыцца гэтая хвароба?**

— У лячэнні неўрастэніі вялікае значэнне належыць выяўленню фактараў, пад уздзеяннем якіх яна ўзнікла, і іх ліквідацыя. Неабходна паменшыць псіхічную і фізічную нагрузку, увесці строгі рэжым працы і адпачынку. Важна захаванне правільнага распарадку дня, арганізацыя адыходу да сну і абуджэння ў адны і тыя ж гадзіны. Хворым на неўрастэнію карысныя пешыя прагулкі перад сном, свежае паветра, вітамінізаванае харчаванне, перамена становішча. Карысна будзе на час лячэння ўзяць адпачынак на працы.

Аднак аднаго толькі адпачынку і змены абстаноўкі бывае недастаткова. Часта даводзіцца звяртацца да спецыяльных прэпаратаў для купіравання праяваў хваробы. Таксама важна абмеркаваць з пацыентам ягоныя праблемы і прапанаваць варыянты іх вырашэння.

**— Як абараніць сябе і пазбегнуць узнікнення неўрастэніі?**

— Трэба імкнуцца да арганізацыі свайго жыцця такім чынам, каб выключаць узнікненне ўсіх тых сімптомаў, якія характэрныя для неўрастэніі. Неабходна своечасова сканчаць працу, пазбягаць перанапружання, адпачываць столькі часу, колькі патрэбна, каб адчуваць сябе бадзёрым. Ну і канечне, чым больш здаровы лад жыцця вядзе чалавек, тым меншая верагоднасць таго, што ён захварэе на неўрастэнію.

**Гутарыў Ілья Параскевіч**



# «Кацёнак»

— Сегодня будет ад, — сказаў Паша, дэманструючы далонню батарэю мудрагеліста аформленых і запячатаных сургучом бутэлек.

— В смысле? А что там? — перапытаў Ягор, мажны хлопец год 35-ці з кранутай белымі пасмамі барадой, айцішнік.

— Самогон, — Паша ўсміхнуюся.

— Бля-я-я, — Ягор тэатральна ўзяўся за галаву, — я пошел...

— Стоять, ни х..я! — Паша прыклаў трубку кальяна да вуснаў, было чутно, як недзе ўнутры алхімічнага апарата шалеюць бурбалкі. Ягоныя вочы смяяліся і праціналі суразмоўцу наскрозь.

Несцяровіч адно закашляўся і струсіў попел з цыгарэты ў празрыстую шкляную попельнічку. Не тое, каб ён не любіў кальян як жанр, не. Наўпрост з цыгарэтай усё прасцей. Кажуць, што люлька — гэта як твая сталая жанчына: яе трэба любіць, даглядаць, яна грэе далонь. Цыгарэта — як шлёндра: выпаліў і выкінуў, каб праз паўгадзіны зноў пацягнуцца да пачка — яны ўсе аднолькавыя. Што такое кальян, Несцяровіч яшчэ не прыдумаў. Ягоная люлька ляжала немаведама дзе, а мо ўжо і згубілася. Ён паліў цыгарэты. Да Новага года заставалася каля трох гадзін.

Паша, хударлявы чалавек без узросту ў пакоцаным швэдры, дзіравых джынсах ды кавалерыйскіх ботах (ён трымаў пару коняў), практыкаваў такі стыль зносінаў з блізкімі сябрамі і не толькі. Ён меў на гэта права. Гэта ягоная кальянная, ягоныя дзяўчаты-коткі ў чырвоных блузах ды чорных фартушках, ягонае прыглушанае святло, якое фарбавала ўсё і ўсіх колерам вохры, ягоны акіян з дыму, які часам гусцеў да такой ступені, што ў ім, падавалася, можна занурыцца... але ці выплывеш?

На Новы год шынок быў зачынены для паспалітага люду, таму хіпстары і студэнты з Блізкага Усходу адно цалавалі зашклёныя дзверы. Тут збіралася сваё кам'юніці. Пашава кам'юніці. Тыя, каго ён паклікаў з нейкай толькі яму вядомай ідэяй, якіх было поўна пад выстрыжанай іракезам чарапной каробкай, а магчыма, проста, каб накідацца. Чаму не?

— Фу-у-уф, здоров, Паш, пришел! — з сутарэнняў выплыў невысокі чарнявы хлопец у расхрыстаным пухавіку.

— Приве-е-ет. Принес? — Паша любіў расцягваць словы або наогул прамаўляць шэптам, каб усе прыслухоўваліся.

— Что? А-а-а... Забыл. Ну, быстро бежал, — хлопец пачаў скідаць пухавік ды круціць галавой у пошуках свабоднага лежака.

— Ну так п...здуй, чо пришел?

— В смысле?.. — чарнявы разгубіўся і выглядаў ужо на школьніка, які забыўся ў хаце дзённік.

— Ну, едь, бери, и сюда. Время ж есть еще до двенадцати.

— Мммм, а мне...

— Коля тебя завезет, он на входе.

— А-а-а, да? Угу, — «двоечнік» зноўку схаваўся ў цемры.

Гэта быў толькі пачатак, кам'юніці яшчэ збіралася, каб ляніва распаўзціся па лежаках, пацягваць тэкілу і ром, выпускаючы аблокі дыму. Кампанія даволі стракатая — кагосьці Несцяровіч ведаў, кагосьці бачыў упершыню. Айцішнікі, рэстаратары, каўказцы, цалкам незразумелыя асобы, дзяўчаты ў вячэрніх сукнях з нафарбаваным чорным пазногцямі...

— А што ён мае прынесці? — Несцяровіч узяў з блюда з нарэзкай кавалачак сыру.

— Спирт. Медицинский. Он врач, — Паша з сур'ёзным выглядам кіўнуў пару разоў.

— М-м-м... А гэтага ўсяго — мала?

— Естественно!

Па сценах з нетынкаванай чырвонай цэглы былі развешаныя партрэты князёў ды каралёў дзяржавы, па якой дагэтуль сумуе прыкладна трацiна Несцяровічавых сяброў. Аўгуст Моцны, Стэфан Баторы, Жыгімонт Ваза, крыху далей — Кірыла Тураўскі і Ян Караль Чапскі... Былі нават экзатычныя персанажы, кшталту Генрыха Валуа альбо Лжэдзмітрыя. Выява апошняга была некананічнай, з вусамі, у мехавой шапцы, і больш нагадвала вугорца Улада Цэпеша. Былі яшчэ старыя мапы, пара медзярытаў з батальнымі сцэнамі з вайны 1812-га года, бюст Касцюшкі на стойцы ды шмат іншага.

Са сценаў на людзей глядзелі цені мінулага, хаця самі людзі сярод аблокаў дыму, прыфарбаваныя святлом колеру вохры, нібы ўдзельнікі забытага рытуалу эпохі бронзы, таксама нагадвалі цені... Свет ценяў, куды можна трапіць, але выбрацца назад будзе ўжо складана. Несцяровіч таксама некалі зайшоў сюды і... застаўся. Ён часам разважаў, што яму нагадвае гэтае змрочнае месца з сістэмай выцягнутых і пераблытаных хадоў-калідораў? Лабірынт? Пекла? А магчыма ...наўпрост кішка?

— Слухай, Паш, а што гэта за люк? — Несцяровіч шчоўкнуў наском красоўка па масіўнай металічнай крышцы, якая вызірала з-пад лежака, наўпрост на падлозе.

— Люк. Канализация. Бездна с говном, короч, — Паша ізноў усміхнуўся, але не вуснамі, адно празрыстымі, як вада ўвосень, вачыма.

***

Вялізная кватэры падавалася халоднай і чужой. Таня блукала па ёй, ацэньваючы нестандартную італьянскую планіроўку з няправільнымі вуглаватымі выгінамі сценаў, кутамі нябачных памяшканняў, якія нагадвалі шыпы фартыфікацыяў. Падавалася, што тут папросту можна было заблукаць. За вакном 13-га паверха роў вецер, якога не было чуваць праз немату шклопакетаў: яна ведала, што вецер раве, і гэтага было дастаткова. Прайшоўшы праз студыю, спаяную з кухняй, яна падышла да балконных дзвярэй, адчыніла, ступіла босымі нагамі на прамерзлыя дошкі. За акном блішчэў агнямі, нібы Буэнас-Айрэс, заснежаны Мінск.

Калі яна адчыняла акно, замацаванае на калёсіках, зарыпеў заледзянелы ад дзённага сонца снег, а нейкі лядзяш адарваўся і паляцеў уніз. Халоднае паветра звонку, падавалася, учапілася ёй у валасы, наўмысна кусала твар, аголеныя плечы, пальцы. Яна яшчэ шчыльней захуталася ў коўдру, але не зачыняла, пакуль не зірнула ўніз. Там, на доле, не было нікога, адно раз'езды ад колаў ды самотныя аўто, запаркаваныя жыхарамі высоткі, якія сядуць за стырно адно ў новым годзе, ды не факт яшчэ, што на першы дзень. Троху далей быў стары парк, скаваны льдом вадаём, назвы якога яна не ведала, трубы нейкага завода і панарама сталіцы. Там, далёка, у сталёвых прамянях ззялі прывакзальныя вежы, цэнтр, а значыць — ён недзе там.

Вяртаючыся на кухню, яна ўключыла электрычны імбрык. Гарбата з зёлкамі — ці не найлепшы напой на Новы год? Тусоўкі, музыка, алкаголь — гэта не для яе. Ужо не для яе. «Але калі ён хоча... няхай, — Таня штораз пераконвала сябе ў тым, што ўсё зрабіла слушна, нібыта колькасць паўтарэнняў мела паўплываць на яе стаўленне да сітуацыі. — Ён свабодны, хай ведае, што я не буду выносіць мозг... Хай цешыцца». Яшчэ хвілінку яна разглядала магніты на лядоўні — з Тайланда, Прагі, Берліна, Львова, — а пасля, нібы апечаная, кінулася да круглага дубовага стала ў студыі: «Можа, званіў? Ці напісаў нешта, пакуль была на балконе?..»

Не, нічога. Пустка. Апошняе ягонае смс даслана тры дні таму, калі яна яшчэ была ў Вільні ды пакавала валізы, каб ехаць у шэры і самотны Мінск. На Новы год. Да яго. «Дабранач, кацёнак», — лаканічна, як заўсёды. А вось ужо і імбрык закаліхаваў... Кіпень змусіў высушаныя лісточкі чабору завіраваць у рытме танга, а ёй заставалася адно грэць рукі гліняным кубкам з хвалістым арнаментам. Рэшта прадметаў, якія атачалі яе ў ягонай кватэры, здаваліся максімальна халоднымі.

***

— Знакомься, эт Даша.

— Приве-е-е-ет, — шатэнка з курчавым валоссем і вытачаным тварыкам ускараскалася на высокае крэсла ля стойкі.

— Даша — стилист, работает в штабе Тро... кх-кхэх-кхэ! — Паша закашляўся, вымаўляючы імя вядомага расійскага апазіцыянера. — Сама из Минска, но сейчас в Москве уже... сколько?

— Три года! — дзяўчо ўсміхнулася.

— А это Лёша Нестерович, занимается тем же, что и тот п..здобол, на которого ты работаешь, только в Беларуси. Если будет умным и красивым — может, чот добьется. А, ну и махровый националист...

— М-м-м-м, — дзяўчына зрабіла выгляд, што ёй цікава.

— Вітаю, прыемна, — Несцяровіч нязмушана ўсміхнуўся.

Памяшканне пакрысе запаўнялася, з сутарэнняў выплывалі ўсё новыя і новыя пары, хлопцы віталіся з Пашам, дзяўчаты пагладжвалі яго па плячах, цалавалі ў шчаку ды ішлі далей, каб займаць вольныя пакуль лежакі. Паша абарочваўся не заўсёды, часцяком наўпрост падаваў руку праз плячо. Тут жа, поруч, бегала некалькі кальяншчыкаў у фартушках. Прынамсі адзін з іх, як падалося Несцяровічу, меў вытатуяваную невялічкую карону на шчацэ — нібы слязінку. Стылізаваная карона з зубцамі ў форме іклаў — сімвал гэтага шынка. Такая ж самая карона на Пашавым срэбраным сігнэце на левай руцэ. Золата ён чамусьці не любіў.

— Егеря? — Паша зноўку звярнуўся да Дашы.

— Не-ет, вина. Красного.

— Катюша-а-а-а, вина даме! А мы пока фотки посмотрим, купил на днях...

Калекцыянеры, як вядома, падзяляюцца на два тыпы. Першы — гэта тыя, хто хавае свае скарбы і дрыжыць над імі ў глыбокіх пячорах нерамантаваных хрушчовак, як гномы ў казках. Другі — тыя, хто атрымлівае асалоду ад дэманстрацыі збораў, а часам з лёгкасцю дорыць прадметы сябрам ці калегам: нагуляўся — і хопіць. Паша належаў да другога тыпу. Гэтым разам ён паказваў на планшэце сканы здымкаў невядомага фатографа з падарожжа ў Туркістан у 1910-х, напярэдадні Вялікай вайны. З чорна-белых бачынаў усміхаліся раскосыя дзеці ў лахманах, суворы качэўнік у каракулевай шапцы стрыг барана, ягоныя супляменнікі збіралі альбо разбіралі юрту, а пад шырокім стэпавым небам з пагардай глядзелі на падарожніка ці тое магілы, ці тое малельні, складзеныя з дзікага каменю.

Каб лепш разглядзець здымкі, Несцяровіч падсунуўся бліжэй да Дашынага пляча, схаванага пад белай цішоткай, нават злёгку крануўся яго няголеным падбароддзем, адчуўшы сярод тытунёвага смуроду лёгкі пах яе парфумы. Даша азірнулася, на імгненне іх погляды сустрэліся. У ейных зялёных вачах гарэў агонь, які падаўся яму вельмі знаёмым, але... Зрэшты, можа, не вочы, а толькі агонь? Яе твар ужо не выглядаў чужым і штучным, але Даша як мага хутчэй зноўку ўтаропілася ў планшэт з далягдядамі Туркістана. Мабыць, каб не раздражняць гасціннага гаспадара гэтага прытулку самотных душаў.

***

Класік рэвалюцыі пісаў, што няма лепшага, як разглядаць кнігі з чу-



**Алесь Кіркевіч**

Нар. 1989 у Гродне, у сям'і гісторыкаў. Пасля Плошчы-2010 асуджаны на чатыры гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Памілаваны ў верасні 2011. Працуе журналістам у газеце «Новы Час».

жой бібліятэкі на «левай хаце», калі ты «сышоў на дно», калі ніводная мярзота ва ўсім свеце не ведае тваёй лакацыі. Таня праводзіла пальцамі па карашках выданняў, нібы грала на фартэпіяна: чорнае, белае, зноў чорнае... Кіплінг, Ламбразо, Герберт Уэлс... Дзіўны набор. Яна не ведала словаў класіка рэвалюцыі, не чытала «Вайны ў натоўпе». Рэвалюцыя была для яе рамантыкай панкаўскіх канцэртаў маладосці, прыгожым лозунгам на цішотцы альбо графіці на сцяне — адным вогненным словам, якое некалі магло змяніць жыццё. Некалі... Зрэшты, гэта не перашкаджала ёй разглядаць кнігі. Пра яе месцазнаходжанне сапраўды ніхто не ведаў. Ніхто, апроч Несцяровіча.

У кватэры было яшчэ шмат цікавага, часам незразумелага. Скажам, мапа Мінска на сцяне выглядала цалкам да месца: «Ён з Гародні, відаць, яшчэ не звыкся, чаму не?» Белы бюст Міцкевіча на падаконні — гэта нават рамантычна. Таня ўсміхнулася, узяла яго ў рукі і, пакруціўшы, паставіла на месца. А вось яшчэ бюст: чорны... плечы, шыя — усё нібы чалавечае, але галава — масіўная, з выкручанымі рагамі, налітымі жыламі па баках, поўсцю і вялізнымі пустымі вачыма без зрэнак. «Божа, што гэта...» — дзяўчо спачатку паднесла руку, каб крануцца, але так і не наважылася, хуткім рухам адсунула далонь назад. Пралыкнуўшы сліну, яна ледзьве чутна прамовіла ўголас: «Мінатаўр».

***

— Прынес, вот! — запыханы хлопец у пухавіку зноўку выплыў з цемры.

— М-м-м-м, молоде-е-ец, оно? — Паша паказаў вачыма на бутэлькуштоф з квадратным донцам.

— Угу.

— Чем докажешь?

Бачна было, што хлопец ізноў разгубіўся: амаль так жа, як на пачатку, калі быў адпраўлены па бутэльку на іншы канец горада. Пасля паўзы ён рэзкім рухам скінуў пухавік, закасаў кашулю па локаць, дапамагаючы сабе зубамі, і, урэшце, раскаркаваў сасуд. Празрыстае змесціва пацякло па пальцах, маленькімі кропелькамі спадаючы на падлогу. Некалькі столікаў побач спынілі размовы, дзяўчо непадалёк ад Несцяровіча схавалася за мажную спіну Ягора.

— Давай, давай, гуще! — Паша, не выпускаючы трубкі кальяна з вуснаў, настройваў відэакамеру на смартфоне.

Урэшце хлопец пстрыкнуў запальнічкай і павольна, нібы несучы апошнюю запалку ва ўсім свеце да ратавальнага вогнішча чалавецтва, наблізіў агонь да далоні. Вуууx! — сіняе полымя апанавала руку, нехта з дзяўчат за столікам крыкнуў, упала нешта металічнае: нож ці відэлец... Хлопец рэфлекторна збіваў полымя аб джынсы, аб пінжак, пакуль адзін з афіцыянтаў, той, з татуяваннем-каронай на шыі, які апынуўся побач, не накінуў на «жывую паходню» коўдру.

— Уау-у-у-у-у, клас! — Паша націснуў на стоп, адклаў смартфон і запляскаў у далоні.

Вакол пачуўся смех, нехта выдыхнуў з палёгкай, перад тым як падтрымаць апладысменты.

— Ну, будзьма?!

— Будзьма!

— Гэй!

— Будзьма!

— Гэй!

— Будзьма!

— Гэй! Гэй! Гэй!

Маленькія батыскафы з самагонам, тэкілай, ромам, бехераўкай ды ўсялякай усячынай паплылі па зале скрозь акіян дыму, каб на імгненне зліцца ў пацалунку, а пасля пераліць сваё змесціва ў страўнікі і галовы гасцей. Пакутнік, які, відаць, працверазеў пасля «фаершоу», таксама налілі кілішак. Тольькі заліўшы ў сябе самагон ды яшчэ раз зірнуўшы на далонь, якой, відома, нічога не сталася, ён павесялеў, пачаў усміхацца да нават адгукацца на жарты з усіх бакоў.

— Жареным запахло, клас!.. Еще раз? Тут не все сняли просто... — Паша прагнуў працягу шоу.

Вакол з-за сталоў у бок хлопца пацягнуліся рукі з запальнічкамі: пад агульны рогат кожны другі гатовы быў падзяліцца маленькім агеньчыкам з кішэні. Хлопец, аднак, быў не ў захапленні ад ідэі ды адмоўна захітаў галавой.

— Эт херня все, лей мне, — аднекуль здалёк у бок эпіцэнтра падзеяў спружыністай хадой набліжаўся таўстун год трыццаці ў каляровай цішотцы ды акулярах. Калі Несцяровіч усё правільна запомніў, ён працуе ці працаваў раней у «Белавія». — Лей мне на руку!

Заўважыўшы нерашучасць на твары «фаершчыка», таўстун сам узяў бутэльку, якую ніхто не паспеў закаркаваць, і абліў руку ажно па локаць. Здаецца, нават дзелавіта прасачыў, каб спірт пакрыў максімальную плошчу. Звычайна такназіраюць за алеем, які разліваецца па патэльні перад засмажкай бульбы-фры.

Зноўку пстрыканне запальнічкі — і зноўку слуп бела-блакітнага вогнішча. Розніца была ў тым, што таўстун не кінуўся гасіць яго адразу, ці то асмялеўшы пасля ўдалага заканчэння папярэдняга эксперыменту, ці тое... наўпрост «падвіс» на момант, пакуль полымя шугала водблiскамі ў лінзах ягоных акуляраў. Цікава, што ён там убачыў? Куды глядзеў? Ці нехта глядзеў адтуль на яго?.. Сітуацыю зноўку ўратаваў афіцыянт, полымя зінікла пад коўдрай.

— Бл....я-я-я! — твар таўстуна сказіўся, а вочы ператварыліся ў танюткія складачкі, схаваныя пад шклянымі шчыткамі ў модных рагавых аправах, цела сагнулася напалову.

Да хлопца падбегла даволі вульгарна размаляваная, як падалося Несцяровічу, бялявае дзяўчо ў бліскучай сукні, якое дагэтуль сядзела побач з былым альбо дзейным супрацоўнікам авіякампаніі. Разам з афіцыянтам яны павялі няўдаху ў сутарэнні, адкуль можна было трапіць як на вуліцу, так і ў прыбіральню ці на кухню, дзе ёсць халодная вада.

— Катюш, льда ему принеси! — вяла адазваўся Паша ў бок афіцыянткі-коткі ў чорным фартушку. Дзяўчо з сабраным у хвост валоссем ды кальцом у носе кінулася даганяць кампанію, што суправаджала «параненага».

«Далба...б, чо. Каждый сам кузнец своего... несчастья», — Пашу выпадак не асабліва засмуціў, апошнія словы ён прамовіў паблажлівым тонам настаўніка па фізіцы, які толькі што правёў з вучнямі эксперымент. Столікі побач таксама хутка пра ўсё забыліся ды вярнуліся да свецкіх размоваў — «Бахнем по сто?»

«Цікава толькі, што ён там убачыў, у агні?» — праляцела думка ў галаве Несцяровіча, хутка, нібы рыба брохнула недзе ля берагу, пакінуўшы колы на імклівай паверхні патоку няспынных вобразаў і асацыяцыяў. Ён выпіў. Даша таксама лыкнула з келіха свайго чырвонага, а пасля злёгку аблізала акрайчыкам языка тонкія вусны. Іх позіркі зноўку сустрэліся.

— Ты паліш? — Несцяровіч у момант адкінуў надакучлівыя думкі ды ўсміхнуўся дзяўчыне.

***

Таня змушала сябе чытаць з планшэта, захутаўшыся ў коўдру на канапе ў студыі. Але кніга, нешта там з рэжысуры ці апаратарскага майстэрства, не давалася: літары не складаліся ў словы, словы ў сказы, абзацы трэба было перачытваць па два-тры разы, каб нешта зразумець. Ейныя думкі былі далёка, а чытаць нешта ў такім стане — пакута, не інакш. Урэшце яна адкінула планшэт ды ўтаропілася ў столю: «Божа, што я тут раблю...»

Спачатку, з месяц таму, усё падавалася ёй казкай: размовы пра літаратуру, такт, звароты на «вы». Так, ён дзіўнаваты, бывае. Так, не ўсе ягоныя сябры ёй падабаліся — ад аднаго выгляду Пашы пры першай і адзінай сустрэчы яе кінула ў дрыжыкі: «Іракез, магерка пад XVII стагоддзе, кажух... Хто гэта?» Але ж сябры не радня — сёння ёсць, заўтра не. Сцерпіцца, не галоўнае.

Урэшце, жанчыны любяць заглядаць у Несцяровічавы шкляныя шэрыя вочы, а ён калі выпʼе... стае занадта камунікабельным і... Ну і што? Не чытаць жа праз гэта ягоныя смс-кі, не быць дурніцай, не-не-не... «Рэўнасць — прыкмета няўпэўненасці ў сабе» — гэтую фразу Таня нават на форзацы штодзённіка прапісала, каб не забыцца.

«Тэлефон, так! Урэшце, я хачу спакойна заснуць...» — Таня пацягнулася да белага корпуса смартфона, які ляжаў на падлозе побач, каб, як што, нічога не прапусціць, але... Выклікаў не было. Адгартаўшы да запісу «Каханы», яна скамянела на імгненне, яшчэ раз глянула ўакно, на столю, заплюшчыла вочы, глыбока ўдыхнула і, палічыўшы ў галаве да сямі, выдыхнула. Выклік. Пайшлі гудкі... Першы. Другі. Пяты. Сёмы...

«Ну бл..., какова х...я?!» — гэтыя словы яна прамовіла ўголас, амаль пракрычала. Нешта ўсярэдзіне змусіла вымавіць хоць нешта, хай і не ў слухаўку, хай ён не пачуе, хай яе ніхто не пачуе сярод гэтай пустэчы праклятых неабжытых сценаў. Смартфон паляцеў на падлогу і не разбіўся толькі таму, што трапіў на пухнатую паверхню дывана, які, здаецца, яшчэ захоўваў іх учорашнія сілуэты... Але тое было нібы сто год таму.

Яна скіравалася да дзвярэй... Клямка, уверх, уніз, яшчэ раз... Зачынена. Ключы? Так, ключы! Люстэрка, гачкі, маць іх, палічкі, тумбачкі, дзівацкі парасоль з драўлянай ручкай... «Ні х...я тут нет... Ні х...я!» Ёй хацелася крычаць, але рот адно адкрыўся, каб набраць паветра, нібыта ў рыбіны, якая трапіла ў нерат да спрытнага лаўца. Хацелася лыкнуць сліну, але ў роце ўсё высахла. Яе губы злёгку дрыжэлі.

Прыхіліўшыся спінаю да чорных металічных дзвярэй з матавай паверхняй, яна ўрэшце заплюшчыла вочы ды павольна спаўзла на падлогу, так і сеўшы на дыванку з гатычным надпісам. 'Salve' — гэта прывітанне па-лацінску. Так ён тлумачыў, калі яна ўпершыню зайшла ў гэтую кватэру. Тлумачыў і ўсміхаўся. І вочы ягоныя смяяліся... «Кончаная... За што?» — дзяўчо апусціла галаву на далоні, а кавалак коўдры, што прыкрываў яе незапатрабаванае сёння маладое цела колеру бронзы, споўз на кафельную падлогу, агаліўшы грудзі ды зацвярдзелыя ад холаду смочкі. Нарэшце, яна ўголас заплакала.

***

— ...Ну, война, и чо? Там, во всяком случае, первые лица страны под «Здравствуй, чужая милая» не зажигают. Угу. Там культура, театр, кино. А тут? Деньги, — Даша выпусціла шэры струмень з лёгкіх, — тоже там...

— Ведаеш, я думаў, каго-о-о ты мне нага-а-адваеш...

— Н-у-у-у, и? — яна ўсміхнулася і паблажліва паглядзела на Несцяровіча.

— Гэтыя вочы... Я іх бачыў. У Берліне, — Несцяровіч некалькі разоў махнуў рукой, нібыта Берлін знаходзіцца там, за сценкай, — і пасля. Тут... У Кур-р-рапатах.

— Где, прости?..

Ён зацягнуўся, на імгненне ўтаропіўшыся ў канцэртную афішу на сценцы, пасля чаго расчавіў недапалак у празрыстай попельніцы. Яны палілі ўдвух на драўлянай лаўцы ля выхада. Перыядычна па той бок празрыстых шкляных дзвярэй праносіліся таксі, а па падлозе праслізгвалі цені мінакоў.

— Не важна.

— Не важно, — яна зноўку ўсміхнулася і акуратна прыбрала пасму валасоў з ілба: між пальцаў была заціснутая тонкая цыгарэта.

Спрытным рухам Несцяровіч запусціў далонь у гэтыя курчавыя валасы, намацаўшы шыю, ды падцягнуў дзяўчо да сябе, смакуючы тонкія вусны. Ягоная левая рука тым часам ужо намацала сумёты грудзей. Даша была без станіка, а Несцяровічава рука ўжо схавалася пад белай цішоткай... Даша войкнула, не адрываючы вуснаў, адно прыадкрыла на момант бліскучыя апантанасцю зялёныя вочы: яе правая рука з цыгарэтай была бездапаможна выцягнутай у пустку.

Несцяровіч ачомаўся адно, калі з вуліцы пачулася кананада. Салют. Значыць, ужо дванаццаць. Водбліскі агню адбіваліся ў шыбах сталінкі насупраць, а ў прыпаркаваных аўто ўніз па Маркса пачала спрацоўваць сігналізацыя.

— Э-э-эй, — гэтым разам ужо Таня паклала яму руку на патыліцу, злёгку пагладзіўшы валасы з рэдкай сівізной.

Ізноў пацалунак, і ягоная рука ўжо спускаецца ніжэй ейнага пояса, адчуваючы цяпло ўнутранага боку сцёгнаў, шво пакрову сініх джынсаў, металічную маланку, нарэшце, дабраўшыся да крыніцы цяпла, якое не магла схаваць ніякая вопратка. Гэтае цяпло мела для яго асаблівы сэнс. Пакутуючы ад галаўных боляў прыкладна раз на месяц, ён абавязаны быў знайсці дзяўчыну ды наўпрост пакласці ёй галаву ніжэй за пояс, ля паха. Няважна, якую дзяўчыну. Няважна дзе. Тады, праз хвілін дзесяцьпятнаццаць, ад болю не заставалася і следу, а сам ён часам засынаў. Гэты спосаб ён некалі адкрыў выпадкова, каб не забываць на яго ўжо ніколі. Чаму так? Ён не мог патлумачыць.

— М-м-м, хорошо, — у праёме стаяў Паша, задаволена ўсміхаючыся ды сціскаючы ручку палкі.

Несцяровіч спачатку тузануўся, убачыўшы каржакаватую фігуру, што ўпіралася плячом у сцяну з нетынкаванай цэглы. Даша ў момант адсунулася ўбок ды тыльнай часткай далоні выцерла вусны. Хуткім рухам згасіўшы недапалак, яна скіравалася да Пашы, слізнула мімаходзь пальцамі па ягоным плячы ды знікла на лесвіцы, што вяла ў асноўнае памяшканне. Паша правёў яе позіркам, каб затым звярнуцца да Несцяровіча звыклым іранічным тонам:

— Загрустил? Чо, по 50?..

***

— Это Вова, — Паша ўказаў на невысокага шчуплаватага хлопца ў пінжаку з хударлявым тварам і лёгкай няголенасцю. — Я про него рассказывал, он работал в Сьера-Леоне, кажется, у-кхэ-кхэ-э-э, — пакуль Паша кашляў, Вова, які сядзеў тут жа, усміхнуўся і жэстам паказаў, што ідзе ў прыбіральню. — Стой! Ладно... Так вот, он там... Помните историю про исчезнувшего российского геолога? Угу, читали. Так вот. Его искали, думали, в плен кто взял для выкупа или съели... Все оказалось интереснее...

—Да-да, в ленте «фэбэ» кто-то постил... — Ягор яшчэ мацней прыабняў сваё чарнявае дзяўчо. Была ўжо прыкладна другая гадзіна ночы, і камʼюніці канчаткова ператварылася ў купкі па інтарэсах: нехта танчыў, нехта спаў тут жа, нехта, хістаючыся, цягнуў партнёра ў прыбіральню...

— Так вот, — Паша працягваў, — этого геолога все-таки нашли... Мертвого. Его взяли в плен, посадили в яму или куда-то там. Но не для выкупа...

— А зачем?..

— Слушай! — Паша махнуў рукой і адмоўна пахітаў галавой. — К нему каждую ночь водили баб. Из племени. Ну, чтобы он их тр...хал, или они его... а вождь, или там шаман, считал, что так улучшает генофонд своего... комьюнити, — Паша зацягнуўся кальянам. — Так и затрахали.

— Же-е-есть, — Ягорава дзяўчо прыклала далоні да вуснаў, зрабіўшы вялікія вочы.

Несцяровіч адно ўсміхнуўся ды пацягнуўся па чарку... там было ўжо пуста.

— Давай сюда, — тут жа адазваўся Паша.

— Не-не, пакуль хопіць, — Несцяровіч прыўстаў. — А колькі часу?

— Якая розніца? — Паша часам любіў выдаваць кароткія фразы пабеларуску. — А, Даш, какая разница?

— Нет разницы, — паўшэптам пагадзілася Даша, хаваючы ўсмешку ў келіху.

— Я... зараз, — злёгку хістаючыся, Несцяровіч падняўся, спрабуючы зразумець, дзе пакінуў сваю куртку.

Дабрацца да яе было няпроста: зверху вырас ужо цэлы сумёт з паліто, дублёнак, шалікаў ды ўсялякага рознага. Ага, вось, ёсць. Тэлефон у кішэні...

На месцы. «Кацёнак». Два прапушчаныя. Несцяровіч сціснуў сківіцы. «Перазвоньваць? Зараз?..»

— Э-эй, ну чо там? — Паша праз плячо гукнуў з іншага канца залы.

— Зараз, хвілінку.

«Набраць, каб не шкадаваць пасля» — фармулёўка падалася Несцяровічу даволі пераканаўчай. Першы гудок. Другі. Трэці. Пяты... «Спіць? Верагодней за ўсё... Бл...!» Несцяровіч павольна правёў далонню па некалькі дзён няголеным твары, нібы намацваючы знаёмыя контуры, каб зразумець: гэта яшчэ ягоны твар альбо ўжо не. Расплюшчыўшы вочы, ён заўважыў на сабе нечы позірк. Гэта яна, Даша, падняла келіх, нібыта пʼючы за яго здароўе, а затым ледзьве бачна лізнула кранчыкам языка сценку келіха і толькі пасля пакаштавала, не адрываючы ад Несцяровіча смарагдавых вачэй.

— Ты все-е-е-е? — Паша кінуў у бок Несцяровіча, які ўжо нацягнуў на адну руку куртку і з цыгарэтай рашуча скіроўваўся ў сутарэнні, за якімі было выйсце.

— Не, я пакурыць.

— Тут куры.

— Я... зараз.

Дзверы нарэшце грукнулі за ягонай спінай. Хлопец зашпіліў куртку, пстрыкнуў запальнічкай і пусціў першы струмень дыму ў марознае паветра. На вуліцы з прыкрытымі белай коўдрай ходнікамі было пуста. У праменях ліхтароў было відаць, як з неба няспешна спускаюцца невагомыя сняжынкі. Некалькі крышталікаў апусцілася на ягоную далонь, якая сціскала цыгарэту. Несцяровіч нават паспеў ацаніць гармонію іх дасканалай канфігурацыі, якая праз імгненне ператварылася ў нішто.

***

У вокнах Несцяровічавай кватэры ўжо не было святла. У кухністудыі на круглым стале з цёмнага дрэва стаяла самотная свечка. Аганёк час-почас выгінаўся з боку ў бок: адзін шклопакет быў прыадчынены, праз шчыліну ў памяшканне заляталі рэдкія сняжынкі, каб тут жа ператварыцца ў кропелькі вады на белым пластыку падаконня. Водбліскі святла танчылі на нямецкіх піўных куфлях, калекцыю якіх сабраў арэндадаўца кватэры, на акварэлі з выявай парыжскай кавярні, што вісела над канапай, на чорным скульптурным абліччы Мінатаўра.

На канапе, захутаўшыся ў клятчатую коўдру, нерухома ляжала Таня. Побач з ложкам, на падлозе, сумаваў пачаты пачак «*Sobranie*»: яна ўсё ж

Працяг на старонцы 22.

# Як змяніўся беларускі краявід за 150 гадоў

**На сёння малюнкі Орды — адна з рэдкіх крыніц інфармацыі пра тое, як выглядала Беларусь у дафатаграфічную эпоху.**

Беларуская зіма, да якой, безумоўна, адносіцца і першая палова сакавіка, – самы час выправіцца ў падарожжа па Беларусі шляхамі Напалеона. Але не таго, што страціў на Бярэзіне зімой 1812-га Вялікую Армію і, як кажа паданне, адступаючы, схаваў у адным з беларускіх азёр залатую карэту.

Гаворка пра мастака Напалеона Орду. Ён пакінуў нам спадчыну непараўнальна каштоўнейшую: зрабіў тысячу малюнкаў беларускіх сядзіб, замкаў, гарадоў.

Штосьці з зафіксаванага Ордам дастаяла да нашага часу праз дзве сусветныя вайны, штосьці ўжо адноўлена, іншае яшчэ можна аднавіць.

Мы праехалі ад Мінска да радзімы мастака, на Палессе, у вёску Варацэвічы (цяпер Іванаўскі раён). Гарады, якія будуць нам трапляцца па дарозе ад Мінска да старога Янава, некалі наведваў і маляваў сам Напалеон Орда. Мы рабілі фоты з таго ж ракурсу.

Усе фоты і відэа з мясцін, якія маляваў Орда, можна пабачыць на сайце *nn.by*.

Праект стаў магчымы дзякуючы падтрымцы МТС 4G.





**Так выглядала плошча Свабоды ў Мінску 150 гадоў таму. Тады яна насіла назву «Верхні рынак».**





**Мірскі замак у часы Орды стаяў закінуты. Больш чым за 150 гадоў Мірскі замак прайшоў шлях ад пустуючых руінаў на малюнку Напалеона Орды да аб'екта сусветнай спадчыны ЮНЭСКА.**





**У Янаве (цяпер Іванава) Орда маляваў плошчу з каплічкай. Капліцы няма, паблізу — помнік ужо іншай эпохі — пафарбаваны ў залатое Ленін!**





**Ружаны былі некалі гняздом слаўнага ў гісторыі роду Сапегаў. Кантраст пейзажу праз 150 гадоў: жылы палац і разбураная брама ў часы Орды і навюткая брама з руінамі цяпер.**

## ☺ Анекдоты і жарты

У суседа перфаратар, затое ў мяне піяніна. Рамонты канчаюцца, а музыка вечная!

* * *

Не перавяліся яшчэ на Русі людзі гасударавы з даляраў у рублі.

* * *

А калі я вучылася ў школе, у нас ахоўнікаў не было. Цалкам з усім спраўлялася прыбіральшчыца з мокрай анучай.

* * *

Амерыканцы хацелі прапарцыйна адказаць Маскве на ўмяшанне Расіі ў амерыканскія выбары. Але не змаглі. Аказалася, што выбараў у Расіі няма.

* * *

На сумоўі пры прыёме на работу.

— Якімі мовамі валодаеце?

— Магу думаць, а галоўнае, маўчаць на ўсіх мовах свету.

* * *

Я ўжо пяць гадоў хаджу да адной і той самай цырульніцы. А стрыгуся — у другой.

* * *

Вялікабрытанія прыпыніць пастаўкі ў Расію запасных частак для *Rolls Royce* і *Bentley*.

Я шакаваны: вось гэта нож у спіну!

## «НН» 112 гадоў з вамі

**Малеч, каля Бярозы. Можам пахваліцца сваёй валасцю.** Гады тры таму назад поп узяў прысягу ад парафіі, каб не пілі гарэлкі; мужыкі са дзве нядзелі трымаліся, але паняй наноў узяліся за сваё. Тагды мужыкі, бачачы, што саўсім звесці п'янства няма сілы, дадумаліся хоць паменшыць п'янства. Яны зрабілі прыгавор у валасці, каб ніхто не меў права прадаваць гарэлку з дому — а толькі ў манапольцы; хто прадасць у хаце, той плаціць грамадзе штраф. І цяпер ужо нідзе ў нас не дастанеш з дому гарэлку. Ад гэтага п'янства паменшылася.

**«НН». 25 красавіка 1908**

**Аман (не ОМОН!) забудуе тры раёны ў сэрцы Менска.** Гаворка пра кварталы ўздоўж Янкі Купалы і Чырвонаармейскай. 25 гектараў сталічнай прасторы маюць намер забудаваць аманцы. Прадстаўнік інвестара — выканаўчы дырэктар дзяржаўнага генеральнага рэзервовага фонду Султаната Варыт Аль Харусі — запэўнівае, што гэта будуць архітэктурныя шэдэўры. Да праектавання забудовы цэнтра Мінска аманскія інвестары запрасілі адну з самых знакамітых брытанскіх кампаній — «Чэпмен Тэйлар».

**«НН». 4 красавіка. 2008**


**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

в. а. галоўнага рэдактара — Ягор Аляксандравіч Марціновіч
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец, Настасся Роўда, Андрэй Скурко
сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220004, Мінск, а/с 62
Tel/fax: (017) 316-48-13, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**




12 палос фарматам А2, 6 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у Аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» код BLBBBY2X.

Наклад 3001. Газета выдаецца 12 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 21.30 03.04.2018.
Замова 1300.
Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
9 771819 161008 18004